Цудоўная, ціхая плыла ноч, і толькі адно мне не падабалася. Увесь час паўз лавачку, на якой мы сядзелі, дэфіліраваў Люсін брат. Думаць, што ён проста прагульваецца, не выпадала: было позна, дый такія падлеткі, як ён, звычайна любілі гуляць талакою. Ясна — ён сачыў за Люсяй, за намі, і паслалі яго, відаць, бацькі.

Няўжо я быў падобен на спакусніка?..

Мне паслалі спаць на канапе, у асобным пакоі. У паласе месячнага святла, якое падала праз акно ў пакой, было добра відаць белае, як снег, прасціradла, якім заслалі канапу. Я быў няпэвен наконт сваіх ног: наскі мае хутчэй нагадвалі калошкі, я іх надзеў болей для фасону, бо ў чаравіках ступня была голая. Прайшоў я дванаццаць вёрст па пяску, і можна было лёгка ўявіць, якім заўтра будзе прасціradла. Я яго ціхенька зняў, згарнуў і паклаў на стол. Каб не забрудзіць нагамі канапы, падушку адсунуў ледзь не на сярэдзіну свайго ложа з тым разлікам, каб ногі віселі ў паветры. Ноччу я амаль не заснуў. За сцяной ляжала Люся, мая Люся... Спала яна ці думала пра мяне? Уражанні мінулага дня, вечара спляліся ў гарачы, супярэчлівы клубок і не давалі мне спакою. Яшчэ я баяўся таго, што калі засну, то раніцай Люсіна маці ці сама Люся зойдуць у пакой і ўбачаць, якія ў мяне брудныя, чорныя ногі.

Раніцай, адмовіўшыся ад снядання і выпіўшы толькі шклянку малака, я рушыў у мястэчка. Люся мяне праводзіла да веснічак...

Болей чым праз год, калі немцаў адагналі за Дняпро, Люся прыйшла ў мястэчка, каб правесці мяне на фронт. Паміж гэтымі двума нашымі спатканнямі ляжала цэлая паласа вялікіх і малых падзей. Летам, скінуўшы месяц пасля наведвання Бараўцоў, немцы мяне арыштавалі. Расстралялі дваіх нашых, маглі расстраляць і мяне. Але тыя, што пайшлі на смерць, аказаліся хлопцамі цвёрдымі і падпольных сакрэтаў не аддалі. Там, у турме, я, здаецца, нават не ўспомніў пра Люсю. Потым я быў у партызанах, хадзіў з вінтоўкай пад мястэчка. Страшэнна хацелася, каб Люся мяне ўбачыла з вінтоўкай, з чырвонай паскай на пілотцы, але наш атрад дзейнічаў па гэты бок чыгункі, і ў Бараўцы я трапіць не мог.

І вось Люся прыйшла ў мястэчка і прыслала да мяне дамоў Параску Бастун з наказам, каб я вечарам прыйшоў на кватэру да Паraскі. Была позняя восень, зямлю хапіла першым прымаразкам, і я не ішоў, а ляцеў у канец вуліцы Камунараў, грукаючы разлезлымі чаравікамі па замёрзлай зямлі.

Люся сустрэла мяне ў той самай, што і летась, белай шаўковай блузцы, толькі засціранай і не новай. На цвічку каля грубкі вісела яе парудзелае школьнае паліто.

Мы з Люсяй былі ўжо дарослыя, нам было па васемнаццаць гадоў, але пра што трэба гаварыць, мы не ведалі. Я, распрануўшыся, глядзеў на яе, яна — на мяне, і мы абое маўчалі. Параска паклапацілася: мы з Люсяй сядзелі ў чыстай, натопленай палавіне хаты, а ў пярэднім пакоі, каб не замінаць нам, лягла спаць Парасчына сям'я. Я, нарэшце, асмялеў, штосьці расказваў пра сваё партызанства, а Люся па-ранейшаму глядзела на мяне і маўчала.

Параска ведала, што я іду на вайну. З вайны не вярнуўся яе старэйшы брат, які загінуў яшчэ ў сорак першым, і яна, відаць, зусім не падзяляла нашага з Люсяй настрою. Яна з рашучым выглядам, які зусім не пасаваў да яе прывабнага твару, увайшла ў пакой і разаслала нам пасцель. Адну на дваіх...

За акном ляжала светлая, асенняя ноч, з крэсла я перасеў на ўслончык да Люсі, і, абняўшыся, прыціснуўшыся спінамі да цёплай грубкі, мы гэтак сядзелі. Пасцель нас чакала... Я думаў пра адносіны, якія існуюць паміж мужчынам і жанчынай, чакаў, што ўсё гэта будзе і ў мяне з Люсяй. І ўсё ж штосьці замінала. Што? Не ведаю сам. Можа звычайная юнацкая сарамлівасць, якой нялёгка пераступіць высокі парог той спрадвечнай тайны, якая аддзяляе мужчыну ад жанчыны. А можа і другое, яшчэ болей высокае. Не такой уяўлялася мне наша з Люсяй пасцель. Тое, што мусіла здарыцца, паўставала ва ўяўленні ў зусім інакшым, прывабнейшым, прыгажэйшым святле. Тут жа была звычайная, разасланая Парaскай пасцель, сялянская хата, парудзелыя, не надта добра выбеленыя сцены...

З Люсяй я праседзеў усю ноч. К раніцы нашы твары былі стомленыя, з сінякамі пад вачамі, і мы хавалі адзін ад другога позіркі.

— Можа і я пайду ў армію,— сказала яна мне на развітанне і заплакала.— Сустрэну там цябе...

Люся дала мне сваю фотакартку. Мяркуючы па даце, яна падпісала яе мне яшчэ ў Бараўцах.

## V

Там, у акупацыі, я ўсё-такі мала ўспамінаў Люсю, не шукаў з ёю сустрэч. Яна, яе каханне было для мяне як бы ў запасе. Скончыцца вайна, і тады прыйдзе ўсё, думаў я. У мяне нават не ўзнікала думкі, што Люся можа знайсці другога, лепшага за мяне. Я ведаў, што яна мяне любіць, яна сама пісала і гаварыла аб гэтым. Гэта было як бы гарантыяй таго, што наша каханне непахіснае.

Скончыцца вайна, тады прыйдзе ўсё...

Два ці тры разы мне перадавалі, што там, у Бараўцах, Люся ходзіць на вечарынкі, бавіць час з хлопцамі на лавачках. Я лічыў гэта глупствам. Няхай гуляе, калі ёй гэта падабаецца! Я думаў пра фронт, выношваў планы аканчальнага разгрому германскага фашызму. Я дакладна памятаў усе даты нашага наступлення, ведаў, у які дзень выбіты фашысты з кожнага, няхай сабе самага маленькага, горада Савецкага Саюза. За два гады вайны я добра вывучыў геаграфію тэатра ваенных дзеянняў. І я лічыў усё гэта куды болей важным і значным, чым маё каханне да Люсі.

Скончыцца вайна, тады прыйдзе ўсё...

Вайна не скончылася, а яно прыйшло. Хоць я лічыў сябе стратэгам, салдат з мяне выйшаў кепскі. Я дрэнна праціраў ствол аўтамата, і ў ім утварыліся ракавіны, якіх мог не заўважыць хіба толькі сляпы. Мяне лаяў камандзір аддзялення, маленькі, чорны, з прамалінейным, як аршын, характарам узбек. «Ті, Дубравэц, палітычна несазнатэльны...» На другі дзень пасля выдачы я згубіў кацялок, і мне не было ў што браць суп і кашу. Калі начавалі каля вялізнага, раскладзенага з сасновых суччаў кастра, абпаліў сабе крысо шыняля. Так я і хадзіў у падсмаленым шынялі, у абмотках, якія чамусьці заўсёды спаўзалі, з худым, выцягнутым, нібы гарохавы струк, тварам, на якім пачаў расці белы, мяккі пух. На Карэльскім перашыйку, сярод вялізных абымшэлых валуноў на брустверы траншэі, пракладзенай сярод камення, у мяне над галавой разарвалася міна. Асколкі пайшлі наўскасяк, маленькаму ўзбеку, камандзіру аддзялення, які сядзеў ля супрацьлеглай сценкі, распарола жывот, і ён крычаў: «Дубравэц, страляй мінэ, я не хачу мучыт...» Я не хацеў страляць, а каб і нава-



жыў, то не змог бы: з носа і вушэй цякла кроў, а правая пераламаная рука вісела, як бізун...

У брызентавай палатцы медсанбата, куды мяне разам з другімі прывезлі на чорным параненым кані, морфію мне не далі — ці не было яго ці мне не трэба было яго даваць. Я ляжаў на стале, аброслы буйнай рыжай шчэцціо, доктар штосьці рабіў з рукой, а чорнавалосая, з сінімі, як васількі, вачыма жанчына стаяла нада мной і выцірала мне марляй з ілба пот...

Дзён праз пяць я ўжо ганарыўся, што паранены: рука вісела на марлевай перавязі, перакінутай праз шыю, і пісаць лісты я не мог. Я прадыктаваў маладой, майго ўзросту санітарцы два: адно Люсі, другое — маці...

Я ўжо быў паўгода на вайне і яшчэ не атрымаў ад Люсі ніводнага ліста. Я лічыў, што яна, як і я, у арміі, пісаў яе бацькам у Бараўцы, каб дазнацца адрас, але адказу не было. Аднойчы, пасля таго як можна было думаць ужо, што яе лісты проста не даходзяць (за паўгода тры разы мянялася мая палявая пошта), я выйшаў з медсанбата, а полк стаяў на адпачынку на параскіданых сярод валуноў і лясных палян хутарках, мне здалося, што я ўбачыў Люсю. Яна, маленькая, з цёмна-русявымі завіткамі з-пад пілоткі, ішла па роўным схіле камяністага ўзгорка, на ўздым, і я здрыгануўся ад шчасця. Яна была тут, побач са мной!.. Я даганяў яе хвілін дзесяць, задыхаўся, узмакрэў, не дабегшы, аклікнуў яе, і яна азірнулася. Я памыліўся, гэта была не Люся...

Тут, на сапраўднай вайне, Люся была са мной кожную хвіліну. Ад дзяўчат з нашага класа, якія паспелі ўжо скончыць дзесяцігодку, я дазнаўся, што Люся не ў арміі, а вучыцца на настаўніцкіх курсах у бліжэйшым ад нашага мястэчка гарадку. І яшчэ ўведаў я сумную вестку пра маю дзяўчыну: яе бацьку, хоць ён быў і не малады, мабілізавалі ў армію, і ён, фельчар, памёр там ад тыфу. Цяпер я разумеў, чаму не піша мне Люся.

Восенню, ужо ва Усходняй Прусіі, мяне цюкнула яшчэ раз: маленькі, велічынёй з гарошыну, асколак засеў у патыліцы. Мне зноў пашанцавала: асколак мог быць большы, мог глыбей залезці. Тады ж, восенню, амаль праз год пасля таго, як мы правялі ноч у хаце Параскі Бастун, я атрымаў ад Люсі першы ліст. За гэты год я неяк выкараскаўся з нягод, якія так часта выпадалі мне на пачатку вайсковай кар'еры: насіў на пагонах сержанцкія лычкі, быў камандзірам аддзялення. Цяпер на такіх, якім сам я быў год назад, я глядзеў трошкі з пагардай, трошкі шкадаваў іх. Было ў мяне і франтавое каханне — цягнулася яно болей за месяц. Маю абранніцу звалі Галяй. Была яна курносенькай, насмешлівай сувязісткай з суседняга батальёна, і здарылася так, што мы разам ахоўвалі маёмасць палка, пакінутую да часу ў нямецкім гарадку.



Хадзіў да Галі, а думаў пра Люсю, якая прыслала два лісты і зноў змоўкла. Хваліўся падоранай фотакарткай, і ўсе, каму паказваў, пацвярджалі, што надзвычай прыгожая. Больш бывалыя, пасалдацку бессаромныя, выскаляліся, што, маўляў, такая ў дзеўках не засядзіцца і асабліва ўздыхаць не будзе. Усе ва ўзводзе ведалі, што лісты ад Люсі я атрымліваю надзвычай рэдка...

Быў верш, якога я нікому не паказваў, лічыў несамастойным, бо напісан ён быў на матыў славутай у гады вайны «Сіняй хусцінкі»:

В левый карман гимнастерки
Карточку я положу,
И на привале, с нежной печалью,
Я на нее погляжу.
Карточку эту простую,
В школьной тетрадке храня,
Ты подарила и говорила,
Что не забудешь меня...

Потым была Перамога. Былі чысценькія нямецкія гарады, белыя сцягі, якія, на дзіва ўсім нам, вывешваліся амаль з кожнага акна. Былі бясконца доўгія калоны панурых, з апушчанымі галовамі ваеннапалонных. Была ні з чым непараўнаная, бясконцая сваімі пералівамі радасць: «Мы перамаглі ў такой вайне — і я ў ёй удзельнічаў!..»

## VI

У адпачынак я прыехаў у пачатку зімы, праз два гады пасля таго, як пайшоў у армію. Таварны цягнік, на платформе якога дабіраўся да сваёй станцыі, цягнуўся марудна, падоўгу прастойваючы на ўсіх паўстанках і раз'ездах. Узбоч чыгункі — лес. Дрэвы хапіў прымаразак: яны стаялі голыя і сумныя і толькі лясны не ўкрыты яшчэ снегам дол чырванеў і залаціўся барвамі апалага лісця.

Нарэшце і мая станцыя. Яна знаёмая, ранейшая: прысадзістыя, пафарбаваныя жоўтай фарбай пакгаузы, выкладзены з чырвонай цэглы гмах вадакачкі, вялізныя, з шырокімі разгалістымі шатамі прыстанцыйныя таполі.

Пасля пацалункаў, абдымкаў з анямелай ад шчасця маці, з разгубленым, бездапаможным, як дзіця, бацькам, з братамі, вырасшымі, тонкімі, якія глядзелі на мяне ў нямым захапленні, пасля суседзяў, якія валам паваліі ў хату, роспытаў, радасных воклічаў, віншаванняў першае маё пытанне — пра Люсю. Бацькі пра яе ведаюць. Пісаў і ім, пытаўся пра яе, калі яшчэ ішла вайна.

Надвячоркам, толькі накінуўшы на плечы шынель, каб усе бачылі мой ордэн і тры медалі, я падаўся на вуліцу. Як радасна пазнаваць знаёмыя твары, якімі роднымі і блізкімі здаюцца нават тыя, на каго раней нават не звяртаў увагі, з кім, можа, і не вітаўся! Сёння ўсе са мной шчырыя, радасна здзіўленыя. Чалавек вярнуўся з вайны, вырас, пасталеў! Мужчыны, як з роўным, вітаюцца са мной за руку. Толькі асцярожна, як бы ненарокам, каб не пакрыўдзіць мяне, тойсёй скажа пра аднагодкаў, якія пайшлі разам са мной, але вось не вярнуліся.

Лёс мне зычыў выпіць у гэты вечар келіх шчасця да дна. Я паспеў толькі дайсці да цэнтральнай плошчы, такой жа пыльнай, неахайнай, з абшарпанай драўлянай трыбунай пасярэдзіне, як напаткаў адну са

сваіх аднакласніц, цяпер ужо студэнтку настаўніцкага інстытута, якая прыехала дамоў за харчовым падмацаваннем. Яна мне і сказала, што Люся ў мястэчку, купляе карову і, здаецца, яшчэ не паехала. Пра карову я чамусьці зусім не падумаў, кінуўся на ранейшую Люсіну кватэру, і прадчуванне мяне не падвяло. Люся была там.

Якая сляпая, невідушчая можа быць радасць, калі сама не хоча бачыць таго, што ператворыць яе ў боль і пакуту. Люся сустрэла мяне няласкава. Яна стаяла разгубленая, спалоханая і зусім не таіла сваіх пачуццяў. З выгляду была змізарнелая, бляклая — як бы цяжкая хвароба падтачыла яе і яна толькі-толькі стала на ногі. Але ўсё ж гэта была Люся, і, ахоплены нястрымным, няўрымслівым шчасцем, я не хацеў нічога заўважаць. Штосьці пытаўся пра здароўе, пра бацьку, які памёр, пра тое, ці многа пісала яна мне лістоў на фронт.

Яна збіралася на цягнік,— цяпер па чыгунцы, па якой мы некалі дыбалі ў водступ, хадзіў цягнік,— я адгаварыў яе, яна гаварыла, што заўтра ёй пільна трэба быць у Бараўцах — я згадзіўся зараз жа правесці яе да самых Бараўцоў. І здарыўся цуд. Люся як бы павесялела. Яна ўзяла з сабой маленькі вузельчык, і мы рушылі.

Калі мы выбіліся за мястэчка, з-за хмар выплыў месяц,— поўны, срабрысты,— і на дзіва прыгожым уявілася мне ўзгаркаватае, узаранае поле, шырокі, з раз'езджанымі каляінамі шлях, прыдарожныя, ахутаныя хісткімі ценямі кусты. Здаецца, звінела над усёй гэтай прыгажосцю нячутная песня — яе спявала шэрая ралля, попельна-сізае неба, далёкія, срабрыстыя зоркі. Мною авалодаў бес натхнення, і я гаварыў, гаварыў, не даючы Люсі прамовіць слова, ні аб чым яе не распытваючы. Мы ішлі з ёй па шляху ў Бараўцы, па тым самым шляху, па якім болей як чатыры гады назад я не здагадаўся яе правесці, але цяперашні «я» не ішоў ні ў якое параўнанне з тым, даўнейшым, які не быў ні на вайне, не меў ордэна і медаляў, нічога-нічога не бачыў і не ведаў.

Мы ўвайшлі ў лес. Голыя разгалістыя вершаліны вольхаў і бяроз ледзь чутна шумелі. Тут было змрачней, месячнае святло лілося зверху, вызначаючы сярод цёмнай сцяны дрэў светла-шэрую паласу шляху.

— Каробка Павел загінуў. Ты ведаеш, Люся?

— Ведаю.

— І Барчэўскі, і Петравец, і Аляшкевіч...

— Ведаю.

Мяне пачаў агортваць неспакой: усё-такі Люся гаворыць са мной нехаця, неахвотна. Што я ёй кепскае зрабіў? Але гэта быў толькі хвілінны настрой, ён адразу ж схлынуў з душы, як толькі мы выбіліся з лесу на залітую месячным святлом паляну. На ёй стаялі рэдкія, маладыя яшчэ дрэўцы, і цяпер — мяне нікольні не падводзіў слых — я пачуў ледзь улоўную, ціхую музыку. Як бы навокал звінелі маленькія, срэбраныя званочкі.

— Ты чуеш, Люся?

— Чую. Падымаецца вецер. Трэба хутчэй дадому.

Я адчуў, што сапраўды вецер узмацніўся і пад яго павевамі звініць сухое, неапалае лісце на маладых дубках, што стаяць на паляне.

— Давай пасядзім, Люся.

Яна села на ўзбочыне шляху, побач са мной, апусціўшы ногі, абутыя ў чаравікі з высокімі халяўкамі, у канаву. Перад намі ляжала залітая срэбрам з цёмнымі сілуэтамі дрэў паляна, і па-ранейшаму ледзь чутна звінела лісце.



— Я вінаваты перад табой, Люся. У мяне было з адной... Сама ведаеш, што... Але я люблю цябе...

Яна раптам забілася, як птушка, злоўленая ў сіло, і, гучна захлынаючыся рыданнямі, заплакала. Я гладзіў яе па валасах, яна сядзела, уткнуўшы галаву ў калені.

— Ну, скажы што-небудзь... Я ж цябе люблю...

— Даруй мне, Сяргей,— прамовіла яна на дзіва спакойным голасам.— Я не твая. Трэба было раней сказаць ці напісаць. Я замужам. Яшчэ не запісаны, але ўсё адно...

Я ўсхапіўся на ногі, праз хвіліну зноў сеў побач з Люсяй, паклаў ёй руку на плячо. Яна асцярожна зняла маю руку. Яе рука была халодная і вялая. На паляне як бы пацямнела. На круглы, серабрысты месяц набягалі шэра-сізыя, як дым, воблачкі, і было такое ўражанне, што гэта не воблачкі, а месяц некуды імкліва ляціць. Па-ранейшаму ледзь чутна звінела дубовае лісце. На паляне раслі зімовыя дубы, і лісце на іх трымцела праз усю зіму, да сталай, цёплай вясны, пакуль на разгалістых, каструбаватых галінах не праклюнецца новы зялёны лісток...





**Кастусь ЦВІРКА**



# Чатыры вятры

*Маёй маці.*

1



Я абганяю бульбу —
яна пабялела на сонцы.
Плуг, быццам човен у хвалю,
у глебу міжраддзя нырае.
Плыве ў чарназёме лёгка,
Чыркне аб камень знянацку
І зноў
у пухкай зямельцы тоне.
Іду ды іду баразною.
Над соткамі — марыва поўдня.
Я дома, у мацеры, босы.
Жаваранкі ды зязюлі.
Патузваю толькі лейцы —
не вывернуць корч бы раптам...
Пад майкаю вецер ходзіць,
ступня па зямлі ступае...



О, як гэта проста —
за плугам ісці баразною.
О, як гэта мудра —
за плугам ісці баразною.

2

Цэлае лета бясконца палі
камочкам кожным
сонца пілі.
Яно у насенні брадзіла, гуляла,
сонца.
Светлымі парасткамі прарастала,
сонца...
Цяпер па зямлі скрозь — зірні — шугае
сонца.
З раніцы людзі гуртом убіраюць
сонца.
Сыплецца ў бункер жыта струменем — сонца,
Падае яблык, увесь у праменні — сонца,
На градах лісцё качаны раскрылі — сонца,
Сонца, сонца, сонца...
Гляджу, як грузяць на грузавікі
сонца,
Вязуць на пыльныя бальшакі
сонца.
Хутка запоўніць усе гастраномы
сонца.
Яго разбяруць па кватэрах умомант,
сонца.
Твары ва ўсіх навакол расцвітуць
сонцам.
Дык як жа дзякаваць тым, што даюць
сонца!

3

Заўчора пад дзень
над Анцінымі вязамі
Гусі праляцелі —
туды, на Зазер'е,
А сёння сыплецца —
на дровы, на пералазы —
Снег —
белае пер'е.
Маці адставіла ўбок даёнку,
Глядзіць за шыбы нямыя:
Снег
накрывае
марляю тонкаю
Гароду
груды рудыя.
Зіма...
Няўжо гэта праўда,
Што ўжо яна
на дварышчы?
Во рукі ж гараць яшчэ —
не даць ім рады —
Ад асакі ды іржышча...

4

Сакавік, а да соку —
далёка:
Пад бярозай —
сумёт па плот.

Мне ж даводзіць сарокі строкат:
Снег не снег ужо,
лёд не лёд.
Глянь, забіла ў садзе крынічка,
Набракаюць у ліп камлі.
Разарвалася недзе нітачка,
Што трымала зіму
на зямлі.
Цэлы дзень сёння маці ля арфы:
Прыадчыніш акно —
гуд і гуд.
Толькі ў поўдзень, ад сонца яркі,
Сціхла.
Цокаюць кроплі аб грунт.
Чую крокі ля вокан: маці!
Ледзь у хату — і да вады.
Пылу, пылу на хусце: памацай —
Астануцца пальцаў сляды.
Ёй прылегчы б, ды хіба ж захоча:
Палівае расаду,
зноў, зноў,
І расказвае: хутка адскочыць
На балоціне чарнагалоў.
Твар свіціцца.
І нават маршчыны
Зніклі некуды, як адна:
З-за нябачаных далячыняў
Зноў вярнулася ў сэрца
вясна.



Каля 900 мільёнаў кіламетраў праходзіць наша планета за час поўнага кругавароту вакол Сонца. З кожным ударам сэрца мы, жыхары Зямлі, перамяшчаемся ў сусветнай прасторы прыкладна на 30 кіламетраў.

(З падлікаў вучоных.)



ы смяёмся і плачам,
Носім бухты і бітвы,
А планета нябачна
Мчыць сваёю арбітаю.

Угінаюцца вербы,
Глуха звоніць калоссе —
Паўз Кентаўры і Вегі
Шар зямны
нас пераносіць.

О, як пахне бяссонны
Чэрвень вязам і бэзам!
О, як падае сонца
За азёрную бездань!

Мы ляцім і сталеем —
О, нябёсы, нябёсы!..
Не бядуй, што сатлеюць
З днямі краскі і косы.

Пырснуць новыя ўсходы,
І — ці з траў, ці з азёраў —
Будзем бачыць заўсёды
Мы высокія зоры.

Будуць новыя плыні
Біць аб нас у пагрозе...
Нас нішто не супыніць,
Мы —
у вечнай дарозе.





юдзі — зоркі:
запаляцца ў свеце,
Замігцяць навакол, зазіхцяць
І, колькі трэба, зямлі пасвецячы,
Скоцяцца зноў
з небасхілу жыцця.
Глянеш — усе, як адна, над
сусветам,
А падыдзі да іх,
зблізку зірні:
Кожная — сонца альбо планета,
Поўная вербі,
азяродаў,
зарніц...



Аляксей КУЛАКОЎСКІ

Мастак
Юры АРХІПАЎ

# Адкуль вы, маладыя людзі?..

■ Лірычныя эцюды



## ЦВІЧОК ПАД НАГАМІ

Незнаёмая пляцоўка нагадала мне штосьці даўно мінулае. Тут лёгка не пройдзеш куды захочаш, а праехаць дык і зусім нельга. Куды ні глянь—усюды траншэі і траншэйкі, дошкі і бярвенні, цэгла і рознае тэхнічнае абсталяванне. Гэта пачатак трэцяга калійнага камбіната.

Аб чым жа нагадаў мне такі своеасаблівы пейзаж? Вядома ж, аб нараджэнні першага камбіната, аб самых першых кроках нашых слаўных шахтапраходчыкаў і будаўнікоў.

Насустрач ішоў чалавек, і я адразу пазнаў яго, хоць мы яшчэ не былі добра знаёмыя. Бачыў я раней яго на газетных фотаздымках



ды можа разы два на нарадах. Не дайшоўшы некалькі крокаў, ён раптам капнуў наском бота зямлю і нагнуўся.

— Вось... пад нагамі валяецца,— нібы паскардзіўся ён, павітаўшыся.

Я ўбачыў у хлопца на далоні звычайны цвічок, аднак не адразу паверыў гэтаму. Можа там шурубчык які адмысловы ці болцік?

Не, гэта быў сапраўды самы звычайны шалёвачны цвік.

— А ведаеце, як я некалі дома шанаваў цвікі, як іх выкарыстоўваў? — спытаў хлопец, заўважыўшы маё сумненне.— Рэдка так было, каб ішоў у работу сапраўдны, новы цвік, вось як гэты.— Ён пакруціў у пальцах шурпатую і яшчэ зусім някранутую ржаўчынай плешку.— Выцягваў адкуль-небудзь старыя, пакрыўленыя цвікі, выпростваў іх і заганяў куды трэба было. Калі ж не хапала такіх, то ішоў шукаць кавалкі тоўстага дроту, сек іх, і яны таксама ішлі ў мяне на справу. А цяпер іншы раз...— ён з абурэннем махнуў рукою.

Мы пайшлі глядзець, як дзяўчаты яго брыгады бетаніруюць пад'язныя дарогі. Хлопец ішоў размашыста, неяк па-свойму, упэўнена. Па дарозе нічога так сабе не мінаў, а на ўсё звяртаў увагу, растлумачваў мне, калі што было не зразумела, або проста выказваў свае меркаванні.

Гэта быў брыгадзір комплекснай будаўнічай брыгады камуністычнай працы Васіль Нікіценка.

Каб пагаварыць яшчэ аб беражлівасці, я паспрабаваў трохі дадумаць, як, часам, у нас і цяпер некаторыя абыходзяцца з цвікамі або іншымі матэрыяламі. Пайшоў трохдзюймовік ад першага замаху, то і добра, няхай сядзіць... Сагнуўся — да д'ябла яго, так шпурне іншы з рыштавання, што аж засвішча жалеза ў паветры.

— Гэта праўда,— падхапіў Нікіценка.— Так бывае. Сустракаюцца, на жаль, яшчэ і такія, што і ў кішэню цвікоў набяруць. Дробязь, бач, гэта, чаго з ёю лічыцца. Аднак жа ў нас, павінен вам сказаць, даўно ўжо гэтага няма. Для прыкладу ўспомню нават пра выпадак адзін. Пад'язджае аднаго разу да нашай пляцоўкі самазвал з цэглаю. Мы ў гэты час асноўнай сваёй групай працавалі на другім аб'екце, а на нашым месцы аставаліся толькі дзяўчаты-падсобніцы. Шафёр уключыў механізмы самазвала, і кузаў пачаў паднімацца. Яшчэ хвіліна, і сотні цаглін рухнулі б на зямлю. І наўрад ці асталася б хоць адна з іх цэлая... На другіх пляцоўках, магчыма, і ўдавалася гэтаму шафёру вось так згружаць цэглу, аднак жа ў нас ён, як кажуць, «пагарэў». Дзяўчаты падбеглі да кабіны, замахалі на яго, закрычалі.

— Дык гэта я пажартаваць хацеў,— пачаў апраўдвацца шафёр,— напалохаць вас.

— Ведаем мы твае жартачкі! — не суніманіся дзяўчаты.— Табе абы толькі рэйс. Вылазь з кабіны ды падавай нам цэглу!

І шафёр вымушаны быў паслухаць.

— А колькі ў вас дзяўчат у брыгадзе? — спытаў я нібыта к слову і ў той жа час збаяўся перапыніць цікавую гаворку.

— Чатырнаццаць,— адказаў Васіль. І мабыць зразумеўшы маю насцярожанасць, не адышоў ад тэмы.— І ўсе добра працуюць. Усе вось такія гаспадарлівыя, беражлівыя. Бывае часам, што хлопцы нашы павінны браць з іх прыклад. Не усе, вядома, аднак жа, калі гаварыць на чыстату, то дзяўчаты ў нас адыгралі вялікую ролю ў эканоміі матэрыялаў. Цяпер мы абвясцілі нават паход за эканомію, і гэта дае многа карысці.

— А што вы цяпер тут робіце? — спытаў я.— Мне вядома, што на першым камбінаце ваша брыгада ўзводзіла многія прамысловыя

аб'екты. І абагачальную фабрыку таксама. І другі камбінат. Цяпер жа на трэцім, як відно, пачынаюць работу толькі шахтапраходчыкі. У чым жа тут ваша дапамога?

— А ў тым,— усміхнуўшыся, сказаў Васіль,— што без нас шахтапраходчыкі наўрад ці згодзяцца тут працаваць. Гэты аб'ект далёка ад цэнтра. Тут навокал поле. А трэба ж людзям і пагрэцца недзе, і гарачы абед з'есці, і памыцца пасля шахцёрскай работы. Вось і будуецца тут нешта падобнае на бытавы камбінат. Будзе тут сталовая, душавая, пакоі для нарадаў і сёе-тое яшчэ. Мы сваёй брыгадай кацельную ўсталёўваем.

З левага боку ад нас і сапраўды вырастаў драўляны, аднак жа даволі трывалы і прыгожы, будынак на бетаніраваным фундаменце.

— Можа хочаце зайсці?

У сярэдзіне гэты будынак паказаўся мне яшчэ больш унушальным і дабротным. На сценах гладкая і вечная сухая шалёўка, падлога без якой там ні было б шчылінкі, укладзена найлепшымі сухімі дошкамі стандартнага тыпу.

«Нам бы ў кватэры хоць трохі такіх дошак,— міжвольна падумалася мне.— А то ноччу ступіць нельга, усе прачынаюцца ад скрыпу рассохлых маснічын. Шчыліны ўсюды: і на падлозе, і ў вокнах, і ў дзвярах. Гэта ж усё некалі рабілася толькі з сырога матэрыялу».

Агледзелі мы і кацельную. Тут гэтак жа ўсё ўкладвалася па ўсіх правілах сучаснай тэхнікі. Ішлі самыя лепшыя матэрыялы, усюды відны былі клопаты аб якасці і трываласці збудавання.

— Па-гаспадарску робіце,—не ўтрымаўся я ад пахвалы.— Нібы на сотні год...

Васіль адказаў на гэта не адразу, твар яго чамусьці пазмрачнеў. Некалькі хвілін ён заглядваў то ў адзін куток бетаніраванай кладкі, то ў другі, быццам хочучы ўпэўніцца, што і сапраўды тут усё гэтак моцна і капітальна зроблена. Потым загаварыў узбуджана, з крыўдай:

— Вы праўду сказалі. Сапраўды мы робім тут усё па-гаспадарску, на поўнае сваё сумленне. Інакш не можам. Але каб вы ведалі, як цяжка нам гэта, як часам апускаюцца рукі, не ідуць ногі, і на душы з'яўляецца цяжкі боль? Мы ж усе разумеем, што гэта не на сотні год, як вы гаворыце, а толькі, як самае большае, на адзін год, а можа нават на некалькі месяцаў. Гэта ж проста часовыя збудаванні: праз некалькі месяцаў іх знясуць, разбураць. І ўсё гэта прападзе марна — і найлепшы каштоўны матэрыял, і задумы інжынераў, і наша работа. А чаму гэта так? Усё ад недахопаў у планаванні. Пачынаем будаваць, а ніхто не ведае, дзе што і ў якім выглядзе павінна стаяць, таму што няма тэхнічнай дакументацыі. Так было на першым камбінаце. Там разбурылі многа непланавых збудаванняў. Так было і на другім. Чаму ж бы не ўлічыць такі горкі вопыт? Дык вось жа — будуем зноў! Ды яшчэ як будуем! Паверце, што іншы раз кладзеш цэглу, заліваеш цэмент, і ў сэрцы пачынае шчымець: гэта ж прападзе ўсё, матэрыялу гэтага ўжо ніколі не вернеш. У сваёй брыгадзе мы кожны цвік беражом. А тут гэтулькі дабра ідзе дарэмна! Дайце нам дакументацыю і пакажыце, дзе што будаваць, мы капітальныя будынкі ўзвядзём, як нядаўна на першым рудніку. І стаяць яны будуць вякамі. Правільна я кажу ці не?

Васіль даверліва павярнуўся да мяне і нават трошкі нахіліўся, таму што стаяў на свежым падмурку.

— Вядома, правільна,— адказаў я і ўважліва паглядзеў на цвічок, які ўсё яшчэ хлопец трымаў у сваёй руцэ і злёгку пакручваў.





# З ДУШОЙ СПАКОЙНАЮ

Васіль Нікіценка працуе ў Салігорску ўжо даўно, з першых дзён будаўніцтва. Мы, напэўна, сустракаліся раней, бо на закладцы горада былі абодва. Але пазнаёміцца не давялося.

Як цяпер я даведаўся, Васіль прыехаў на нашу будоўлю пасля заканчэння Мінскага будаўнічага вучылішча. Прыехаў не адзін, а ў ліку васьмідзесяці шасці чалавек. Умовы жыцця і работы на першым часе былі тады нялёгкія, таму семдзесят дзевяць юнакоў уцякло з будоўлі, асталося толькі сем. У сто дваццаць другім будаўнічым упраўленні затрымаўся толькі адзін малады будаўнік. Гэта быў Васіль Нікіценка.

І вось прайшло ўжо больш шасці год. Спачатку ён працаваў мулярам з невысокім разрадам, потым — з самым вышэйшым, затым — зноў даволі працяглая вучоба ў Мінску. Пасля — работа брыгадзірам.

Як вядома, розныя брыгады бываюць на будоўлях, і па колькасці людзей і па свайму прызначэнню. У Васіля брыгада вялікая, часам бывае і так, што ў ёй працуе больш за трыццаць чалавек. Тут у іх свая партгрупа з трох камуністаў і аднаго кандыдата ў члены партыі. Тут жа і камсамольская арганізацыя з васемнаццаці чалавек.

Па сваёй спецыфіцы гэтая брыгада комплексная. Людзі ўмеюць рабіць усё, што патрэбна на будоўлі. Калі, напрыклад, трэба ўзвесці жылы дом, то сваімі сіламі брыгада пабудуе яго ад самага фундамента да страхі, ад падлогі і столі да замочных шчылін у дзвярах.

Кожны член брыгады авалодаў некалькімі сумежнымі спецыяльнасцямі. Амаль усе дзяўчаты маюць іх па дзве-тры, а некаторыя хлопцы і больш. Аляксандр Клішэвіч, напрыклад, мае пяць будаўнічых спецыяльнасцей. Ён муляр самай высокай рукі, цесляр, сталяр, бетоншчык, такелажнік. Калі ж спатрэбіцца што-небудзь шостае або сёмае на аб'екце, то хлопец справіцца і з гэтым.

Саша, так завуць хлопца ў брыгадзе, заўсёды з пэўным поспехам замяшчае і брыгадзіра, калі Васілю іншы раз трэба куды-небудзь адлучыцца, пабываць, скажам, у сваіх гродзенскіх ці полацкіх калег, з якімі вось ужо некалькі год ідзе харошае сяброўскае спаборніцтва, або з'ездзіць па турысцкай пуцёўцы за граніцу. Саша ўсё ўмее зрабіць сам і як належыць паказаць другім. Паважаюць яго ў калектыве за вельмі здатныя рукі майстра. За гэтыя ж якасці яму Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР прысвоена званне заслужанага будаўніка Беларускай рэспублікі. Камсамольцы брыгады выбралі яго сваім групкамсоргам і задаволены яго арганізатарскімі здольнасцямі, ініцыятыўнасцю.

Такіх людзей многа ў брыгадзе, яны тут і выхаваліся. Некаторыя з іх цяпер працуюць брыгадзірамі ў другіх будаўнічых упраўленнях.

Тут нам могуць сказаць, што гэтыя хлопцы, мабыць, і былі харошыя. Пэўна ж, не разгільдзяі, не абібокі, яны заўсёды імкнуліся да лепшага і сталі спецыялістамі, паважанымі людзьмі. Аднак жа трапляюць часам у брыгаду і такія асобы. Вось, напрыклад, адна жывая карцінка.

...Дзве дзяўчыны сядзяць каля штабялёў цэглы. Тут жа каля іх і насілкі. То адна працягне руку па цагліну, то другая,— так, се-

дзячы, і нагружаюць насілкі. Затым паціху, ледзьве перастаўляючы ногі, нібы сонныя, нясуць гэтую цэглу ў прызначанае месца. Вяртаюцца і зноў садзяцца.

Падыходзіць майстар, пытае:

— Вы колькі ж гэта зарабіце пры такім старанні?

— Больш, як на мінімум, не пацягнем,— адказваюць дзяўчаты,— а менш не дасце, не маеце права.

— А з нормай як?

— Яна пісана не для нас.

Карцінка гэтая ўжо даўняя, яна ўспомнілася нам з Васілём у часе нашай гутаркі. Цяпер ужо, мабыць, няма такіх з'яў у будаўнічых калектывах. Але яны былі: не адзін раз назіраў нешта падобнае Васіль, траплялася на вочы гэта і мне. Ды нават яшчэ і не ў далёкія часы зрэдку трывожылі калектыў брыгады розныя непажаданыя здарэнні, няхай вялікія ці маленькія, значныя ці малазначныя. Спозніцца іншы на работу, а скажы яму пра гэта, пакрыўдзіцца:

— Падумаеш, на пяць хвілін спазніўся!..

Не падвезлі, скажам, у патрэбную хвіліну цэмент або раствор,— сядзе іншы і будзе сядзець, злажыўшы рукі. І ў галаву яму не прыйдзе, што ёсць жа і другая работа, якую за гэты час можна падагнаць, што, пэўна ж, знойдуцца і такія таварышы, напарнікі, якім трэба памагчы.

У першыя часы ўсе такія адхіленні і недахопы належала заўважаць толькі аднаму брыгадзіру. «Ты, бачыш, адказная асоба, дык вось і сачы за ўсім: і на план націскай, і пра якасць не забывайся».

Але хіба можна аднаму ўсачыць за ўсім і за ўсімі? Гэта першае. А другое — хіба можна з поспехам працаваць у калектыве, калі там ёсць людзі, якія адносяцца да ўсяго, як нейкія пабочныя назіральнікі? Не выконваецца норма, ну, няхай сабе не выконваецца; адвільвае нехта ад работы, ну, дык няхай і адвільвае; напіваецца — няхай п'е сабе на здароўе!

У дружных людзей, вядома ж, гэтага не павінна быць. У брыгадзе Нікіценкі камуністы і камсамольцы стараліся заўсёды асабістым прыкладам паказаць, як трэба паводзіць сябе, як трэба працаваць. Потым усім калектывам выбралі савет брыгады і надалі яму вялікія правы. Члены савета, найбольш аўтарытэтныя і прынцыповыя таварышы, могуць пацікавіцца, чым, як кажуць, дыша, як жыве і працуе той ці іншы будаўнік, якія яго інтарэсы і імкненні. Калі часам здарыцца, што спаткнуўся каторы ці наўмысна дапусціў памылку, савет брыгады выклікае гэтага чалавека на сваё паседжанне і слухае тлумачэнне. Паслухаюць сябры, таварышы ды яшчэ і спытаюць, як гэта ўсё здарылася... Калі трэба, дык і сурова спытаюць, патрэбуюць, каб больш такіх з'яў не было. І той, хто правініўся, дасць слова больш ніколі не падводзіць і не ганьбіць калектыў.

Так паступова наладжвалася і ўсталёўвалася ў брыгадзе дысцыпліна і зладжанасць у рабоце, устанаўліваліся нормы паводзін. Усякія непаладкі па віне членаў брыгады, тым больш усякія здарэнні, з кожным днём сталі ўсё змяншацца, а потым і зусім зніклі.

Цяпер у калектыве, калі гаворка ідзе аб якой бы там ні было рабоце, ніколі не пачуеш такіх слоў, як «не хачу» або «не магу». Усе найбольш складаныя пытанні вырашаюцца калектыўна. І калі ўжо вырашана, напрыклад, здаць датэрмінова той ці іншы аб'ект, дык ніхто не адступіць ад гэтага, не паскардзіцца на цяжкасці, якія б яны ні былі.

...Закончылася змена, можна ісці дадому. Васіль падае знак



кранаўшчыцы, калі яна яшчэ не сышла ўніз. Гэта яго жонка Тамара. Яны разам ідуць у горад, там іх кватэра, там іх чакаюць дзеці, што асталіся дома з бабкай Еўдакіяй Цімафееўнай. Як у мужа, так і ў жонкі ўсё спакойна на душы, настрой у іх харошы, таму што справы ў брыгадзе ўвесь дзень ішлі добра, паспяхова. Можна з асалодай і радасцю падумаць цяпер і аб сваіх сямейных справах, аб вучобе, аб планах на наступныя дні.

Няхай гэтыя дні будуць такімі ж прыемнымі, як сягонняшні!



# ЗНАЁМЫ СЦЯГ НАД БУДОЎЛЯЙ

Я заўважаў яго амаль кожны раз, едучы паўз будоўлю ў сваю вёску, дадому. Вялікі барвовы сцяг калыхаўся высока і быў відзён, як толькі я выязджаў на салігорскую шашу. Мне думалася—гэта Нікіценкаў сцяг. Пытаў у людзей, і меркаванні апраўдваліся.

Гісторыя гэтага сцяга вось якая. У парткоме трэста і ў будаўнічым упраўленні вырашылі падводзіць вынікі спаборніцтва будаўнічых брыгад у канцы кожнага тыдня. Лепшай брыгадзе выдзялялася невялікая грашовая прэмія, аднак жа асноўны гонар быў не ў гэтым. Галоўны вынік спаборніцтва — гэта права падняць сцяг.

У канцы тыдня на будаўнічую пляцоўку збіралася многа брыгад. Запрашаліся калектывы і з суседніх участкаў. Абвяшчаліся працоўныя поспехі ўсіх брыгад, і пераможцам у спаборніцтве давалася ганаровае права падняць сцяг.

Пад гукі духавога аркестра к флагштоку падыходзілі члены перадавой брыгады. Брыгадзір або хто-небудзь іншы з перадавога калектыву паднімаў сцяг, які палыхаў у паветры цэлы тыдзень. Пад вечар у суботу сцяг апускалі, і флагшток пуставаў да таго часу, пакуль не вызначаўся наступны пераможца ў спаборніцтве.

Калі глядзець на гэта толькі з фармальнага боку, то можна падумаць, што нічога асаблівага ў гэтых мерапрыемствах і няма. Жывуць сабе людзі, працуюць, як хто можа, а ў канцы тыдня, нібыта па прыкладу піянерскіх дружын, вызначаюць якоесьці там першынство. То па абставінах, то па якіх-небудзь іншых прычынах нехта ж усё-такі выйдзе ў перадавыя. Вось яму і прэмія, і гонар падняць сцяг.

На самай жа справе гэта зусім не так. Тут улічваецца і арганізацыя працы, і зладжанасць усяго калектыву, і якасць работы. Калі ж яшчэ мець на ўвазе, што брыгада Нікіценкі ўвесь час працавала на прамысловых аб'ектах, дзе амаль заўсёды чаго-небудзь не хапала і што-небудзь ускладняла будаўніцтва, то стане зразумела, як цяжка было дамагацца ў гэтым спаборніцтве перамогі.

Зусім іншая справа будаваць жылыя дамы. Там усё ідзе, у асноўным, па стандарту, там комплексная брыгада амаль заўсёды самастойна ў сваіх дзеяннях і рашэннях. А на прамысловых аб'ектах амаль кожны дзень даводзілася лічыцца з рознымі недахопамі ў тэхнічным абсталяванні, з поспехамі ці праваламі ў рабоце мантажнікаў і з многімі іншымі фактарамі.

Брыгада Нікіценкі, як ужо гаварылася, працавала да гэтага на

галоўным прамысловым аб'екце першага калійнага камбіната—будавала абагачальную фабрыку. Тут было нямала ўсякіх цяжкасцей і супярэчнасцей. Спачатку не ўсё ладзілася з тэхнічнай дакументацыяй, а потым з дастаўкай патрэбных металаканструкцый і іншага абсталявання. Калі мантажнікі часам не ведалі, што дзе ўстанаўліваць, то і будаўнікі апускалі рукі. Калі прыбывала такая металаканструкцыя, што не лезла ні ў якія вароты, не ўстанаўлівалася на падрыхтаваны фундамент, то і ў будаўнікоў пераварочваліся ўсе планы.

І нават у гэтых умовах калектыў брыгады часта выходзіў на першае месца. Былі такія месяцы, што Нікіценкаў сцяг амаль беспералынна развяваўся над будоўляй, таму што брыгадзір падымаў яго кожную суботу. Можна смела сказаць, што своечасовы пуск першай чаргі фабрыкі ў многім залежаў ад найлепш арганізаванай работы маладога калектыву.

Калі мы ўдваіх аглядалі будаўнічую пляцоўку трэцяга камбіната, я спытаў у Васіля, ці хутка будзе развявацца яго сцяг і над гэтай будоўляй.

— Думаю, што хутка,— адказаў Нікіценка.— Няхай толькі дадуць нам неабходную тэхнічную дакументацыю, каб мы маглі ўзяцца за свой аб'ект. Тады зноў разгорнемся на ўсю нашу сілу і нават у зімнія халады будзем добра выконваць свае заданні.

Ён сказаў пра гэта ціха, без асаблівага націску на словы, аднак жа я адчуў, што брыгадзір цвёрда і шчыра верыць у гэта. Я таксама паверыў, хоць яшчэ і не зусім блізка быў тады знаёмы з гэтым калектывам.

Цяпер жа па-сапраўднаму веру і чакаю, што да наступнага майго прыезду дадому будзе палыхаць у паветры знаёмы мне барвовы сцяг Нікіценкі, але ўжо над новай будоўляй.



## МАГІЛЯЎЧАНЕ

Васіль прапанаваў сустрэцца з некаторымі членамі брыгады ў вольны ад работы час, каб можна было спакойна пагаварыць.

— Дзе ж нам сустрэцца?— спытаў я.— На двары ўжо холадна.

— Можна зайсці да нас на кватэру,— сказаў Васіль і дружалюбна ўсміхнуўся.— Жонка будзе рада, а мая цешча таксама ведае вас, яна доўга працавала тут настаўніцай.

Я падзякаваў і між тым падумаў, што наўрад ці зручна дакучаць гэтай харошай сям'і, бо калі мы прыйдзем, то цэлай групай. І ўспомніў пра мясцовы тэхнікум. Там увечары адкрыта, ідуць заняткі на вячэрнім аддзяленні. Дырэктар тэхнікума, яго намеснік па вучэбнай частцы і многія выкладчыкі мае добрыя сябры і таварышы. Дзе ж знойдзеш лепшае месца для сустрэчы?

Сакратар вячэрняга аддзялення нават устала, калі ў прыёмную зайшлі першыя тры дзяўчыны з брыгады. Прыгожыя і статныя з выгляду, яны былі адзеты добра і па модзе, усе з акуратнымі і найлепш падабранымі да твару прычоскамі.



— Вам каго? — сумеўшыся, спытала ў іх жанчына з прыёмнай і паглядзела на мяне. А я таксама не адразу пазнаў дзяўчат, хоць і бачыў іх на будоўлі. Падумалася мне, відаць, тое самае, што і сакратарцы: камісія з Мінска прыехала, будзе правяраць вячэрняе аддзяленне.

Але неўзабаве зайшоў Васіль, ветліва ўсміхнуўся мне і сказаў:

— Гэта мы да вас. Хутка прыйдуць яшчэ таварышы.

Намеснік дырэктара па вучэбнай частцы Леанід Васільевіч Бруй уступіў нам свой кабінет.

— А я сам хоць не перашкоджу? — лагодна запытаўся ён.

— Якая ж перашкода? Тут жа студэнты.

Зайшоў горны інжынер Эдуард Сямёнавіч Яновіч, былы завуч тэхнікума, а цяпер дырэктар філіялу навукова-даследчага інстытута ў Салігорску.

— Можна і мне з вамі?

Чаму ж не можна? Усе ведаюць, што, акрамя горнай спецыяльнасці, Эдуард Сямёнавіч яшчэ і журналіст.

Адчыніліся дзверы і зноў голас:

— Дазвольце?

Гэта Аляксей Кур'ян, супрацоўнік мясцовай шматтыражкі, малады паэт і празаік.

Калі ласка, усім можна прысутнічаць, ніхто нам не перашкодзіць. Шырэй будзе круг, гаворка можа выйсці больш цікавай.

А дзяўчаты-будаўніцы паселі ў радок на крэслах, што былі расстаўлены ўздоўж сцяны. Над імі — павялічаны па маштабах расклад заняткаў тэхнікума, на працілеглай сцяне — геаграфічная карта старобінскага месцанараджэння калійных солей.

Побач са сваімі спадарожніцамі знайшоў сабе месца і Васіль. Яго таксама можна было не пазнаць па знешняму выгляду, калі б не запомніўся твар, адкрыты, лагодны, я сказаў бы — інтэлігенцкі. Нікіценка быў у прыгожым вячэрнім касцюме, беласнежны нягнуткі каўнер і такія ж манжэты хораша выдзяляліся на цёмным фоне.

— Эх, забыў жа я!..— з жалем прамовіў Эдуард Яновіч, аглядаючы маладых людзей.

Усе ажывіліся.

— Што забыў?

— Ды фотаапарат свой. Такі цікавы здымак мог бы атрымацца!

Паступова пачалі знаёміцца. Крайняя ад пісьмовага стала дзяўчына, Аня Мялешка, аказалася маёй аднасяльчанкай. Яна родам з Чыжэвіч, што пад Салігорскам, з таго самага сельсавета, што і я. Аня харошы муляр, а яшчэ такелажніца і бетоншчыца. Побач з ёю Люба Кічэнка — з Украіны, далей — Галя Кацікала з Бабруйскага раёна.

— Усе нашы зямлячкі...— жартуе Аляксей Кур'ян.

Васіль стрымана ўхмыляецца.

— Можа і былі зямлячкамі,— гаворыць ён.— Але цяпер яны ўжо магіляўчане, таму што ўсе вучацца ў завочным Магілёўскім будаўнічым тэхнікуме.

— І добра вучацца,— дабаўляе Леанід Бруй.

Дзяўчаты ўдзячна глядзяць на яго, усміхаюцца. Вядома ж, намеснік дырэктара добра ведае, як яны вучацца, таму што па многіх дысцыплінах экзамены прымаюцца тут, у Салігорскім горнахімічным тэхнікуме. Некаторыя будаўнікі, канечне, і вучыліся б тут, на вячэрнім аддзяленні. Але, на жаль, у тэхнікуме толькі часова выкладаюцца будаўнічыя навукі. Выпусцяць групу, і больш набору не будзе.

— Чатырнаццаць чалавек з нашай брыгады вучыцца ў магілёўскім тэхнікуме,— гаворыць далей Васіль Нікіценка.
— У тым ліку і вы,— нібы пытае, нібы сцвярджае Аляксей Кур'ян.
— Я таксама вучуся,—адказвае Васіль.— Яшчэ толькі на першым курсе. А вось Аня Мялешка — на трэцім. Яшчэ Галіна Ламейка ў нас — таксама на трэцім. І мая жонка.
— Дзяўчаты тут наперадзе,— заўважае Леанід Бруй.— У нас у тэхнікуме таксама некаторыя з вашых вучацца, а некалькі чалавек у вячэрняй школе.
— Дзесяць,— удакладняе Васіль.— У нас усе вучацца. Калі хто не ў тэхнікуме і не ў школе, дык наведвае курсы па павышэнню кваліфікацыі.
І пайшла ў нас размова пра вучобу. Дзе ж і не пагаварыць аб гэтым, калі не тут, у тэхнікуме! Усім вядома, што працаваць і вучыцца нялёгка. Нават адзінокаму чалавеку іншы раз цяжкавата знаходзіць час для вучобы, а сямейнаму, ды яшчэ пры малых дзецях, і даволі-такі складана. Аднак жа ў брыгадзе вучацца і сямейныя.
Вось хоць бы сям'я Нікіценкі. Там усе студэнты, калі, вядома, не лічыць малых. Васіль і яго жонка вучацца ў тэхнікуме, цешча наведвае ўніверсітэт культуры. Тут нешта падобнае на маленькі вучэбны камбінат. Кожны вечар на кватэры ідуць заняткі. Сямейнай групай вучыцца больш цікава, і поспехі бываюць лепшыя. Але ж колькі трэба старання, каб паспець усё добра зрабіць на будоўлі, выканаць грамадскія даручэнні, управіцца з хатнімі справамі ды знайсці час і сілу для вучобы! Тут ужо сама сабою справа не пойдзе.
— Радуе тое,— гаворыць далей Леанід Бруй,— што, наколькі мне вядома, у гэтай брыгадзе няма адстаючых па вучобе. Асабліва добра паспявае так званая «магілёўская група».
— Сапраўды, яна ідзе з поспехам,— згадзіўся Васіль. І раптам ніякавата ўсміхнуўся.— От жа так і ёсць — магіляўчане! Некаторыя і родам адтуль. Я і сам з Касцюковіцкага раёна.
Мы спыталі ў дзяўчат, як яны плануюць свой час, як знаходзяць вольныя гадзіны для вучобы. Ім жа і ў клуб трэба схадзіць пасля работы, і ў кіно, і на рэпетыцыю.
— У чалавека павінна быць свая мэта,— сказала Аня Мялешка.— Тады на ўсё часу хопіць.
— Мы вельмі хочам вучыцца,— пацвердзіла Люба Кічэнка.— Таму для нас гэта самае галоўнае ў жыцці.
— А танцаваць хочаце? — весела спытаў Аляксей Кур'ян.
Дзяўчаты дружна засмяяліся. Яны разумелі, што ўжо хто-хто, а паэт-песеннік Кур'ян добра ведае пра іх любоў да танцаў і іншых відаў самадзейнасці.
— Патанцуем і павучымся,— сказала Галіна Кацікала.— Тады яшчэ лепш усё ў галаў ідзе.
— А ў інтэрнаце ў вас ёсць умовы для заняткаў?
Я спытаў пра гэта таму, што ўявіў сабе жыццё моладзі ў тых інтэрнатах, у якіх мне даводзілася бываць. Іншы раз там і адпачыць як належыць не дадуць, а не то што пасядзець спакойна за кніжкамі ды сшыткамі.
— У нас у пакоі ўсе займаюцца,— адказалі дзяўчаты.— Таму мы адно другому не замінаем. Часта займаемся калектыўна. У другіх пакоях таксама многа завочнікаў і вячэрнікаў.
Калі зайшла гаворка аб спалучэнні работы, адпачынку і вучобы, то я чакаў, што, напэўна, давядзецца пачуць і скаргі на цяжкасці і складанасці ў гэтай справе. Аднак дзяўчаты не скардзіліся. Слухаючы іх, можна было нават падумаць, што ўсё ім даецца быццам бы зусім проста і лёгка. Усюды паспяваюць, на ўсё знаходзяць час, ніхто і нішто ім не перашкаджае.



Ды ўсё ж мы добра адчувалі і разумелі, што гэта не зусім так. Па-першае, дзяўчаты па сваёй сціпласці так гавораць, па-другое — яны не белаunion ручкі, і гэта самае важнае. У іх ужо ёсць найлепшая звычка да працы, ёсць уменне і жаданне жыць мэтанакіравана, заўсёды правільна і дакладна размяркоўваць свой час.
— Вось толькі не ўяўляю дзяўчыну-праараба або майстра...— зноў загаварыў Аляксей Кур'ян.— Хадзіць ёй тады ў гумавых ботах па гразі, ды пакрыкваць на рабочых.
І тут ужо адразу стаў на абарону студэнтак Эдуард Яновіч, як інжынер.
— Крычаць на рабочых зусім няма патрэбы,— заявіў ён.— Тым больш дзяўчатам, іх і так усе будуць слухаць. А потым не так ужо абавязкова ўсім выпускніцам тэхнікума ісці на пасады прарабаў ці майстроў. У нас пры кожным будаўнічым упраўленні ёсць праектна-тэхнічныя аддзелы, і ўкамплектаваны яны пакуль што не надта кваліфікаванымі кадрамі. Вось туды і пашлём нашых магіляўчанак.
— Хопіць работы ўсім,— заўважыў Васіль Нікіценка.— Былі б толькі добрыя веды.
— Ну, вядома, хопіць! Вучыцеся, дзяўчаты, вас чакае цікавая работа.



# ПА РУБЕЛЬЧЫКУ

Пакідаючы гэта слова ў загалоўку, я трошкі рызыкую, таму што яно ўжываецца іншы раз не ў тым сэнсе, які мне хацелася б яму надаць. Грошы ў нас ідуць на добрыя справы, толькі ў асобных выпадках сёй-той можа з іроніяй сказаць: «Давайце па рубельчыку!» І тады ўжо зразумела, для чаго такая складчына спатрэбілася.
Але ж не аб гэтых рубельчыках у нас пойдзе размова. Сапраўды, хіба не могуць быць сяброўскія складчыны і для высакародных спраў? Канечне, могуць. Яны будуць выяўляць салідарнасць і добразычлівасць у калектыве, садзейнічаць згуртаванасці людзей, развіваць пачуццё ўзаемаразумення і ўзаемадапамогі. Бывае ж часам, штоаднымі толькі добрымі пажаданнямі і намерамі справы не вырашыш. Здараецца і так, што нават намаганнямі сваімі справе не паможаш, а патрэбна нешта матэрыяльнае, бытавое, на той час вельмі неабходнае. Тады хто-небудзь найбольш ініцыятыўны і можа па-сяброўску сказаць:
— А ну, хлопцы, давайце па рубельчыку!
І ўжо ніхто не падумае, што гэта звычайны жарт. (Я гавару пра калектыў, аб якім пішу.) Кожны зразумее, што калі пададзены такі голас, то не на пустое, а маецца на ўвазе нешта важнае і неадкладнае.
Калі я першы раз накіраваўся на будаўнічую пляцоўку трэцяга калійнага камбіната, быў вельмі непагодлівы, халодны дзень. Прыехаў туды, пахадзіў гадзіны дзве і адчуў, што рэзкі і вільготны вецер

пачынае як бы пранізваць мяне навылёт. Дзе б гэта хаця б трошкі пагрэцца?

На будоўлі былі таксама некаторыя таварышы з будаўнічага ўпраўлення. Я заўважыў, што і яны пацепваюцца ад холаду, і спачувальна падумаў пра звычайных, радавых будаўнікоў. Тыя ж цяпер працуюць на самым адкрытым месцы. Як жа яны трываюць? І як ім будзе вытрымаць на рабоце зімою ў вялікія марозы?

— Калі робіш, то не мерзнеш,— заўважыў малады і рослы хлопец у паўвайсковай форме, калі я выказаў сваё здзіўленне ўслых. Ён быў апрануты легкавата, але не стаяў на месцы ні адной хвіліны, усё хадзіў і бегаў, даваў распараджэнні. Пазней я даведаўся, што гэта майстар новага ўчастка.

Праз некаторы час ён сказаў, прабягаючы каля мяне і таварышаў з упраўлення:

— Пойдзем пагрэемся!

«Куды гэта? — падумаў я.— Дзе тут можна пагрэцца?»

Упраўленцы таксама, відаць, яшчэ не ведалі, што тут сапраўды ёсць даволі ўтульнае месцейка. Але запрашэнне прынялі з вялікай ахвотай.

Майстар размашыстымі крокамі пайшоў пярэднім, лёгка пераскочыўшы па дарозе канаўку катлавана, абагнуў штабялі цэглы і хутка паказаў рукою на маленькае драўлянае, аднак жа вельмі прыстойнае па архітэктуры, збудаванне. Яно было ўстаноўлена на вялікіх санях, пэўна, для таго, каб пры неабходнасці перавозіць з месца на месца, бліжэй да работы.

— Чый жа гэта церамок? — спытаў я, не хаваючы свайго захаплення.

— Нікіценкі,— адказаў майстар.— Яго брыгады.

— Можа стандарт такі ёсць?

— Не, гэта яны самі спраектавалі.

— Яны ўсё робяць самі,— пацвердзіў інжынер з упраўлення.— Збяруцца, абмяркуюць усё, параяцца і — за справу. Так яны дрэвы на вуліцах саджалі, кватэры рамантавалі.

Мы зайшлі ў гэты будыначак. Там было ўтульна, цёпла і чыста. Каля акон з правага боку і з левага стаялі даўгаватыя столікі. Ад іх яшчэ пахла свежай сасной. Быў якраз перапынак: за адным сталом дзяўчаты размясціліся абедаць, а за другім хлопцы, ужо мабыць пасля абеду, заўзята стукалі костачкамі даміно. Адразу кінулася ў вочы, што на стале ў дзяўчат папыхкваў электрычны чайнік. Тут жа стаялі кубачкі з чайнымі лыжачкамі. Дзяўчаты сядзелі без верхняй вопраткі, але іх паліто ці якіх-небудзь іншых асабістых рэчаў нідзе не было відаць. Аказалася, што бытоўка (так яны называюць гэты дамок) мела закрытую перагародку, за якою былі вешалкі для верхняй адзежы і палічкі для галаўных убораў.

— І гэта ўсё самі? — спытаў я ў майстра.

— Вядома,— адказаў ён.— І святло правялі самі, і радыё. Калі чаго не хапае, то складваюцца ды купляюць. Вось я ведаю, што яны замкі сюды купілі, завесы, ручкі для дзвярэй, абоі. А потым — шашкі, шахматы, даміно. Газеты і часопісы таксама выпісваюць у дадатак тым, што ім прыносяць з камітэта камсамола.

— За свае грошы?

— Ды вось па рубельчыку складуцца і купяць, што ім трэба, або выпісваюць.

Пазней Васіль расказваў мне, што ў калектыве развілося пачуццё дружбы і салідарнасці, што якая-небудзь абыякавасць ці непавага да



грамадскага абавязку або да таварышаў выклікалі б абурэнне і рэзкае асуджэнне з боку ўсіх. Такіх з'яў у брыгадзе ўжо не можа быць. Колькі разоў заўважалася, што дзяўчаты нават свае асабістыя справы іншы раз абмяркоўваюць разам: што каму купіць, што заказаць у майстэрні, куды пайсці ў вольны час вечарком?

А калектыўныя прагулкі, паходы ў кіно і на канцэрты, паездкі на экскурсіі сталі ўжо традыцыйнымі.

Лета наогул прайшло вельмі карысна, цікава і весела: добра папрацавалі і найлепш адпачылі. Рэчка і лес каля яе сталі вельмі блізкімі сэрцу кожнага, амаль што сваімі, таму што тут было праведзена многа прыемных і самых незабыўных гадзін.

Каб адхіліць няпрошаныя папрокі можа ў якой сухасці ці ханжастве, скажам, што іншы раз на пікніках з'яўлялася і чарачка. Але ўсё гэта рабілася ў меру і з поўным захаваннем этыкету.

У пагодлівыя дні ўсе купаліся, загаралі, плавалі на лодках або наладжвалі спартыўныя спаборніцтвы. А калі ж вабіла каго ўтульная сцяжынка ў сасновым лесе, калі там хто чакаў друга ці падругу, то ніякіх перашкод нікому ў гэтым не было,— сваім выхадным днём кожны мог распараджацца як хацеў.

Так людзі адпачывалі і весяліліся, калі ў брыгадзе ўсё было добра: будаўніцтва ішло паспяхова і ў калектыве нічога кепскага не здаралася. Але было аднаго разу і такое, аб чым нават цяжка гаварыць без хвалявання. Сабраліся ў брыгадзе ехаць на пікнік. Правялі складчыну, падрыхтаваліся — заўтра ўсім на рэчку. І раптам раніцою даведаліся, што адна дзяўчына захварэла, паехаць не можа. І ўсе не паехалі! Пайшлі праведаць сяброўку. Яна хварэла больш тыдня. І кожны дзень яе наведвалі ў бальніцы таварышы і сябры з брыгады. Калі трэба было, дык зноў жа збіралі сродкі і куплялі ёй розныя гасцінцы і ўсё неабходнае, каб толькі ёй было весялей, каб толькі яна хутчэй папраўлялася.

Дзяўчына выздаравела і цяпер працуе ў брыгадзе. І хіба яна калі-небудзь забудзе гэты сапраўды душэўны клопат аб ёй усяго калектыву! Ніколі не забудзе! Пры першай магчымасці сама ахвяруе ўсім, каб толькі памагчы блізкаму чалавеку.

Так у гэтым маленькім калектыве развіваюць і ўмацоўваюць пачуццё сяброўскага локця, так тут разумеюць і вось гэтыя словы: «Па рубліку», якія вельмі часта выклікаюць насцярожанасць.



## НА ШТО Ж ЯНЫ, АБЯЦАЛКІНЫ?

— Зноў рыдлёўкі?

— Нічога не зробіш, трэба капаць.

Васіль сам бярэ рыдлёўку, разам з дзяўчатамі брыгады расчышчае прастор для бетанiраванай дарогі. Настрой у яго змрочны, бо вельмі ж мучыць крыўда на людзей, якія не ўмеюць трымаць свайго слова, абяцаюць, ды нічога не робяць.

Калі гаварыць канкрэтна, дык сёння вельмі ўжо бесцырымонна падмануў брыгаду намеснік начальніка ўпраўлення таварыш Пятроў. Два дні таму

назад ён паабяцаў даць бульдозер. У той дзень машына не прыйшла, назаўтра таксама. Давялося напомніць пра абяцанне.

На сёння было ўжо дадзена цвёрдае і канчатковае слова. Раніцою Васіль ішоў на работу ў поўнай надзеі на тэхніку, ды раптам сустрэў таго самага бульдазерыста, які павінен быў ехаць сёння ў брыгаду.

— Паедзем разам! — узрадавана прапанаваў Нікіценка.

— Куды? — здзівіўся бульдазерыст.

— На трэці камбінат, да нас. Хіба ты не атрымаў распараджэнне?

— Не, у мяне нарад напісаны зусім у іншае месца.

І вось зноў капай рыдлёўкамі. Колькі лішняй працы і лішняга часу спатрэбіцца! Што падумаюць члены брыгады пра такога кіраўніка, які іх падводзіць? Яны ж самі ніколі гэтак не робяць.

...Мабыць, кожнаму знаёмы яшчэ адзін малюнак. Ідзеш зімою паўз будоўлю і бачыш: стаяць на пляцоўцы маладыя дзяўчаты і дзяўбуць ламамі мёрзлую зямлю. Чаму яны дзяўбуць?

Хіба нельга было выкапаць катлаваны экскаватарам яшчэ да марозаў? Канечне, можна было, і трэба было гэта зрабіць, але хтосьці камусьці паабяцаў ды не выканаў свайго абяцання. Нехта забыў своечасова праверыць, як выконваецца даручэнне. А камусьці і наогул не надта хацелася глыбока ўваходзіць у сутнасць справы. У выніку—праектнай дакументацыі не было, сродкі ў патрэбны час не адпускаліся. Усё гэта з'явілася толькі зімою, калі самыя лепшыя ўмовы для так званага «задзелу» прайшлі.

Я неяк сказаў аб гэтым Васілю і спытаў:

— У вас наглядаліся такія з'явы?

— Не толькі наглядаліся, а былі часта! — з абурэннем сказаў Нікіценка.— Нават выпадак адзін непрыемны ўспамінаецца. Раскопвалі мы аднаго разу снег і прабівалі катлаван, а адна дзяўчына неяк спазнілася на работу. Мы зрабілі ёй заўвагу, бо ў нас дысцыпліна — аснова ўсяго. А дзяўчына ў слёзы. «Хіба гэта мая работа? Хіба я магу ўвесь час пляжыць ломам?» І паказвае рукі ў мазалях. Мне так шкада стала яе, што аж сэрца сціснулася. Няхай бы вось той, хто вінават у такім бязглуздым планаванні, стаў на месца гэтай дзяўчыны і падзяўбаў змену ломам.

Вельмі правільна сказаў Васіль. Пакуль што яшчэ шмат у чым перашкаджаюць нам розныя абяцалкіны і пустазвонавы, яшчэ часта азмрочваюць наша жыццё замашкі і традыцыі, уласцівыя мінулым часам. Чыстыя душой і сэрцам людзі не павінны сустракаць такіх з'яў на сваім шляху. Тады іх поспехі будуць яшчэ большымі і лепшымі.



## АСАБЛІВЫ ДЗЁННІЧАК

Гэта невялічкі блакноцік, з якім Васіль ездзіў у Югаславію. Калі я папрасіў падзяліцца сваімі ўражаннямі аб гэтай паездцы, Нікіценка выняў блакноцік з кішэні і стаў павольна перагортваць лісткі. З кожным гэтым лістком, відаць, паўставаў у яго памяці той горад, аб якім раней ён, можа, толькі чуў ці бачыў яго назву на карце. У кожным такім горадзе было многа сустрэч з людзьмі, асабліва з моладдзю, таму што савецкая дэлегацыя, у якой быў і Васіль, складалася з моладзі.



Сустрэчы гэтыя былі дружалюбныя, яны надоўга астануцца ў памяці. Трошкі перашкаджала няведанне югаслаўскай мовы, але гэта толькі ў першыя дні, а потым навучыліся разумець сяброў з першага жэста ці прыблізнага слова. Асабліва лёгка з'яўляліся ўзаемаразуменні з братамі па прафесіі, будаўнікамі. Тут амаль зусім не патрэбен быў перакладчык.

Васіль цікавіўся, як працуюць югаслаўскія будаўнікі. Іншы раз падаваў і свае парады і прапановы, калі яго прасілі аб гэтым. Вопыт беларускага будаўніка вельмі цікавіў югаслаўскіх сяброў, і яны прасілі расказаць і, дзе можна, паказаць, як працуюць перадавыя брыгады на беларускіх будоўлях. Наколькі дазваляў час, Васіль стараўся рабіць гэта.

Метады работы югаслаўскіх таварышаў вельмі спадабаліся Васілю. Асабліва звярнуў ён увагу на высокую культуру працы. Усякая работа на аб'екце, маленькая ці вялікая, выконваецца тут акуратна, чыста, добротна. І тэмпы работы зусім не малыя: жылыя дамы і прамысловыя карпусы растуць у Югаславіі даволі хутка.

У гэтай краіне вельмі шырока разгорнута будаўніцтва, і рабочыя паспяхова спраўляюцца з дзяржаўнымі планамі. У іх, як і ў нас, добра развіта спаборніцтва звенняў, брыгад і вялікіх калектываў за паспяховае і высакаякаснае выкананне планаў.

Спадабалася брыгадзіру і тое, што на заводах і будоўлях Югаславіі вельмі добра пастаўлена абслугоўванне рабочага чалавека. Усюды там многа сталовых, буфетаў, розных пастаянных і перасоўных столікаў з прадуктамі. Рабочыя і будаўнікі карыстаюцца падвоенымі, у параўнанні з нашымі, перапынкамі на абед, заўсёды могуць заказаць гарачыя стравы і паабедаць не спяшаючыся, у спакойных абставінах. Ім не даводзіцца насіць свае перакускі ў кішэнях, як іншы раз бывае ў нас.

Агледзеў Васіль такія гарады, як Белград, Загрэб, Кракавец, Любляны і іншыя. Усюды савецкай дэлегацыі аказваўся самы цёплы, сяброўскі прыём, усюды былі такія шчырыя сустрэчы, ад якіх засталіся незабыўныя ўражанні.

— І вось яшчэ ў мяне,— Васіль перагарнуў наступны лісток.— Дзе там ні едзеш, дзе ні ідзеш, усюды бачыш і адчуваеш, якія вялікія ахвяры панёс мужны югаслаўскі народ у барацьбе з фашысцкай навалай, якія цяжкасці і выпрабаванні ён пераадолеў. Іншы раз з'яўляецца ўражанне, што ледзь не ўся краіна там усеяна магіламі воінаў, якія загінулі ў баях. Побач з брацкімі магіламі югаслаўскіх герояў часта можна ўбачыць і магілы савецкіх патрыётаў, што аддалі сваё жыццё за свабоду і незалежнасць Югаславіі. Гэтыя магілы заўсёды ў самым лепшым доглядзе. Мясцовыя людзі шануюць іх. Адчуваеш усёй душой, што назаўсёды парадніла нас з югаславамі сумесная барацьба з фашызмам, што ў лёсе нашых народаў вельмі многа агульнага.

— Ці даводзілася сустракацца з былымі югаслаўскімі франтавікамі, партызанамі?

Васіль ажывіўся, падняў на мяне вочы:

— Яшчэ колькі разоў сустракаўся! Там амаль што кожны пажылы чалавек — былы воін. І мужчыны і жанчыны. Бачыў я ўдзельнікаў баёў і маладзейшых па ўзросту, яны яшчэ падлеткамі былі ў партызанскіх атрадах. Нават сярод будаўнікоў такія людзі сустракаюцца вельмі часта. Тыя, з якімі я цяпер перапісваюся, таксама былыя воіны.

...Васіль пакуль што закрывае свой блакнот. Пра самае важнае ён

расказаў, а калі вясці размову аб шматлікіх музеях, карцінных галерэях, тэатрах і розных гістарычных месцах, дзе давялося пабываць у час паездкі, то можна гаварыць вельмі доўга.

Сказана пакуль што пра галоўнае, і, мабыць, самае добрае ў гэтым тое, што цяпер у Васіля ёсць калегі, сапраўдныя сябры не толькі ў Мінску, Полацку, але і ў Югаславіі.

* * *

...Едуць члены брыгады на работу. Не заўважыш у іх ніякай мітусні, ніякай залішняй паспешнасці. Яны не хвалююцца і не перажываюць з-за баязні спазніцца. Яны добра ведаюць, што не спозняцца,— графік у іх цвёрды і непахісны.

...Едуць члены брыгады з работы. Змена прайшла ў плённай, хоць і не лёгкай працы. На тварах трошкі відна стомленасць. Аднак жа, мне здаецца, што нават у аўтобусе, сярод многіх людзей, іх можна адрозніць. Усе яны бадзёрыя і вясёлыя, у чыстай вопратцы, ні ў кога не заўважыш нават і ценю якой-небудзь змрочнасці.

... Ідуць члены брыгады ў сваю вольную гадзіну ў кіно, і таксама іх можна пазнаць нават на адлегласці. Апрануты яны хораша, з густам, і не імкнуцца вырвацца на сярэдзіну вуліцы, як некаторыя задавакі. Калі смяюцца і жартуюць, то зусім да месца і да слова.

... Пагаварыце з якім хочаце членам гэтай брыгады. Можна з кожным. І адчуеце, што час прайшоў не дарэмна, што душа ваша нечым абагацілася, і добрыя ўражанні астануцца надоўга.

... Бачаць людзі фотаздымкі гэтых маладых энтузіястаў. А фотаздымкі іх ёсць на дошках гонару, на плакатах, на старонках шматтыражкі. Вядома ж, што і ў гэтых выпадках, і пры другіх абставінах, могуць узнікнуць пытанні:

— Адкуль вы, маладыя людзі? З якой брыгады?

І адказ з'яўляецца сам сабою:

— З камуністычнай!

**Аляксей КАРПЮК**



# Мая Джамалунгма

1

Яшчэ ў часы прыгону адзін памешчык выменяў недзе на поўдні на гончага сабаку краўца па прозвішчу Карпюк, прывёз яго ў сваю вёску Страшава, Ваўкавыскага павету, і ажаніў з цяжарнаю пакаёўкай.

Калі адмянілі прыгоннае права, кравец атрымаў вольную. Пачаў абшываць вёску. Зойдзе да адной хаты, пажыве з тыдзень, пакуль не скончыцца работа, тады ідзе да другой.

Страшаўскія бабкі нам, малым, апавядалі, які кравец быў жартаўнік:

— Дзеці, прынясіце жменьку попелу, будзем іголку вастрыць!

Тыя прынясуць. Ён водзіць, водзіць па попеле іголкай,— раз! і ўколе ў руку: «А што, вострая?..»

А то ў адной хаце нявесткі пачалі варыць абед і пасварыліся. Гаршчок сабе кіпіць, нявесткі ходзяць за нечым то з хаты, то ў хату, маўчаць, надзьмутыя, а спытацца адна ў адной, ці пасолена страва, не дазваляе гонар. Вярнуліся мужчыны з малацьбы. Пасела сям'я снедаць. Прытчэйшыя зачэрпнулі па лыжцы стравы ды тут жа скрывіліся і выплюнулі яе.

— То хіба і ты саліла? — вінавата спыталася адна маладзіца ў другой.

— Саліла...

Стары кравец уставіў:

— А я падумаў, што сёння такое свята: бачу — усе соляць, пасаліў і я!

У краўца было два сыны. Старэйшы быў заядлы паляўнічы і адчайны чалавек. Аднаго разу малодшы пасвіў валоў і заснуў. Валы залезлі ў панскае жыта. Пан загадаў адмераць пастуху дваццаць бізуноў.

Вяртаецца паляўнічы з пушчы, а яго брат ляжыць ў гумне на саломе і енчыць: у яго спаласавана ўся спіна. Зазлаваў старэйшы брат і пайшоў у маёнтак. Пан з ганка пытаецца:

— Каго табе?

— Цябе! — адказаў хлапец.

Ён узяў за рулю стрэльбу ды так жарнуў пана па жываце, што той тут жа і памёр. З таго часу старэйшы сын краўца некуды знік, і пра яго больш ніхто нічога не чуў. А гэты, малодшы, па імені Аляксей, і быў маім дзедам.

Аляксей стаў потым леснікам і служыў гадоў сорак. Жалаванне капіў, а калі распрадавалі ў Страшаве маёнтак, купіў сабе ўчастак зямлі. Памёр у 1897 годзе.

У майго дзеда было два сыны: мой бацька Нічыпар, 1892 года нараджэння, і на пяць год старэйшы Аляксей. А яшчэ дзед меў пяць дачок. Старэйшы сын падаўся ў Беласток на заробкі, стаў прыказчыкам. Потым адтуль пераехаў у Маскву, і жыве там да сённяшняга дня.

У першую сусветную вайну сям'я Карпюкоў, ратуючыся ад немцаў, эвакуіравалася ў Расію. Майго бацьку ўзялі на фронт. Вайну ён праслужыў наводчыкам трохдзюймовай гарматы, два разы быў ранены. У 1918 годзе, пасля дэмабілізацыі, бацька знайшоў у Расіі маці з сёстрамі, завёз іх у Страшава. Хацеў вярнуцца назад у Савецкі Саюз, ды к таму часу ўстанавілася цвёрдая граніца паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. Так ён і застаўся ў сваім Страшаве.

Праз год бацька ажаніўся з Марыяй Міхайлаўнай Дудзік, з суседняй вёскі Белявічы.

Хутка бацькава маці памёрла, сёстры павыходзілі замуж, параз'язджаліся, і бацька застаўся адзіным гаспадаром на даволі вялікім кавалку зямлі.

У бацькоў было нас два сыны: я, з 1920 года нараджэння, названы ў памяць дзеда Аляксеем, і на два гады маладзейшы брат Валодзя.

У 1932 годзе мы з вёскі пераехалі жыць на хутар, пад лес Ліпнікі, ля самай чыгункі Беласток — Ваўкавыск.

## 2

Мы мелі 18 гектараў зямлі і 13 — балота. Зямля была пясчаная, камяністая, а балота — суцэльны тарфянік. Наколькі я памятаю, мы заўсёды трымалі аднаго каня, дзве-тры каровы, пяцьшэсць авечак і некалькі свіней. Зямлю абраблялі сваёй сям'ёй. Толькі часамі ў дажджлівую восень наймалі жанчын капаць бульбу.

Успамінаючы дзяцінства, я сябе амаль не бачу сярод раўеснікаў за гульнямі. Толькі запомнілася, як у спякотнае лета ные спіна, салёны пот засціла вочы, а ты з перавяслам у руках з сумам і надзеяй пазіраеш на неба: калі ж, урэшце, пойдзе той дождж, каб можна было залезці ў бабкі, паляжаць... А то, памятаю, хацелася захварэць, каб адпачыць, выспацца.

А ўвосень ці зімою варта было мне ўцячы да сяброў, каб пакатацца на санках ці пагуляць у пікара, маці крычала з акна:

— І не сорам табе! Няхай ужо яны галёкаюць... Ты ж у школу ходзіш, а паводзіш сябе, бы невук! Марш дамоў, а то бацьку паклічу!

І я вяртаўся з вуліцы, сек дровы ці браўся за кніжку.

Ад нашага хутара да бліжэйшага мястэчка Гарадок было 6 кіламетраў. Там мы вучыліся з братам. Ішлі ў школу толькі тады, калі напасвім кароў. І ішлі не з адными кніжкамі. Кожны дзень мы насілі ў горад па 6 — 7 літраў малака. А з бутэлькамі гэта — паўпуда! Насілі дзень у дзень, зімой і восенню, і гэтак да сёмага класа. Я тады часта прастуджваўся, і ад хранічнага катару ў мяне зусім атрафіравалася абаняне. З дванаццаці год і да сённяшняга дня кветкі і бензін для мяне пахнуць аднолькава.



У маім класе з сялянскіх дзяцей вучыліся толькі я і Сашка Кандрусік з Гарадка, а рэшта былі сынкі польскіх чыноўнікаў, яўрэйскіх фабрыкантаў, крамнікаў і іншай дробнай буржуазіі. Зрэбная кашуля, розныя гузікі на ёй, босыя ногі ці не так вымаўленае польскае слова выклікалі ў маіх аднакласнікаў насмешку. Яны мною ганьбавалі. Настаўнікі глядзелі на мяне з цікаўнай варожасцю, як на выхадца са славутай вёскі, якую паліцыя называла «чырвоным гняздом». Я ўзненавідзеў і школу, і настаўнікаў, і тое, чаму яны вучылі. Хадзіў туды, бо баяўся бацькі. Глядзеў на сваю вучобу, як на нешта часовае, і ўсё чагосьці чакаў, чакаў...

## 3

Бліжэйшым культурным цэнтрам ад нас было мястэчка Гарадок. Яно мела і гміну. Наша гміна знаходзілася ў Ялоўцы — шаснаццаць кіламетраў ад Страшава. Не раз прыязджалі прадстаўнікі польскай улады, збіралі сялян, нагаворвалі іх прылучыцца да гміны ў Гарадку, але маім землякам выгадна было трымацца ад улады на дыстанцыі. Мужыкі моўчкі слухалі прамоўцаў, курылі, уздыхалі. Калі ж справа даходзіла да галасавання, — дружна паднімалі рукі супраць.

За якіх трыццаць кіламетраў ад нашага Страшава знаходзіўся Беласток. У рэвалюцыю 1905 года на яго барыкадах казакі арыштавалі некалькі страшаўцаў з чырвонымі бантамі. Гэтыя людзі вярнуліся з катаргі загартаванымі рэвалюцыянерамі толькі ў грамадзянскую вайну. Потым яны адышлі на ўсход, калі Чырвоная Армія адступала з-пад Варшавы, але пакінулі тут рэвалюцыйны дух. На хутары страшаўцаў перасялялі з паліцыяй. Падаткі спаганялі таксама з паліцыяй. Многія мае аднавяскоўцы былі дзёрзкія да ўрада, бо ведалі: на ўсходзе ёсць магутныя заступнікі. Пагражала хлопцу турма за палітычную дзейнасць — ён уцякаў на ўсход. З гарачкі ажэняцца маладыя, убачаць, што ў іх ні кала, ні двара, ні работы — бягуць на ўсход; там усім хопіць і работы і прытулку. Тыя, хто ўцячы не мог, пацяшалі сябе: нічога, тут Пілсудскі, але і ў нас ёсць Радзіма. Ва ўяўленні нашых людзей яна была раем на зямлі, дзе цякуць малочныя рэкі, людзі ходзяць у шаўках і жывуць у палацах. Ого, савецкія людзі ўсё могуць: нельга было выжыць пырнік з палёў, то скрыжавалі яго з пшаніцай і здымаюць па сто цэнтнераў з гектара! Пачынаецца засуха ў якім-небудзь раёне? Нічога! Рускія вучоныя пашлюць туды дажджавыя хмары. Пагражаюць бальшавікам японцы? Няхай заварушацца толькі! Савецкія інжынеры выкапаюць канал, пусцяць па ім Ледавіты акіян! Маўчаў бы лепш і немец, бо толькі загадаюць Тэльману — і заўтра ж будзе ў Германіі рэвалюцыя! І Пілсудскаму паголяць вусы, няхай толькі паткнецца!..

Вера людзей была святой да наіўнасці, упартай да смерці, часамі гранічыла з сектанцтвам. І мой бацька ў сваёй веры быў цвёрды да слепаты. Ён рэвалюцыйны дух прынёс яшчэ з арміі, у вёсцы арганізаваў ячэйку кампартыі, потым — камсамола.

Памятаю, за мяжу ўцёк стары халасцяк Раман з суседняй вёскі Зубкі, але праз два месяцы вярнуўся. Прыйшоў да бацькі пануры, маўклівы, пастарэлы. Я сядзеў ля печы, стругаў палена: мяне мужчыны не таіліся.

— Ну, расказвай, як там? — спытаўся бацька.

І Раман пачаў расказваць, што ў саветах жанчыны ходзяць у галёшах на босую нагу... А ў магазінах — чарга... за чорным хлебам...

— А-а, мярзотнік, ужо купілі цябе паны! — абарваў яго бацька. — Прэч з маёй хаты, прадажная шкура!

Раман заплакаў і пайшоў.

Паліцыянты азалацілі б Рамана, каб ён згадзіўся расказаць, што бачыў за мяжой. Толькі ён нікому не сказаў ні слова, але сам не мог перанесці душэўнага разладу. З нашай хаты ён пайшоў за зубкоўскія

гароды і ўтапіўся. Аб сіле яго волі можа сказаць толькі рэчка, у якой ён, цвярозы, прыняў смерць. Ёй людзі не прыдумалі нават назвы. У самым глыбокім месцы яна мела семдзесят сантыметраў глыбіні.

## 4

Тады і здарыліся са мной выпадкі, якія на ўсё жыццё уразілі маю душу.

Выпадак першы. Як звычайна, валокся я з бутэлькамі малака ў школу. Са мной крочыла Ніна — дачка найбагацейшага страшаўца, Ігнатавага Арсеніка. Якраз ноччу падпольшчыкі спалілі гумно ў аднаго дзядзькі, бо ён купляў з распрадажы рэчы, якія забіралі за падаткі. Пад Гарадком, ля спаленага гумна, мы раптам убачылі на вярбе чырвонае палотнішча сцяга. Калі мы прайшлі яшчэ крокаў сто, нас спаткаў на веласіпедзе доўгі, як п'яўка, у сінім мундзіры паліцыянт Лукашэвіч з Гарадка. Ніна ішла ўперадзе мяне, і ён у яе спытаўся, ці не бачыла сцяга. Апусціўшы вочы, Ніна кінула:

— Не!

Тады ён пад'ехаў да мяне і спытаўся пра тое самае. Мяне нібы загіпнатызавалі. Я адчуў яго ўладны позірк, мая воля раптам растаяла, і я сказаў, дзе вісіць сцяг. Ніякага значэння маё прызнанне не мела, бо паліцыянт праз мінуту ўбачыў бы сам, дзе вісела палотнішча, калі ўжо пра яго ведаў і ехаў здымаць. Але для мяне тут была справа прынцыповая. Потым што б я ні рабіў у падполлі, у партызанах, у салдатах, я ўспамінаў хвіліну сваёй слабасці на пясчаным тракце пад Гарадком, і кожны раз мне здавалася, што я зрабіў мала, каб акупіць свой ганебны ўчынак.

Выпадак другі. У Страшаве самым распаўсюджаным педагагічным сродкам, якім бацькі дабіваліся належнага выніку ў выхаванні дзяцей, была папруга. Бацька наш быў суровы, і мы з Валодзькам каштавалі папругі даволі часта. Аднаго разу за нейкую шкоду бацька накруціў мне вушы, я ўцёк да суседа — халасцяка Антончыка. Там было некалькі мужчын. Увайшоў яшчэ адзін хлапец і стаў апавядаць навіну, быццам бы падпольшчыкі атрымалі інструкцыю, каб ачысціць рады партыі і камсамола ад кулакоў. Не бачачы мяне, нехта заўважыў, што найбольш зямлі мае Нічыпар Карпюк — сам сакратар партарганізацыі. Я не ведаў, што ў бацькі былі і асабістыя ворагі. Яны цяпер і пачалі злараднічаць:

— Ага, арганізаваў ячэйку, а самога выключаць з партыі. Так яму і трэба!

Вярнуўся я дамоў, а тут бацька мне даў папругі яшчэ і за тое, што я недзе лётаю і не вучу ўрокаў. Але цяпер я не заплакаў, а кінуў помсліва:

— Ага, а цябе з партыі выключаць, бо ты — кулак!

І раптам я ўбачыў, як ад маіх слоў бацька змяніўся ў твары. Ён паглядзеў на мяне так, што маё сэрца ледзь не разарвалася.

— Дык што ты ведаеш? Што? — прашаптаў ён бы не сваімі вуснамі.

Я аб усім расказаў і заплакаў.

Відаць, найбольш пакрыўдзіць бацькоў могуць толькі дзеці. Усё жыццё ў мяне стаіць перад вачамі пакрыўджаны бацькаў твар... Не цешыць і тая ісціна, што на памылках мы вучымся.

## 5

Тады 1932, 1933, 1934 былі гадамі самай актыўнай дзейнасці КПЗБ у нашай мясцовасці. Вакол Страшава сінелі лясы, у Гарадку існавала з дзесяць тэкстыльных фабрычак. Забастоўкі лесарубаў, возчыкаў, ткачоў, забойствы правакатараў, сутычкі



з паліцыяй былі тады звычайнай з'явай. Усе падзеі адбываліся на маіх вачах, часамі прымаў у іх удзел і я. Зімой за арганізацыю забастоўкі, якой кіравала КПЗБ, мой бацька быў першы раз пасаджаны ў ваўкавыскую турму.

Цэлую зіму гаспадарыла адна маці, я з Валодзькам ёй памагаў як толькі мог. Незнаёмыя людзі прывозілі нам на хутар дровы, малацілі нашае збожжа, збіралі бацьку грошы на адваката, нават заставаліся ў нас нанач, каб мы не баяліся спаць. Той час, калі я гэтак выразна адчуў людскую салідарнасць і спагаду, цяпер успамінаецца мне як нейкае вялікае шчасце.

Скончыў я сямігодку. Каб вучыцца далей, трэба было мець шмат грошай. Вучоба ў гімназіі з утрыманнем каштавала прыкладна 70 злотых у месяц. Столькі каштавала тады адна карова... Пра гімназію нельга было і думаць, і тады я задумаў уцячы вучыцца ў СССР. Начытаўшыся Ната Пінкертона і Шэрлака Холмса, летам 1934 года я падгаварыў Васю Курцэвіча з Валіл, з якім некалькі год сядзелі за адной партай. Мы запасліся харчамі і падаліся на ўсход. Граніцы перайсці мы не змаглі. Шукаючы яе, цэлы тыдзень праблукалі ў палескіх балотах ля Ганцавіч і Морачы. Згаладнелых і абарваных, нас злавілі польскія пагранічнікі і перадалі паліцыі. Суд у Клецку даў нам па тры месяцы ўмоўна. Крыху патрымаўшы ў каталажцы і ўсыпаўшы як след на дарогу, нас адправілі дамоў.

Вярнуўся я ў Страшава героем. Падпольшчыкі цяпер мяне адразу прынялі ў камсамол. І пацякло маё ранняе юнацтва. Я памагаў бацьку па гаспадарцы, займаўся падпольнай работай. У апошнім, вядома, тады я бачыў толькі рамантыку.

Ноччу мы недзе збіраліся — у лесе, на балоце. Кудысьці ішлі на спатканне з чалавекам, якога потым ніколі ў жыцці не бачылі. Хавалі ў гумнах, перапраўлялі ў суседнія вёскі нейкіх людзей. Пераносілі пакеты кніжачак, брашур, пракламацый. Браліся не раз калектыўна чытаць падпольную літаратуру, ды мова яе была для нас занадта вучонай. Не даслухаўшы, мы прымалі ўсё на веру. Толькі нямногія хлопцы на ляту схоплівалі доўгія вучоныя фразы, потым імі бравіравалі, а мы, слухаючы іх, заміралі ад таямнічага і незразумелага сэнсу, і зайздросцілі. Затое ўсе мы дружна білі правакатараў, падпальвалі іхнія хаты. У Страшаве нас было 5 камсамольцаў, а на нашу вёску і Белявічы — 4 члены партыі, але мы задавалі тон цэлай акрузе. Мы давалі клятву ніколі не піць гарэлкі і не курыць, — гэта падхапілі і сяляне. Аднойчы калектыўна зарабілі грошай і купілі радыёпрыёмнік. З той пары, выставіўшы варту ля дома, цэлай вёскай слухалі перадачы з Мінска, Масквы.

## 6

Раптам папаўзлі чуткі, быццам былыя катаржнікі са Страшава, што ўцяклі ў СССР, ворагі народа! Людзі дзівіліся спачатку, паціскалі плячамі.

— Мусіць, так трэба. У Маскве разумнейшыя за нас. Ведаюць, што робяць! — уздыхаючы, пацяшалі тады сябе мае землякі.

Непрыкметна для саміх сябе некаторыя таксама пачалі прыглядацца адзін да другога і недавяраць. Сталі шукаць ворагаў і ў сябе. Сусед пачаў насцярожана прыглядацца да суседа, брат — не верыць брату, сын — бацьку.

Маім ідэалам падпольшчыка быў сын нашай суседкі Сахарыхі — Цішэўскі Юлек. Гэты дужы і разумны хлапец не лез у кішэню за словам, займеў павbooжанне ў старых, сімпатыю і любоў у моладзі, а дзяўчаты дык усе былі ў яго закаханыя. Юлека паважалі і баяліся нават паліцыянты з Гарадка і Ялоўкі.

Аднаго разу Юлека арыштавалі, але не было доказаў віны, і яго мусілі выпусціць.

Тады нехта подла шапнуў:

— А-га, выпусцілі! Думаеш — так?.. Мусіць, прадаўся!

З бруднай падазронасці Юлекавы ворагі ўраз зрабілі праўду. Гарачыя галовы вызваліся пакараць «здрадніка». Аднаго вечара гэты страшаўскі самародак і шчыры камуніст праз акно атрымаў кулю ў скроню ад свайго былога сябра.

Мне цяжка было зразумець паспешлівасць, з якой людзі паверылі ў здраду чалавека, перад якім яшчэ нядаўна прakлaняліся.

Зрэшты ўся трагічнасць выпадку дайшла да мяне значна пазней, калі я стаў разумны разам з іншымі. Тады ж я з жахлівым недаўменнем стаяў над труною Юлека Цішэўскага і не хацеў верыць, што свет такі жорсткі.

Але хутка маю ўвагу заняло іншае.

Пачаўся 1936 год. Дэфензіва добра падрыхтавалася і ў адзін дзень правяла масавы арышт падпольшчыкаў. Арыштавалі мяне і бацьку. Першую ноч мы правялі ў Юлека Кушнярова ў Белявічах. На падлогу Юлек наслаў саломы, нас паклалі ўсіх у рад, і сышчык з наганам стаў на варту.

У хату да Юлека прытэпала мая бабка і стала прасіць:

— Пане, ну навошта трымаеце майго ўнука? Хіба ён бандыт? Хіба каго забіў, зарэзаў?

— Матко, ён горшы, — адказаў сышчык. — Бандыт зарэжа аднаго чалавека, а твой унук замахнуўся на цэлую дзяржаву!

Для мяне гэта быў найвялікшы камплімент, які толькі можна прыдумаць. Слухаў я свайго ворага і рос...

У Ялоўцы на пастарунку пачалася расправа. Некаторыя нашыя хлопцы не вытрымалі, пачалі «сыпаць». Я паспрабаваў першую горыч здрады тых людзей, ад якіх найменш спадзяваўся. Ад мяне не дабіліся нічога. Мы чакалі суда.

Кампанія ліквідацыі КПЗБ і КСМЗБ адбывалася па ўсім Беластоцкім ваяводстве. Каб усіх перасаджаць, ураду не хапіла б турам. Прыгаворы з турэмным зняволеннем суддзі выносілі толькі сакратарам ці тым падпольшчыкам, якіх абвінавачвалі ў забойстве. Астатніх падвялі пад амністыю. Бацька атрымаў невялікі тэрмін, а мяне, малалетняга, амніставалі. Памятаю, калі мне сказалі пра гэта, я расплакаўся: надта хацелася, каб засудзілі, як іншых.

Настаў цяжкі час. Лепшыя людзі апынуліся ў турмах. КПЗБ і КСМЗБ былі распушчаны. На свеце запахла порахам. У Іспаніі выбухнула грамадзянская вайна.

Аднойчы вясной 1937 года прыехалі да мяне з Гарадка былыя падпольшчыкі і школьныя сябры Саша Кандрусік з Толем Пятэльскім і загадалі збіраць па хатах дапамогу для рэспубліканцаў. Цэлы год я вечарамі збіраў жыта, каўбасы, грошы і адпраўляў у Гарадок. Часам я пытаўся сам сябе: як гэта ўсё перапраўляюць у Іспанію? Ну, грошы можна пераслаць, а жыта — прадаць. Але ж як адпраўляюць каўбасы?

Між іншым, і да сённяшняга дня мяне мучыць сумленне: ці ўсё сабранае тады даходзіла да гераічных іспанцаў? Не Сашка і не Толя, але іншыя людзі, якія кіравалі такімі зборамі, часамі былі падазронымі. Некаторыя, як выявілася ў 1941 годзе, былі проста шарлатаны, п'яўкі і нажываліся на народным патрыятызме. Але гэта ўжо іншая тэма...

Дарэчы, я тады імкнуўся паехаць дабраахвотнікам у Іспанію, ды трэба ж было так здарыцца, каб адказным за вярбоўку ў нашай акрузе быў мацерын брат, дзядзька Мікалай Дудзік з Белявіч. Ён, вядома, расказаў бацьку, і мая авантура скончылася вялікім сямейным скандалам.

## 7

Чырвоная Іспанія канала. Станавілася відавочна, што нашая дапамога яе не ўратуе. Цяпер я страціў і той адзіны занятак, у якім знаходзіў маральнае задавальненне. Цяжкая праца на гаспадарцы не мела ніякай перспектывы. Я першы раз па-даросламу спытаўся ў сябе: што ж мне рабіць?



Хоць бліжэйшым горадам у нас быў Беласток, але культурным цэнтрам па традыцыі лічылася Вільня. Яшчэ з часоў Кастуся Каліноўскага, а мо і раней, многія пакаленні нашай моладзі імкнуліся туды, каб вярнуцца адукаванымі людзьмі, вопытнымі рэвалюцыянерамі. Памкнуўся туды і я. Дома мой праект падтрымалі.

Летам 1938 года я прыбыў у Вільню і паступіў у вячэрнюю школу пры гімназіі імя «адукацыі народовэй». У гэтай школе двухгадовую праграму праходзілі за год. Такім чынам да наступнага лета я скончыў два класы гімназіі. Харчы прысылалі бацькі, грошай на вучобу зарабляў: быў пасыльным у гімназіі, разносіў па кватэрах малако.

Нямецка-польская вайна ў верасні 1939 года застала мяне дома. Тады і ўбачыў я першы раз салдат вермахта. Яны пацiскалі нам, беларусам, рукі, запэўнялі: «О-о, Москаў гу-ут! Нікс крыг!» Цяжка было не верыць шчырым запэўненням салдат, і — памяталася крывавая расправа фашыстаў з рэспубліканцамі ў Іспаніі. Пачалі мы збіраць вінтоўкі, каб павярнуць іх супраць прышэльцаў з захаду, ды надышло 17-е верасня.

Ад Страшава недалёка праляглa граніца. Там ужо накоплівалася гітлераўская армія. Начамі пачалі гарэць у ваколіцах будынкі, масты, гінулі людзі.

Як потым выявілася, акты дыверсій выконвалі разведчыкі вермахта.

Гэтым часам я паступіў у Навагрудскае педвучылішча і да лета 1941 года скончыў два курсы. У педвучылішчы падаў заяву, каб мяне прынялі ў камсамол. Мне адмовілі, бо ў бацькі многа гектараў зямлі (між іншым, вярнуў мне заяву з адмоўным адказам сакратар камітэта камсамола Мароз, які потым стаў... паліцаем!). Горкая крыўда і пачуццё асабістай абразы не дазволілі мне сабраць доказы, што я — сын падпольшчыка, а не кулака, і сам не быў пасіўным сведкам падпольнай барацьбы ў буржуазнай Польшчы.

З-за гектараў папацярпеў тады і мой бацька. Яго абклалі кулацкім падаткам, але ён не ішоў нікуды скардзіцца. Вядома, потым разабраліся б са мной і з ім, ды навaліліся падзеі важнейшыя.

## 8

Навагрудак фашысты занялі толькі пасля двухтыднёвых баёў. Вучняў педвучылішча гэты час ваенкамат выкарыстоўваў як пасыльных. Потым арганізаваў з нас каманду лавіць нямецкіх парашутыстаў, ды настаўнікі-камандзіры павезлі сем'і на ўсход, і каманда распалася. Тады я са сваім блізкім сябрам Мікалаем Жураўлёвым папрасіўся на фронт.

— Куды я вас падзену? — адказаў стомлены ваенком, капітан Волкаў. — Навагрудак абкружаны. Зброі няма ніякай. Вы лепш не блытайцеся пад нагамі, валяйце дамоў і чакайце.

І я павалокся дахаты. Немцаў спаткаў каля Дзятлава, яны прыпаднялі маю шапку, пабачылі, што галава не пастрыжаная — не салдат — і адпусцілі.

Вярнуўся я ў Страшава. Якраз вярнуўся і бацька — ён з падпольшчыкамі таксама адступаў на ўсход, але немцы іх дагналі. Прывалокся ўвесь у пухірах і мой брат Валодзька. Ён вучыўся ў Мінскім тэхнікуме сувязі, адышоў найдалей — яго немцы дагналі недзе за Барысавам.

Ажылі мы крыху і агледзеліся. Ваколіцы Страшава немцы часта бамбілі. Па палях, лясах і дарогах стаялі дзесяткі цэленькіх і новенькіх танкаў, гармат, якія часамі не зрабілі ні аднаго стрэлу па праціўніку. Якіх-небудзь пяцьдзесят задрыпаных немцаў па шашы вялі калону ў некалькі тысяч дарэшты знясіленых палонных...

Усё здавалася нібы сном. Была такая моц і яе не стала! Ніякія весткі

(Далей гл. стар. 98).

У СВЕЦЕ ✱ ПРЫГОЖАГА

# СЛОВА ПРА СЯБРА

Цішыня. Насцярожаная і бясконца жудасная цішыня. Здаецца, вымерла ўсё наваколле. Не чуваць людской гамонкі, не скрыпне вочап над студняй. Здаецца, і вецер перастаў шастаць галінкамі дрэў.

Толькі салдат ведае цану гэтай кароткай цішыні. У невялічкім, наспех выкапаным акопчыку ён толькі што набіў кішэні патронамі і гранатамі, прыгнуўся і з рукава дацягвае, можа, апошнюю цыгарку. Бярэцца на золак. Праз мінуту-дзве ранішнюю цішу ўскалыхне пярун Зеўса, і загаворыць бог вайны — артылерыя, мінамёты, «кацюшы»... Пачнецца артпадрыхтоўка, а ты, салдат, тым часам кідай абагрэты сваім целам акопчык, нясіся наперад, прыпадай за ледзь прыкметны курганок, імчы туды, у чужы акоп, каб вызваліць яшчэ адзін кавалачак роднай зямлі, сясцёр, бацькоў...





Мікола Залозны ў майстэрні.

Такі шлях салдата. І не кожны прайшоў яго з канца ў канец. А хто прайшоў — ніколі не забудзе.

...1959 год. У актавай зале Беларускага дзяржаўнага мастацкага інстытута ідзе абарона дыпломаў. Дыпламанты, былыя салдаты і партызаны, тыя, хто, не дачакаўшыся апошняга школьнага званка, змянілі аловак на вінтоўку і змагаліся з чужынцамі. І, нібы рэха, праз столькі год на іх палотнах паўстаюць этапы гераічнага мінулага. «Дарогамі мсціўцаў» і «Выхад з блакады», «Салдаты дзвюх армій» і «Незабыўныя дні» — так назвалі свае палотны мастакі.

...Чорны, засмужаны далягляд. Едкім дымам кураць свежыя варонкі ад бомбаў і снарадаў. Аднекуль з-за выспачкі цягнецца нястройны шэраг варожых салдат з афіцэрам. Яны ідуць на ўсход. Туды, куды пасылаў іх фюрар. Ім патрэбны былі рускія прасторы, і яны ідуць гэтымі прасторамі, толькі не як пераможцы: у пярэдняга ў руках — кавалак белай анучы.

Калгасны пенсіянер.

«Капітуляцыя». Так назваў сваю карціну былы салдат, мастак Мікола Залозны.

На палатне не відаць тэхнікі, якая прымусіла ворага пакласці зброю. Не відаць рукапашнай схваткі і напружанага моманту атакі. Мастак лаканічнымі сродкамі апавядае пра тое, што тут нядаўна атрымана перамога над ворагам. Толькі што закончыўся артылерыйскі налёт. Дзесьці далёка, за рамай карціны, з левага і правага флангаў у тыл ворага прарваліся нашы танкавыя і механізаваныя злучэнні. Бой ідзе далёка на захадзе, а невялічкаму падраздзяленню савецкіх салдат, якія толькі што былі на пярэднім рубяжы, трэба прапусціць у тыл варожую калону.

Сваіх аднапалчан мастак трактуе такімі, якімі яны былі ў жыцці. Вось на броўцы акопа, шырока расставіўшы ногі, стаіць чубасты хлопец у ссунутай набакір шапцы. Ён яшчэ не адвык ад вясковай звычкі — яго рукі ў кішэнях. Не відаць твару салдата, але ў яго пастаці ўгадваецца бывалы разведчык, які не раз хадзіў у тыл ворага і абхітрыў не адну кулю. Крыху бліжэй да нас юнак-кулямётчык, ён толькі што выйшаў з бліндажа і ўглядаецца туды, дзе ўзыходзіць сонца. У вачах — вялікая туга па дому, па маці. Здаецца, ён зараз крыкне: «Мама, я вярнуся!» Але ж ідзе вайна і побач з ім салдат, які прайшоў яе ад Брэста да Волгі і вяртаецца зноў на захад. Ён дакурвае можа тую цыгарку, што не дакурыў перад боем, і думае пра свой завод і варштат, ад якога адарвала яго вайна...

Перад палатном стаяў чарнявы, плячысты хлопец і, крыху хвалюючыся, расказваў пра свой твор. Штосьці вельмі знаёмае было ў рухах і гаворцы гэтага хлопца. Толькі крыху пазней я даведаўся, што з Міколам мы служылі ў адным вайсковым злучэнні. Дарогі вайны перашкодзілі нам пазнаёміцца ў той час бліжэй, але ж гэта ён, Колька — ліхі матацыкліст.

Мікола запрасіў мяне ў сваю майстэрню. Ён рыхтаваўся да рэспубліканскай мастацкай выстаўкі 1961 года. І зноў мастак абраў сваёй тэмай перажытае, што пакінула глыбокі след у яго сэрцы.

«Студэнты». Так назваў свой новы твор мастак. Палатно расказвае пра мірныя дні, але добра чытаецца на ім рэха вайны. За акном сілуэты новабудоўляў. Узнімаецца з попелу родны горад. А тут, у калідоры, у час перапынку ці перад экзаменамі былы салдат уважліва слухае тлумачэнне дзяўчыны, учарашняй школьніцы. Салдату цяжка. Вучыцца яму перашкодзілі фашысты, і ён пераадолее гэтую цяжкасць.

У майстэрні мастака шмат эцюдаў да партрэта Героя Савецкага Саюза Леаніда Лукашэвіча.



Мастак В. Васільеў.

З кардону глядзяць зусім дзіцячыя, быццам дзявочыя, вочы. Мікола Залозны па крупінцы збірае вобраз героя. Не паспеў юнак, якому было крышку болей за дваццаць, зайсці да фатографа перад тым, як ісці ў разведку, і — абарвалася яго жыццё. Але ж засталіся жывыя яго сёстры, сябры-партызаны, камандзір узвода Якаўлеў. Мастак за-



Герой Савецкага Саюза Леанід Лукашэвіч.

прашае іх да сябе ў майстэрню, падбірае контуры і аднаўляе вобраз героя.

— Так, гэта ён, наш Лёня,— гавораць сёстры.

— Гэта ён,— гаворыць паплечнік героя Аляксандр Максімавіч Якаўлеў.

А ў мастака тым часам на кардоне вырысоўваюцца контуры новай карціны. Праз нейкі час яны на палатне, і зноў мастак вяртаецца да блізкай яму ваеннай тэматыкі.

«Вызваленая зямля». Гэты твор можна будзе ўбачыць на выстаўцы ў гонар Дня Савецкай Арміі і Флоту.

На палатне — першая вясна пасля вызвалення.

Мусіць, мастак не раз прайшоў каля папялішчаў і ведае, як была ўзарана і засеяна першая баразна. Вось яны ідуць проста на нас, сейбіты. Заклапочаныя, занятыя сваёй справай. Маладая дзяўчына і сівы дзядуля, якому гора сагнула плечы. Крыху далей пажылая маладзіца. Яна сее з хусткі, якую начапіла цераз плечы. Тут жа паранены салдат. Адна рука яго яшчэ ў бінтах. Салдат зняў рамень і, падчапіўшы на яго каробку, кідае зерне...

На палатне за шырокім далягдядам не відаць ні дрэўца, ні хат: мусіць, іх спалілі карнікі. Не відаць ні каня, ні плуга. Усё знішчана. Толькі чарнее на пагорку абгарэлы нямецкі танк.

Цяжкія дні мінулі. Чацвёра сеюць. Сеюць хлеб. Хлеб, які дасць жыццё і салдату, што вернецца ў строй, і тым, хто дзесьці на далёкім Урале куе зброю перамогі.

...Ціха ў майстэрні. У ліхтар цягне вячэрні змрок. Мікола садзіцца ля кардону. Робіць накіды. Віруе думка. Менавіта ў гэты час нараджаецца новая тэма...

**Ігар КРАЎЧАНКА.**

---

(Пачатак гл. стар. 89—95).

не даходзілі ў наша Страшава. Мы сталі глыбокім тылам. Усюды былі толькі выпешчаныя, самаўпэўненыя нямецкія салдаты і афіцэры.

Наўрад ці можна параўнаць франтавыя, лагерныя і партызанскія нягоды з тымі маральнымі пакутамі, якія давялося перанесці тады, у першыя месяцы акупацыі. Я тады перажыў самыя чорныя дні ў маім жыцці.

## 9

Нашу тэрыторыю немцы далучылі да трэцяга райха. Увялі строгую сістэму падаткаў і адміністратыўнай улады. Жандармерыя правяла дзеля страху некалькі арыштаў. У вёсках, якія раскінуліся вакол Гарадка, некалькі чалавек было расстраляна. Але ў Страшаве нікога не кранулі, праявілася выхаваная ў страшаўцаў яшчэ ў часы падпольнай барацьбы пры буржуазнай Польшчы пачуццё салідарнасці і ўменне трымаць язык за зубамі ў момант небяспекі.

Ішлі дні, тыдні, месяцы. Людзі памалу пачалі агоўтвацца. Сталі даходзіць радасныя весткі пра баі пад Масквой. У нас нібы адкрыліся вочы. Убачылі, што ў немцаў кудысьці падзелася ранейшая фанабэрлівасць. У нас зарадзілася надзея, захацелася змагацца.

Восенню 1941 года я з братам у Ліпніках каля свайго хутара выкапалі зямлянку. Мы пачалі зносіць туды радыёпрыёмнікі, зброю. У маленькай вёсачцы Папоўка жылі Дзенісюкі, радня маёй бабулі. Ля Папоўкі прытаілася ў лесе ўзброеная групка вайсковых і цывільных людзей пад камандай старшыны войск НКУС Міцькі Высоцкага. У кастрычніку Дзенісюкі завялі мяне да Высоцкага. На просьбу забраць нас з братам у групу старшына сказаў:

— Калі вы можаце яшчэ быць дома, дык будзьце! А каб немцы не вывезлі ў Германію, паступіце працаваць на чыгунку.

Усю зіму 1941—42 гг. я быў чарнарабочым на чыгунцы ў сваёй вёсцы. Некалькі разоў Міцька Высоцкі выклікаў мяне з братам на дыверсіі. Мін тады рабіць не ўмелі, пускалі паязды пад адхон фокусам. Бывала, прыйдзе ноччу Высоцкі з дзесяткам чалавек, папрыходзім і мы. Рэйкі на чыгунцы Ваўкавыск — Беласток немцы прымацавалі не кастылямі, а шрубамі. Мы, чыгуначныя рабочыя, прыносілі з сабой тарцовыя ключы. Калі праходзілі патрулі, усе вылазілі на пуць, адвінчвалі рэйкі, сцягвалі іх на бок і ўцякалі. Часамі наступныя патрулі заўважалі разабранае палатно і ўзнімалі трывогу. Аднак разы са два нам усё ж удалося пусціць цягнік пад адхон.

Летам 1942 года я трапіў на вока нямецкаму начальству. Яно выбірала з моладзі тых, хто ведаў нямецкую мову, і ставіла стрэлачнікамі і дзяжурнымі па станцыі. У лік гэтых людзей трапіў і я. У Валілах навучылі нас азбуцы Морзе і парассылалі на паўстанкі дзяжурыць. Я трапіў на паўстанак у сваю вёску.

Да восені 1942 года нашы хлопцы ў лесе сталі сапраўднымі партызанамі. У іх пабывалі прадстаўнікі штаба партызанскага руху з Масквы. Група Высоцкага атрымала толавыя шашкі, магнітныя міны, друкаваныя лістоўкі. На чыгунцы падабралася шмат надзейных людзей, і мы рабілі сваю справу. Напрыклад, Высоцкі дасць магнітную міну замаруджанага дзеяння, я яе перадаю свайму стрэлачніку. Калі ідзе поезд з цыстэрнамі на фронт, я наўмысна яго прытрымліваю на паўстанку, пакуль стрэлачнік прылепіць міну да жывата цыстэрны. Або прытрымаю поезд з цюкамі прасаванага сена, куды нашыя хлопцы клалі бутэлькі з нафтай і берталетавай соллю ў паперцы. Потым чуем — недзе ў Ваўкавыску, Слоніме ці Баранавічах згарэла частка эшалона з бензінам ці з сенам. Аднак быў такі час, што нават я, дзяжурны, не мог дакладна ведаць, што робіцца на суседняй станцыі, і праверыць чуткі не было магчымасці.

На фронце ішлі цяжкія баі за Сталінград. Да таго часу многія брыгадзіры рамонтных брыгад, стрэлачнікі і дзяжурныя ад Беластока да Ваўкавыска былі нашымі людзьмі. Я з імі трымаў сувязь. Высоцкі задумаў вывесці са строю адразу ўвесь адрэзак чыгункі ў сто кіламетраў, з паўстанкамі, вакзаламі, вадакачкамі. Пасля гэтай дыверсіі нам дазвалялася ісці ў партызаны. Ды тут здарылася непрадбачанае.

Групе Высоцкага спатрэбілася батарэя для прыёмніка. Тады ўмудраліся для гэтай мэты прымяняць акумулятары з аўтамашын. Міцька з сябрамі пайшоў ноччу на шашу паляваць грузавік. У лесе Ліпнік машыну затрымалі. У грузавіку было толькі два салдаты, яны стрэлілі з вінтовак па аднаму разу, але нямецкая куля забіла Высоцкага. Яго намеснік забраў групу і павёў пад Брэст, у бяспечнае месца. Гэтак мы страцілі і кіраўніцтва, і падтрымку, і сувязь з партызанамі, і месяцы два не ведалі, што рабіць.

У лютым 1943 года мяне арыштавалі. Адначасна немцы ўзялі яшчэ людзей. Забралі і майго бацьку з братам.

## 10

Цяпер у мяне ёсць падставы лічыць, што немцы тады мяне арыштавалі не ў сувязі з маёй падпольнай работай, бо ў такім выпадку забралі б і яшчэ каго-небудзь з чыгункі. Усе арыштаваныя са мной былі пажылыя сяляне з навакольных вёсак. Нас прывезлі ў гестапа 60 чалавек. Дваццаць з іх расстралялі, дзесяць пусцілі дамоў, а астатніх вывезлі ў лагер смерці. Я добра ведаў расстраляных. Некаторыя з іх былі далёкія ад палітыкі, яны толькі і ведалі поркацца на гаспадарцы. Чатырох з іх гестапаўцы схапілі за тое, што яны гулялі ў дурня. У ліку расстраляных былі і такія, якіх мы баяліся, як правакатараў. Няйначай, справа выглядала так: нейкаму фашыстоўскаму начальніку далажылі, што наш раён — гняздо партызан, начальнік выклікаў карнікаў, тыцнуў пальцам у карту і загадаў — з-пад Гарадка столькі людзей забраць, з іх столькі расстраляць, столькі адлупцаваць і адпусціць, а столькі выслаць. Карнікі выканалі загад з нямецкай педантычнасцю, не надта разбіраючы, хто ў чым вінават.

Пасля арышту ўсіх нас павезлі ў Гарадок. Афіцэр гестапа паклікаў мяне на допыт. Гаварылі мы на нямецкай мове. Афіцэр даволі ветліва спытаўся пра сям'ю, пра работу. Пытаўся і пра партызан, але яго пытанні

былі наўгад, я іх лёгка адвёў. І наогул, гэта хутчэй была гутарка, а не допыт. Я асмялеў і разыграў наіўнага вясковага прастака, які не ведае, чаго ад яго патрабуюць, не надта разбіраецца, што навокал робіцца. На допыце мяне і не білі. Калі прыводзілі і выводзілі з кабінета афіцэра, я толькі бачыў, як мучаць іншых, і адчуваў сябе як бы вінаватым перад імі. Я ўжо думаў — нас адпусцяць! Не тут та было!

З Гарадка нас усіх, шэсцьдзесят чалавек, перавезлі ў беластоцкую турму. Праз два месяцы бацьку выпусцілі з турмы, а мяне з братам і сотнямі іншых арыштантаў заладавалі ў вагоны і павезлі ў лагер смерці Штутгоф, у Заходнюю Прусію. Там мне і Валодзьку выдалі стандартныя бланкі, дзе пад нашымі прозвішчамі ў графе «род злачынства» стаяла — «бандытызм»! І яшчэ: там, дзе звычайна ўказваўся тэрмін асуджэння, у нас стаяла: «бестэрмінова».

## 11

Лагер смерці Штутгоф быў арганізаваны і пабудаваны па ўзору Асвенціма, Майданека, Бухенвальда. Тут загінула 150 000 чалавек. У ім пабывала вельмі шмат людзей з Заходняй Беларусі, болей, чым у іншых лагерах. А наогул, у Штутгофе сядзелі людзі розныя: палякі, рускія, чэхі, французы, італьянцы, датчане. Было шмат і немцаў — зладзеі, рэцыдывісты. Аднак большасць з іх былі палітычныя. Некаторыя члены нямецкай кампартыі сядзелі там у зняволенні яшчэ з памятнага для іх 1933 года! А мой сусед па нарах — дваццацігадовы здаравяк — сядзеў толькі за тое, што, прыехаўшы з Усходняга фронту на пабыўку, меў любоўныя зносіны са служанкай-полькай. Рослы, малады тып, якому б якраз валачыць на фронце кулямёт, цяпер за спробу зганьбіць «арыйскую расу» таміўся ў лагеры.

Усе ў Штутгофе мелі аднолькавыя ўмовы. Толькі некалькі соцень літоўцаў выдзяляліся. Яны лепш харчаваліся, лепш апраналіся, на работу амаль не хадзілі. Гэта былі літоўскія акадэмікі, міністры ўрада Смятоны, пісьменнікі, з імі гітлераўцы заігрывалі. Такія арыштанты на кожным кроку падкрэслівалі, што ў лагеры яны людзі выпадковыя, хутка іх Гітлер пакліча к агульнаму сталу.

Немцы адно звонку ахоўвалі лагер. Улада ў ім была арганізавана па прынцыпу самакіравання. Закаранелыя бандыты, цынічныя садысты — пераважна нямецкай нацыянальнасці — стаялі на чале каманд і называліся «капо». Гэткія ж кіравалі жылымі блокамі, сачылі за парадкам. Адзінай моваі у іх быў кій. Капо спаборнічалі, хто з аднаго маху саб'е з ног арыштанта. Часамі ад няма чаго рабіць яны забівалі дубінай чалавека, і агонія ахвяры выклікала ў іх цынічны рогат.

Лагер быў разлічаны на пэўную колькасць людзей. Кожны дзень сюды прыбывалі сотні новых. Каб захаваць у лагеры аднолькавую лічбу едакоў, эсэсаўцы забівалі за дзень столькі людзей, колькі іх прыбывала. Вечарам жыхары блокаў выстройваліся ў калоны, паміж радоў праходзілі эсэсаўцы, і арыштаваным, якія не маглі стаяць на нагах, тыкалі пальцам у грудзі. Тыя рабілі два крокі ўперад, ведаючы, што іх зараз павядуць у газакамеру, а потым штабялі іхніх жоўтых трупаў ваганеткамі павязуць у краматорый.

Усе арыштанты працавалі. Хто будаваў новыя баракі, хто карчаваў пні, расчышчаў пляцоўку, хто — на кухні. У спецкамандах рабілі ложы для вінтовак, выраблялі для нечага чалавечую скуру, сартыравалі вопратку і абутак памершых.

Першыя тыдні мы з Валодзькам працавалі ўсюды. Пачалі худнець. Нам памагалі нямецкія камуністы — старажылы лагера. Аднаго з іх я потым спаткаў у партызанах. Яго звалі Рыхард Шэмуксніс, Гітлер яго пасадзіў яшчэ ў 1933 годзе за тое, што Рыхард кіраваў камсамольскай арганізацыяй у сваім горадзе Інстэнбургу.

Па нейкім часе і дапамога камуністаў ужо перастала дзейнічаць: мы ледзьве трымаліся на нагах. Раптам прыйшло збавенне. У нас з'явіліся



харчы! У Штутгофе панаваў такі парадак: калі хто з родных уведаў нумар арыштаванага і прыслаў на яго харчовую пачку, то яе аддавалі. Аднаго разу невялічкую нашу групу вывезлі з лагера працаваць на завод — насіць бярвенні. Там былі рабочыя ўсёй Еўропы. Я пераміргнуўся з адным рускім. Пад цэглай хлопец пакінуў мне кавалачак паперы і аловак, я напісаў бацьку некалькі слоў, а рускаму — страшаўскі адрас. Паклаў назад паперку пад цэглу. Невядомы мне таварыш зрабіў усё астатняе. Нямецкая пошта працавала спраўна. І ў той дзень, калі Валодзька ўжо млеў на нагах і я ад недаядання ледзь трымаўся, а сябры нас увечары хавалі ад вачэй эсэсаўцаў, мы раптам атрымалі па пасылцы і адразу ажылі.

Атрымаўшы ад нас пісьмо, бацькі гаспадарку ператварылі ў майстэрню загатоўкі харчовых пачак: для таго, каб дайшла адна, трэба было паслаць некалькі! Такім чынам бацькі нам на нейкі час застрахавалі жыццё. У маладым узросце, у цёплую пару года, пры нармальным харчаванні можна было перанесці і цяжкую работу і здзек, ды яшчэ і дапамагчы сябрам.

## 12

З першага дня арышту мяне займала толькі адна думка — як уцячы. Была магчымасць выскачыць з вагона, калі нас везлі з Беластока ў лагер. Часамі поезд ішоў ноччу памалу, яго ахоўвалі ў асноўным такія самыя беларусы з Гарадка, пераапранутыя ў нямецкія мундзіры. Некаторых канваіраў я добра ведаў, з імі вучыўся ў «паўшэхнай» школе, і я сумняваўся, што такі пацэліў бы ў мяне на ходу поезда ў цемры. Ды гестапаўцы вярнуліся б у Гарадок, адыграліся б на бацьках. Я чакаў больш удалага выпадку.

Штутгофскі лагер быў абнесены калючым дротам, у дрот уключаны ток. На вышках дзень і ноч вартавалі вахманы з кулямётамі. Арыштанты насілі нагавіцы-клёш і фрэнч з тоненькай тканіны ў чорна-белую палоску. На грудзях і на правай штаніне над каленам нашываўся нумар арыштанта: першая літара яго нацыянальнасці і вінкель, колер якога залежаў ад роду твайго «злачынства». Напрыклад, палітычныя мелі колер чырвоны, бандыты — зялёны, баптысты — фіялетавы... Галовы ўсім стрыглі пад машынку, а ад лоба да макаўкі брытвай выбрывалі палоску на два пальцы шырынёй. У такім выглядзе ўцячы было не проста. І каманды, якія выходзілі часамі за лагер на работы, мелі дастаткова канваіраў з сабакамі.

Усё ж пры мне са Штутгофа некалькі людзей спрабавалі ўцячы. Адзін рускі ў час работы ў лесе папрасіў сяброў прысыпаць яго пяском і прыкласці галінкамі. Паляк, які падстрыгаў газоны ў садку камендантавага лагера, залез у басейн з вадой, высунуў нос пад ліст вадзяной ліліі і прытаіўся. Абодва меліся дачакацца вечара, калі знімуць пасты. Вахманаў не здымалі цэлую ноч, пакуль не знайшлі ўцекачоў. Абодвух павыцягвалі са сховішч сабакі і разарвалі на кавалкі. Пакуль ішлі пошукі, тысячныя калоны арыштантаў стаялі перад сваімі баракамі па камандзе смірна. Раніцой калоны па чарзе праходзілі ля акрываўленага чалавечага месіва, якое кінулі на коўдру пасярод лагера.

Нагледзеўшыся на ўсё гэта, мы з Валодзькам рыхтаваліся да ўцёкаў вельмі старанна. Назбіралі табакі, каб засыпаць след, сабралі харчоў. Дасталі нажы, нават — запалкі. У нас былі сябры — механікі савецкага танкера «Данбас», які немцы затапілі ў Баранцавым моры. Яны вельмі добра ведалі павадкі сабак, умелі арыентавацца без компаса і вучылі ўсяму гэтаму нас.

Першая спроба ўцёкаў скончылася няўдала. Хадзілі мы тады на цагельню, якая абслугоўвалася арыштантамі. Печы цагельні падыходзілі да шырокага канала, на беразе стаялі вахманы. Умудрыся, перайдзі незаўважаным паласу вады, і — ты на волі! Мы з Валодзькам падрыхтавалі доўгія трубкі, каб, узяўшы іх у рот, перайсці па дну канал і там нырнуць

у кусты. На жаль, дно занесла такім густым ілам, што мы адразу ўгразлі і ледзьве сябе не выдалі. Прыкінуліся, што нам прыйшла фантазія пакупацца ў вопратцы і абутку, атрымалі па дваццаць пяць бізуноў.

## 13

Настала восень. Аднойчы ў нядзелю ў лагер увайшлі шэсць вахманаў з фельдфебелем і пачалі адбіраць дабравольцаў на станцыю, каб нешта там ладаваць. Папрасіліся ў каманду і мы з братам. Фельдфебель глянуў нам на грудзі, прачытаў літару «R» (у Штутгофе беларусы, рускія і ўкраінцы насілі адну літару) і заявіў, што рускіх не бярэ, бо яны ўцякаюць. За нас заступіліся, і стары фельдфебель здаўся.

Ад'ехаліся мы ад лагера 18 кіламетраў на станцыю Тыгенгоф. Ужо цямнела, калі нам загадалі грузіць дошкі ў вагоны. Над намі свяціла 500-ватная лямпа. Свежы снег пакрыў зямлю роўнай коўдрай. Свяціў месяц. Шансаў на ўцёкі было мала, і мы з братам вырашылі: рызыкаваць толькі аднаму.

Калі вахман загадаў нам злазіць з вагона і паслаў на змену іншых, я палез не на зямлю, а — паміж вагонаў, стаў на буфер. Там быў цень. Убачыўшы, што ніхто за мной не сочыць, я нырнуў пад вагон, прапоўз пад ім, выскачыў у цёмнае месца і пабег.

Цэлую ноч я ішоў па палях і балотах, арыентаваўся па месяцы і па ветры. На світанні залез да баўэра ў гумно і да вечара праспаў. Тады падаўся далей. Пачуўшы на дарогах рускую ці польскую мову, я загаворваў з людзьмі, — гэта былі рабочыя, якіх прымусам вывезлі ў Германію. Мне ахвотна паказвалі дарогу, кармілі. У адным бараку, дзе жылі рускія дзяўчаты, пасадзілі мяне за стол. Толькі я ўзяўся за лыжку, як зайшоў немец. Дзяўчаты мяне запхнулі ў шафу з адзеннем.

У Мэльбургу на стрэлках я пачапіўся на таварняк і даехаў да Дойчэ Эйлаў. Перадняваў у стозе саломы ля нейкай будкі. Вечарам загаварыў з прахожымі. Адзін паляк з Млавы, па прозвішчу Кавальскі, у свайго шэфа-немца ўкраў новенькі мундзір з залатымі кантамі на пагонах, нагавіцы, чаравікі і шапку машыніста з вялізным рондам і свастыкай. Было холадна, таму ўсё гэта я напяліў на арыштанцкую паласатую вопратку. Кавальскі яшчэ даў мне марак, завёў на вакзал. Немкі мяне пачалі пытацца пра паязды, мяне гэта падбадзёрыла, і я адразу ўвайшоў у сваю ролю. Развітаўся з польскімі сябрамі, купіў білет да Беластока і паехаў. Ніхто мяне ні разу не пытаўся, куды я еду і хто я такі. Па дарозе нават, памятаю, паспеў закахацца ў кандуктарку — сімпатычную, каравокую немачку.

Як пан, прыехаў я пасажырскім у Страшава і тут ледзь не папаўся. Я не ведаў, што ў нас цяпер жыло дваццаць нямецкіх салдат, якія ахоўвалі чыгунку. З паўстанка зайшоў я на кухню, поўную немцаў. На маё шчасце, бацькі спалі. Я з салдатамі па-нямецку прывітаўся і спытаў, дзе жыве брыгадзір Антончык, наш сусед. Адзін салдат ахвотна мяне вывеў на двор, паказаў. Я развітаўся і пайшоў прэч са свайго падворка. Бацькоў пабачыў толькі на другі дзень.

Невялічкая групка партызан восенню 1943 года вярталася з-пад Беластока да сябе ў лагер пад Брэст, у Гута-Міхалінскі лес. Праз нашага лесніка бацька яе знайшоў і перадаў мяне партызанам. Пачалася лясная эпапея.

## 14

Трапіў я ў атрад імя Аляксандра Матросава, які арганізаваўся на базе групы Міцькі Высоцкага. Але цяпер там былі ўжо незнаёмыя камандзіры і партызаны: я для іх быў чалавекам невядомым, якому падазрона лёгка ўдалося ўцячы з нямецкага лагера смерці. Нейкі час не ведалі, што са мной рабіць, тады перадалі ў дэсантную групу капітана Арлова. Там я ўдзельнічаў у дыверсійных аперацыях, надта дробязных, пра іх нават сорамна цяпер і ўспамінаць. Напрыклад, Арлову захацелася ўзарваць у адной вёсцы драўляны мост на Зельвянцы. Мы яго ўзарвалі, добра ведаючы, што па ім толькі сяляне возяць мяшкі жыта да млына, і за такую «дыверсію» высмеюць нас.

У пачатку 1944 года ў Гута-Міхаліну прыбыў з брыгадай імя Каліноўскага падпалкоўнік Вайцяхоўскі — вельмі адважны, ініцыятыўны камандзір, тонкі псіхолаг і абаяльны чалавек. Ён і ўзяў мяне да сябе: ад Арлова я ўцёк.

У красавіку прыбылі мы ў страшаўскія лясы. Вайцяхоўскі назначыў мяне камандзірам атрада імя Каліноўскага. Мне і рабочаму з чыгункі Косцю Карповічу камбрыг загадаў арганізаваць атрад з мясцовай моладзі. Атрад мы арганізавалі і да прыходу Чырвонай Арміі, за чатыры месяцы, правялі вакол Гарадка некалькі даволі ўдалых баявых аперацый і дыверсій. Нашаму поспеху садзейнічала глеба, якую там падрыхтавалі старыя падпольшчыкі, — усе навакольныя сяляне былі нашымі памочнікамі.

Немцы даведаліся, што я ў партызанах, і намерыліся арыштаваць бацькоў. Сувязны з Гарадка прымчаў да старых раней за паліцаяў. Бацька і маці ўцяклі ў лес. Стары стаў атрадным разведчыкам, а маці варыла нам ежу. Гаспадарку паліцаі расцягнулі.

## 15

Летам 1944 года мы злучыліся з Савецкай Арміяй у Каралёўскім лесе пад Беластокам. У атрадзе ўжо было 64 чалавекі. Абком партыі тады ўсіх партызан накіроўваў на арганізацыю савецкай улады. Бацьку паслалі ў Ваўкавыск адбудоўваць лесапілку, а мяне назначылі інспектарам абласнога сабеса. Гэтая работа была мне вельмі не па душы, я пачаў шукаць іншай. Набіралі групу дэсантнікаў у Польшчу і Прусію. Папрасіўся туды і я, але мне адмовілі. Выявілася, што ў мяне «заплямленая» біяграфія: я быў у Штутгофе, мой бацька меў шмат гектараў... Папрацаваўшы некалькі тыдняў інспектарам, я зайшоў у ваенкамат, папрасіўся на фронт, і мне адразу выпісалі позву.

Як і мой бацька ў першай сусветнай вайне, цяпер я стаў наводчыкам 76-міліметровай гарматы славутага 756 стралковага палка, якому потым выпала штурмаваць рэйхстаг. З баямі прайшоў я ад Варшавы да Берліна. Палкавая артылерыя тады на перадавой страляла на прамой наводцы, таму такім артылерыстам даставалася болей за пехацінцаў, бо як ты ні маскіруйся, а гэтакую мішэнь відаць усё роўна. За два месяцы немцы разбілі ў мяне дзве гарматы: адну на Одэры, другую — за мястэчкам Флатау ў Заходняй Прусіі. За Флатавам мяне раніла. Гэта здарылася 16 лютага 1945 года. Раніла мяне другі раз у Берліне, на вуліцы Мольтке. Першы раз куля толькі чыркнула па плячы. Цяпер жа я атрымаў у лёгкія тры асколкі — мяне чакала доўгае лячэнне і барацьба за жыццё.

## 16

У канцы жніўня 1945 года мяне выпісалі з вайсковага шпіталя, далі II групу інваліднасці. Я паступіў у Гродзенскі педінстытут на англійскае аддзяленне. Хутка знайшоўся і Валодзька. Пасля таго, як я ўцёк са Штутгофа, яго фашысты моцна катавалі, выбілі зубы, суткамі трымалі ў бункеры без ежы, аднак ён усё перанёс. Пры эвакуацыі лагера Валодзька ўцёк з-пад канвоя, трапіў у нашу армію, ваяваў, яшчэ нават паспеў быць раненым. Цяпер дэмабілізаваўся і паступіў у Мінскі політэхнічны інстытут. Такім чынам мае сямейныя справы ўладзіліся, і ўсё было б вельмі добра, калі б не праклятыя асколкі...

Мабыць больш за вучобу я палюбіў грамадскую работу. Спачатку я быў камсоргам, потым старшынёй прафкома. Тут мне ніхто ні разу не напомніў аб мінулым. У 1947 годзе мяне прынялі ў члены КПСС. Дзесьці ў той час я і падружыўся са студэнткай літфака Інай Цыгельніцкай. Бацька і маці яе былі віднымі кіраўнікамі кампартыі ў часы буржуазнай Польшчы. Бацьку яе, сакратара ЦК польскай кампартыі Анатолія Адамавіча Альшэўскага, у 1937 годзе берыеўцы арыштавалі, і ён з лагера не вярнуўся. Маці, Фаіна Абрамаўна Цыгельніцкая, прасядзела сем год у польскіх турмах, цяпер працавала ў райкоме. Іна ўсё жыццё правяла ў дзіцячых дамах. Шмат чаго перажыла і пабачыла. Па натуры яна была мне вельмі блізкая.

Тады ў педінстытуце вучыліся амаль толькі дзяўчаты. Нават мужчын-інвалідаў было мала, і яны «стаялі ў цане». Яшчэ не паспеў я скончыць інстытут, а ўжо абком і міністэрства асветы падабралі мне пасаду загадчыка Сапоцкінскім раённым аддзелам народнай асветы, нават не пытаючы, ці пад сілу яна мне. Зрэшты, каб і спыталіся, то я, відаць, не адмовіўся б. Маё пакаленне трымалася лозунга: «Не по силам цель выбирай, а по цели силы напрягай!»

У ліпені 1949 года я атрымаў дыплом настаўніка англійскай мовы 8—10 класаў, ажаніўся на Іне і, перапоўнены энергіяй, аптымізмам і пыхлівасцю, сабраўся на работу, па наіўнасці думаючы, што ўсе цяжкасці перажыты. Мінская студыя кінахронікі нават зняла на плёнку, як я, з ардэнамі і медалямі на грудзях, у актавай зале інстытута атрымліваю дыплом, саджуся ў вагон і з гродзенскага вакзала адпраўляюся пасажырскім поездам у Сапоцкіна. Калі потым у горадзе паказвалі гэты часопіс, то ўсе з мяне надта смяяліся: з Гродна да Сапоцкіна чыгунка не пракладзена, яе прыдумала фантазія сцэнарыста М. П. Фраймана.

## 17

У Сапоцкінскім раёне тады было вельмі цяжкое становішча. Па вёсках і лясах яшчэ гайсалі банды, забівалі актывістаў, гвалцілі і тэрарызавалі людзей. У гэты раён працаваць ехалі неахвотна. Праштрафіцца хто-небудзь, скажам, у Віцебскай вобласці, здымуць яго з работы і ў пакаранне пашлюць у Сапоцкіна. Першым сакратаром райкома працаваў тады т. Яцкевіч — сумленны камуніст, але вельмі абмежаваны чалавек. Да людзей ён адносіўся падазрона і бачыў у іх толькі кепскае, ведаў адну методу кіравання — павышэнне голасу. Мяне ён адразу западозрыў у палітычнай нядобранадзейнасці на той падставе, што мой бацька меў шмат гектараў зямлі, а я быў у нямецкім лагеры, — тады гэта лічылася страшэнным грахом. Памятаю, на адным бюро райкома ён выставіў супраць мяне нават і такі аргумент, што я... не выпіваю, як іншыя! Аднак я быў камуністам, накіравала мяне на работу міністэрства асветы і абком, і лёгка выжыць мяне з раёна было нельга.

І вось пацяклі мае першыя працоўныя тыдні. Многія тады тапілі свае цяжкасці ў гарэлцы, а я знайшоў задавальненне ў рабоце. Іна заканчвала інстытут, нарадзіла дачку Лену. З Сапоцкіна да Гродна — 24 кіламетры, ніякія рэйсавыя аўтобусы тады не хадзілі. Вечарам я браў кій і праз чатыры гадзіны быў у Гродна. Раніцай заяўляўся ў якой-небудзь школе ці сельсавеце. У школах тады не было парт, замест шыбаў часамі ўстаўлялі фанеру. Не хапала і настаўнікаў. Так што працы загадчык райана меў непачаты край. Агортвала крыўда, калі сваё начальства, замест таго, каб памагчы, перашкаджала ў рабоце прычэпкамі.

Аднаго разу зайшоў я ў вёску Шэмбеляўцы, дзе школа размяшчалася ў гнілой прыватнай хаціне. Сяляне там якраз сабралі грошы, каб купіць ксяндзу дом. Мне неяк даволі лёгка ўдалося ўгаварыць людзей купіць на гэтыя грошы зруб для школы, які прадавала ўдава. Пры мне сяляне заплацілі ўдаве грошы, я, шчаслівы, вярнуўся ў Сапоцкіна і пахваліўся сакратару райкома Яцкевічу. На маё здзіўленне, ён забараніў мне



браць гэты зруб на баланс. Тады я звярнуўся ў ЦК КП Беларусі. ЦК мяне падтрымаў, сакратару райкома давялося адмяніць свой загад.

Было лета 1950 года. У нас рыхтаваўся пленум райкома партыі з парадкам дня: «Прычыны адставання калектывізацыі ў Сапоцкінскім раёне». Работнікі савецкага і партыйнага апарата раёна былі прыезджыя, а я добра ведаў мясцовых людзей і ўмовы і таму вырашыў выступіць на пленуме. Паколькі гэтае выступленне паслужыла пэўнай вехай у маім жыцці і ў ім ёсць цікавыя факты, якія характарызуюць цяжкасці таго перыяду і могуць у пэўнай меры паказаць, наколькі вырасла ў нас за апошнія гады ўнутрыпартыйная дэмакратыя, я дазволю сабе прывесці з яго некаторыя вытрымкі.

«Вось тут, з гэтае трыбуны некаторыя даводзілі, што сапоцкінскія сяляне таму не ідуць у калгас, што добра жывуць. Абсурд! Наўрад ці знойдзецца яшчэ такі куток у вобласці, а то і ва ўсім Саюзе, дзе б так бедна жылі сяляне. У нас жа ні ў адной вёсцы няма лазні. Не памятаю, каб хоць у адной хаце, дзе я быў, на ложку ляжаў сяннік, замест яго ўсюды салома, гарахавінне, на іх так і спяць, накрыўшыся лахманамі. У хатах жывуць усе разам: куры, парасяты, людзі... У Сапоцкіне маецца адзін рынак, на яго раз у тыдзень з'язджаецца 40—50 фурманак. Паглядзіце, якая мізэрная колькасць тавараў там бывае! Калі б райспажыўсаюз падлічыў, колькі ў яго прадаецца цукерак, цукру, мыла, газы на душу насельніцтва ў раёне, то атрымалася б, відаць, лічба, найменшая ва ўсім Саюзе! Такім чынам, матэрыяльны ўзровень нашых сялян такі нізкі, што ніжэй і быць не можа, і з такога становішча іх можа вывесці толькі калгас. Сяляне гэтага яшчэ не разумеюць, а мы ім недастаткова вытлумачылі. Вось чаму яны не ідуць у калгас!

...Учора прынеслі ў райана выпіску з рашэння нашага суда, дзе мне было загадана ўзяць на патранат дзяцей удавы Кавалеўскай, якую асудзілі на 10 год за самагонку. Цёмная, непісьменная жанчына, нідзе не працавала, гадавала шасцярых дзяцей. Каб пракарміць малых, яна гнала самагонку. Мы не памаглі ёй стаць на працу, а ўзялі і асудзілі, а шасцярых малых зрабілі сіротамі і павесілі дзяржаве на шыю, — я іх аддаў у дзіцячы дом. А тыя, хто п'е гэтую самагонку, засталіся непакараныя, — нават суддзя Растоўцаў. Растоўцаў жыве побач з Кавалеўскай, купляў у яе самагонку і не садзіўся за стол абедаць, не выпіўшы з паўшклянкі. Гэта я добра ведаю, бо мы жывём на адной кватэры. Дзе ж логіка, таварышы камуністы?!»

Калі я скончыў, у зале наладзілі мне авацыю. Але тут здарылася нечаканае. Слова ўзяў Яцкевіч і заявіў, што я, распісваючы, як цяжка і бедна жывуць сяляне, зрабіў гэта дакладна так, як некалі рабілі ворагі народа, што мая прамова — прамова тыповага бухарынца. Цяпер, з пункту гледжання дэмакратычнага 1964 года, усё гэта здаецца такой дзікасцю!

Пасля таго, як Яцкевіч абвінаваціў мяне ў бухарынстве, уся зала раптам замёрла. Яцкевічу запярэчыла толькі некалькі напалоханых галасоў, і то — з задніх месц. Гэта было страшна!

Пад выглядам ачысткі кадраў ад непажаданага элементу ў памежным раёне Яцкевіч дабіўся майго звальнення з работы. Апынуўся я ў Ваўкавыскім раёне — дырэктарам Біскупіцкай сямігадовай школы.

## 18

Яшчэ ў Сапоцкіне, пасля ўсяго, што здарылася, я, можа першы раз у жыцці, сур'ёзна задумаўся: а што ж мне рабіць? Перспектыва настаўніка англійскай мовы мяне не вабіла. Раптам зарадзілася дзёрзкая думка — давай напішу кніжку пра ўсё, што бачыў і перажыў...

І я ўзяўся за работу.

— Гэ, паглядзі, а ён яшчэ і вершыкі папісвае! — здзекліва пасмейваліся нядобразычліўцы.

Гэта мяне толькі падахвочвала. Я даверыў свой сакрэт даваеннаму сябру яшчэ з Навагрудскага педвучылішча — Валодзю Калесніку, і ён вызваўся мне памагчы: пазнаёміў з Янкам Брылем. Першая сустрэча з Іванам Антонавічам так уразіла мяне, што я раптам адчуў сябе нічым у параўнанні з сапраўдным пісьменнікам. Мне здалося, што я задумаў немагчымае, і стала нават сорамна за свае нясціплыя жаданні. Але мінуў тыдзень-другі, і мяне зноў пацягнула да пісання. Тады я зрабіў для сябе важнае адкрыццё: гордасць, нездаволенасць сабой, упартасць, нават у нейкай ступені злосць і зайздрасць — дабрадзейства для чалавека: яны з цябе могуць здабыць такое, чаго ты і сам ад сябе не спадзяешся.

У той час трапілася мне аповесць Дабравольскага пра студэнтаў «Трое ў шэрых шынялях». У ёй усё было напісана не так, як бы мне хацелася. Раптам я пераадолеў у сабе пачуццё ніжэйшасці, і мне здалося, што ў цэлым свеце ні Дабравольскі, ні Брыль, ні хто іншы, а толькі я адзін ведаю сапраўдных студэнтаў, і ведаю, як пра іх пісаць! Я ўжо бачыў нават кніжку напісанай. З гэтага моманту я ўжо не проста пераводзіў паперу. Я ўзяўся працаваць над пэўнай тэмай.

У Біскупцах мяне абралі сакратаром калгаснай партарганізацыі. Аднак і грамадская работа, і школьная, і будаўніцтва цяпер былі нішто ў параўнанні з клопатамі загадчыка райана — я меў час пісаць. Меў я і кваліфікаванага майстра літаратурнай справы, які мне памагаў. Між іншым, у жыцці мне шанцавала на добрых людзей. Янка Брыль, як некалі Вайцяхоўскі, даваў штуршок майму ўяўленню, стаў эталонам, на які трэба раўняцца, у каго вучыцца, і быў тым, хто ў мяне паверыў, шчыра і бескарыслівa памог. Успамінаючы цяпер непісьменныя рукапісы, якімі я завальваў Івана Антонавіча і ў якіх ён умудраўся нават знаходзіць яшчэ штосьці каштоўнае, я не перастаю захапляцца душэўнай шчодрасцю гэтага чалавека, яго педагагічным талентам.

## 19

Такім чынам з дапамогай новых сяброў я стаў працаваць над аповесцю. Адначасова займаўся калгаснымі справамі, наводзіў парадак у школе, будаваў новую. На жаль, ярлык «бухарынца» прыехаў са мной і ў Біскупцы Я з жахам заўважыў: што б карыснае я ні зрабіў, некаторыя людзі нечакана паварочвалі справу так, што яна паўставала супраць мяне самога.

Ладны кавалак зямлі прышкольнага ўчастка ўсе дырэктары да мяне выкарыстоўвалі пад сваю бульбу і агарод. Я вырашыў пакончыць з гэтай традыцыяй. Разам з вучнямі мы апрацавалі зямлю, дзеці прынеслі па жменьцы пшаніцы, і мы яе пасеялі, каб восенню мець за што з'ездзіць на экскурсію ў Белавежскую пушчу. Прыбіральшчыцай у нашай школе лічылася жонка сельсавецкага начальніка, якая не хацела працаваць, а толькі камандавала ў настаўніцкай. Я яе звольніў, а на яе месца ўзяў старую жанчыну, у якой адзіны сын загінуў на фронце. Неўзабаве пасля гэтага ў раённай газеце з'явіўся хлёсткі фельетон «Гісторыя з курыцай», дзе расказвалася пра тое, як курыца прыбіральшчыцы зайшла «на ўчастак пшаніцы дырэктара школы Карпюка» і ён за гэта звольніў бедную жанчыну з работы. Ніхто не хацеў цяпер верыць, што пшаніца школьная. Сорамна мне было паказвацца вучням на вочы: выходзіць, я іх ашукаў, зярняты жменькамі яны знасілі для мяне! У школу ў той дзень я прабіраўся, як злодзей, агародамі...

Пасля ўрокаў, поўны злосці і абурэння, я сеў на веласіпед і адправіўся ў Ваўкавыск шукаць праўды. Зайшоў у рэдакцыю, райком, нават — у суд. Усюды мне заявілі аднолькава:

— Таварыш Сталін нас вучыць: калі ў якім-небудзь крытычным выступленні ёсць хоць пяць працэнтаў праўды, дык такую крытыку трэба вітаць. Не разумееш? А яшчэ дырэктар школы, парторг калгаса!..

Я вытрымаў і гэта.

Памалу ўсё ўляглося. Дзякуючы Янку Брылю, я надрукаваў сваю першую аповесць «У адным інстытуце». Пасля выхаду яе ў свет паехаў у Гродна. Падзеі аповесці адбываюцца ў гэтым горадзе, там жылі мае прататыпы, і мне чамусьці здалося, што ўвесь горад павінен святкаваць маё ўвекавечанне і быць мне надта ўдзячны. Тымчасам ішоў я з вакзала па вуліцы Ажэшка і з расчараваннем бачыў, што і дамы гэтак сама стаяць, як раней, і гэтак сама бягуць па тратуарах заклапочаныя людзі. Ля піўнога ларка стаяў мой сябар — адзін з герояў аповесці.

— Валодзя, здароў! — крыкнуў я з пераможнай радасцю.

— А-а, гэта ты? — чамусьці нахмурыўся сябар і адставіў куфаль з півам. — Дык што ты там на мяне набрахаў у кніжцы?..

І пачаў закасваць рукавы.

## 20

Скончыў я будаваць школу. Іна нарадзіла мне сына, Ваню. Першы мой літаратурны твор пахвалілі... Ад усяго гэтага настрой у мяне быў бадзёры, аптымістычны. Толькі недзе на дне душы ляжаў каменьчык. Мучыла сумленне за непаладкі ў калгасе, якіх мы, сельскія камуністы, не мелі сілы выправіць. І я захацеў даць бой. У чэрвені 1953 года я паслаў на імя першага сакратара ЦК Маленкова пісьмо наступнага зместу:

«Таварыш Маленкоў!

У нас, на Беларусі, ідуць дажджы. Ужо добра выкаласілася жыта. Яравыя выйшлі ў трубку. Буйна ўзышла бульба. Але калі падумаеш, што здабытае цяжкай працай калгаснікаў некаторыя бюракраты зноў могуць загубіць, то не можаш знайсці сабе месца. І самае трагічнае ва ўсім гэтым тое, што ты нічога не можаш зрабіць, каб устрымаць яўныя антыдзяржаўныя ўчынкі некаторых бязглуздых чыноўнікаў. Вось факты.

У мінулым годзе не ўрадзіла бульба. Пасля забуртавання яе на насенне нашаму калгасу не было чаго здаваць у дзяржпастаўкі. Але мы мелі лішняе збожжа. Замест таго, каб прыняць у нас збожжа за бульбу, з райкома і райвыканкома прыйшоў загад: раскрываць бурты! І сяляне вымушаны былі раскопваць іх і вывозіць насенную бульбу на спіртзавод, а вясной не было чым садзіць.

Лета мінулага года. Паспела жыта. Мы на партсходзе размеркавалі рабочую сілу, і калгаснікі дружна ўзяліся за жніво. Але нейкаму начальніку ў раёне спатрэбіліся лічбы. Ён прыслаў да нас упаўнаважанага, які зняў лепшыя сілы з уборкі, і пачаўся экстранны абмалот і здача хлеба на нарыхтоўчыя пункты. Сяляне ледзь не з плачом пыталіся ў мяне:

— Таварыш сакратар партарганізацыі, што гэта робіцца? Хіба мы самі не ведаем, што трэба здаць хлеб дзяржаве? Але ж дайце раней зжаць збожжа, убраць снапы з поля, а малаціць мы можам са сцірт.

Гэта ясна ўсім. Толькі да такой безгаспадарлівасці няма справы начальніку з прахладнага кабінета. Яго не цікавіць, што будзе заўтра, ён жыве сённяшнім днём, праводзіць «кампанію». І ў такі момант ты нікому не давядзеш, што так рабіць нельга. Паспрабуй пра гэта пікнуць у райкоме ці выканкоме, і там здзівяцца:

— Няўжо ты не разумееш, што першы хлеб трэба здаць дзяржаве? А будзеш даводзіць сваё, то абвінавацяць цябе чорт ведае ў чым.

І перасыхала на карані жыта, асыпаліся каласы, а людзі тоўпіліся ля малатарань: дзе трэба было 15 чалавек, ставілі — 60, дзе трэба 4 кані, там — 10, а яшчэ столькі стаяла ў запасе: усіх знялі з уборкі ўсемагутныя «ўпаўнаважаныя». Дзе тут да захавання элементарных законаў агратэхнікі, дзе тут да павагі статута сельгасарцелі! І хоць ты ні аднаго зярняці не паклаў у свіран на насенне, і хоць ужо верасень, а ў цябе палова

жыта стаіць ў полі, але калі ты разлічыўся з дзяржавай, то пра цябе будуць пісаць ва ўсіх газетах, гаварыць па радыё, бо ты герой, — няважна, калі ты ўвесь астатні ўраджай скарміў вераб'ям! Такім чынам, наш калгас у мінулым годзе яравыя жаў у кастрычніку, жаў адну салому, і авёс даў нам па 4 цэнтнеры з гектара.

З-за такога стылю кіраўніцтва наш калгас каторы год не можа ніяк выйсці са стадыі арганізацыі. На палях бывае і добры ўраджай, але ў засекі няма чаго засыпаць, няма чым карміць жывёлу, няма чаго даваць калгаснікам на працадзень. Такія парадкі адбіваюць у людзей ахвоту працаваць.

Дакуль будзем гэта цярпець? Дакуль некаторыя кіраўнікі вонкава прыгожым лозунгам — першы хлеб дзяржаве! — будуць прыкрываць антыдзяржаўныя ўчынкі? Я не называю тут прозвішчаў, бо справа не ў асобных людзях. Такая з'ява — тыповая для ўсёй Беларусі. Трэба зараз жа яе ліквідаваць і каб у гэтае жніво ўпаўнаважаныя не займаліся злачынствам. Неабходна ўстанавіць цвёрды парадак уборкі і разліку. І трэба асудзіць антыдзяржаўную практыку «выбівання» хлеба з калгаснікаў, гэтым мы падбадзёрым сялян, усялім у іх веру, дамо ім ахвоты да працы!

Вёска Біскупцы Ваўкавыскага раёна, 15 чэрвеня 1953 г.

Сакратар калгаснай партарганізацыі А. Н. Карпюк».

Каб цяпер, у 1964 годзе, дзе-небудзь у калгасе тварылася такое беззаконне і каб я напісаў такое пісьмо, дык яго надрукавала б кожная газета, а такі начальнік, мабыць, развітаўся б са сваім партбілетам, бо кампанейшчыну і гэткіх «упаўнаважаных» партыя асудзіла. Гэта цяпер. А тады...

Мінуў месяц, як я паслаў у Маскву пісьмо, але адказу не было.

Я зноў меў непрыемнасці. Некаторыя таварышы ўспомнілі маё «бухарынскае» выступленне ў Сапоцкіне. Знайшліся такія, што пачалі капацца ў маёй біяграфіі. Аднойчы мяне выклікалі ў ваенкамат і адабралі кніжку афіцэра запасу. Начальнік IV часці падпалкоўнік Фількоў на вачах у мяне парваў яе і заўважыў:

— Ты яе не варты!

Аднак гэта былі толькі рэцыдывы мінулага. Усюды адчувалася веянне новага — наступала эпоха справядлівасці і дэмакратызацыі. Паступова знікаў перыяд вышуквання гачыкаў у біяграфіях і прычэпак да слоў. Пачыналі рэабілітаваць незаслужана пакрыўджаных. Мне прапанавалі работу ў інстытуце. Майму бацьку быў адноўлены падпольны стаж у партыі з 1928 года. Людзі выпрасталі плечы. Распраставў іх і я. Пераносіць незаслужаныя прычэпкі цяпер было лягчэй.

## 21

У верасні 1953 года я паступіў працаваць на кафедру педагогікі Гродзенскага пединстытута. Перавёз у Гродна і сям'ю. Надрукаваў у Мінску яшчэ некалькі твораў.

У той час я надта многа пісаў, хоць толку было мала. Галоўным чынам перапісваў. Наогул пісанне давалася і даецца мне вельмі цяжка.

Восенню 1954 года раптам памерла мая маці. Самае трагічнае ў яе смерці тое, што каб трэба было зноў мне ці брату памагаць, каб мы з Валодзькам, напрыклад, трапілі ў турму ці ў бальніцу, яна знайшла б у сабе сілы да жыцця, зноў насіла б нам перадачы, клапацілася б, хвалявалася. Але Валодзька скончыў інстытут, паехаў у Чалябінск працаваць, там ажаніўся. Кожны з сыноў цяпер быў заняты сваімі справамі, мала ўдзяляў ёй увагі. І ў маці раптам паявілася хвароба, якую ў іншым выпадку можна было б вылечыць, але цяпер яе арганізм як бы знайшоў магчымасць самаліквідавання з-за непатрэбнасці... Як крыўдна мацяркам нашым, што дзеці іх па-сапраўднаму ўмеюць шанаваць і цаніць, калі іх, бедных, ужо няма ў жывых!



## 22

Восенню 1954 года з пединстытута мяне перавялі на работу ў партаддзел рэдакцыі «Гродзенскай праўды». У канцы 1957 года назначылі карэспандэнтам «Літаратуры і мастацтва» па Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. З гэтай пасады праз два гады я паехаў у Маскву на Вышэйшыя літаратурныя курсы. У 1961 годзе іх скончыў, вярнуўся дамоў, мяне назначылі загадчыкам агенцтва «Інтурыст» у Гродне, дзе і працую па сённяшні дзень.

Я ўжо сказаў, што пісаць мне вельмі цяжка, я надта многа перапісваю свае рэчы. Апошняе выданне «Дануты» перапісана 30 разоў і цяпер мне зноў хочацца засесці за гэтую аповесць. «Пушчанскую адысею» перарабляў 18 разоў, але яе лічу найбольш незакончанай і буду правіць яшчэ не раз. Доўгі час думаў, што я вымушаны так пацець над сваімі рэчамі ад бяздарнасці, і саромеўся аб гэтым нават каму-небудзь заікнуцца. Але, наведаўшы архіў Л. Талстога, я з радасным здзіўленнем убачыў там адну рэч, перапісаную графам Львом Мікалаевічам 105 разоў! Калі гэтак рабілі геніяльныя людзі, дык што ж застаецца нам, грэшным...

Да сённяшняга дня на роднай мове выйшлі такія мае кніжкі: «Дзве сасны», «Мая Гродзеншчына», «Данута» і «Пушчанская адысея». Некаторыя рэчы перакладаліся на іншыя мовы, выходзілі за мяжой.

Без фальшывай сціпласці заяўляю: пісьменнікам сябе не лічу. На маю думку, ім становяцца пасля смерці. На працягу свайго жыцця я перапрабаваў шмат прафесій, і з усіх найбольшае здавальненне дае мне пісанне. Яно мяне захапіла цалкам.

Для чаго чалавек жыве? Мабыць, для барацьбы за Праўду. У мой век Праўда знаходзіцца ў вялікіх ідэях камунізма, я за іх змагаўся, як толькі мог. Канечне, часамі рабіў гэта няўмела, а часамі груба, але гэта ішло ад неразумення і ўзросту. У сваё апраўданне я прывяду словы Л. Талстога: «...Чтобы жить честно, надо рваться, путаться, биться, ошибаться, начинать и бросать и вечно бороться... А спокойствие — душевная подлость...»

Ад таго, што жывеш на свеце, трэба каб і другім людзям лягчэй было жыць. Сустракаючыся з чытачамі, атрымліваючы ад іх пісьмы, я адчуваю, што нешта даю людзям, і вельмі шкадую, што пачаў пісаць позна, ужо ў сталым узросце, і ўпусціў тыя гады, калі, звычайна, нараджаюцца літаратары. Пісанне стала маім лёсам, я знайшоў спосаб, як найбольш быць карысным людзям. Я спазнаў шчасце, я ведаю, як мне жыць!

## 23

Маё Страшава цяпер за граніцай. Туды я езджу ў госці. Бацька мой — пенсіянер, жыве ў Ваўкавыску. Брат пераехаў у Гродна і кіруе будаўніцтвам высакавольтных ліній у вобласці. На вуліцах Гродна я з кожным трэцім-чацвёртым прахожым вітаюся не проста як са знаёмым. Гэта былыя сябры-падпольшчыкі часоў буржуазнай Польшчы, партызаны, франтавікі, настаўнікі, савецкія і партыйныя работнікі, з якімі мы разам працавалі і змагаліся за перамогу нашых ідэй, за чыстату нашай справы. Жыць сярод іх і адчуваць іх дружбу для мяне гэтак жа неабходна, як дыхаць паветрам.

**г. Гродна.**




# ФРУНЗЕ Ў МІНСКУ

У жыцці выдатнага дзеяча камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы, праслаўленага палкаводца і арганізатара Чырвонай Арміі Міхаіла Васільевіча Фрунзе ёсць незабыўныя старонкі, звязаныя з Беларуссю.

3-га красавіка 1916 года Фрунзе з дакументамі на імя Міхайлава Міхаіла Аляксандравіча быў накіраваны петраградскім партыйным камітэтам на Заходні фронт, які тады рассякаў Беларусь папалам ад Пінска да Дзвінска і на якім было сканцэнтравана больш за паўтара мільёна салдат.

Ужо два гады лілася кроў рабочых і сялян, апранутых у салдацкія шынялі. Гаспадарчае жыццё імперыі Раманавых кацілася ў бездань. Народ патрабаваў хлеба і чакаў міру.

Нейкі час Фрунзе лічыўся вольнанаёмным 57-й артылерыйскай брыгады, якая размяшчалася ў Івянцы, а затым перайшоў на пасаду статыстыка Усерасійскага земскага саюза, які знаходзіўся ў Мінску. Як вопытны канспіратар, ён разумеў, што тут значна зручней весці падпольную работу. У вялікім горадзе, перапоўненым ваеннымі людзьмі ўсіх рангаў, сціплая асоба статыстыка з земсаюза не прыцягвала ўвагу паліцыі. Прытым пасада давала магчымасць часта бываць на перадавой лініі фронту, а гэта значыць—весці работу па стварэнню рэвалюцыйных арганізацый непасрэдна ў армейскіх часцях, агітацыю—проста ў акопах.

— Вайна імперыялістаў паміж сабой,—не раз падкрэсліваў Міхаіл Васільевіч у час размоў з салдатамі-акопнікамі,—не перашкаджае ім абараняць свае ўзаемныя інтарэсы. Затое салдацкая кроў ні ў грош не ставіцца. Ці не пара пакласці канец гэтым здзекам з народа.

Да прыезду Фрунзе ў Беларусі не было адзінага падпольнага бальшавіцкага цэнтра, а ўсю работу правадзілі ў адзіночку падпольшчыкі-бальшавікі. Па яго ініцыятыве пасля правядзення нелегальных нарад у Нясвіжы, Лунінцы, Івянцы ў сярэдзіне 1916 года была створана ініцыятыўная група бальшавікоў, якая к пачатку лютаўскай рэвалюцыі стала рэвалюцыйным цэнтрам усёй падпольнай работы ў Мінскай губерні і мела свае аддзелы ў дзесятай і трэцяй арміях. У склад гэтага партыйнага цэнтра ўваходзіла 15 вопытных партыйных работнікаў, у тым ліку такія вядомыя бальшавікі, як Е. І. Любімаў, А. Ф. Мяснікоў, Н. І. Крывашэін, С. Г. Магілеўскі, В. В. Фамін, К. І. Ландэр, Б. П. Пазерн.

У паліцыю паступала ўсё больш і больш вестак аб дзейнасці бальшавіцкіх арганізацый пад кіраўніцтвам «сціплай асобы Міхайлава». За ім пачалі сачыць, і мінскі граданачальнік барон Рауш фон Граубенберг падпісаў загад аб яго арышце.

Аднак абаронцы царскага ладу пралічыліся: да фронту дакаціліся першыя раскаты лютаўскай рэвалюцыі, якая скінула ўладу Мікалая II. Быў арыштаваны сам граданачальнік і яго шэф, галоўнакамандуючы Заходняга фронту генерал Эверт. Мінскі паліцмайстар, калі яго абяззбройвалі, прызнаўся Фрунзе:

— Калі б вы мяне сёння не забралі, я б вас арыштаваў заўтра.

У той жа дзень, калі да Мінска дайшлі першыя весткі аб рэвалюцыі, Фрунзе правёў нараду кіруючых партыйных работнікаў, на якой было



прынята рашэнне аб арганізацыі мас на падтрымку рэвалюцыі. Раніцай 4 сакавіка адбыўся легальны сход партыйнай арганізацыі бальшавікоў Мінска, трэцяй і дзесятай армій Заходняга фронту, на якім Фрунзе зрабіў даклад аб бягучым моманце і задачах пралетарыяту. Сход прыняў рашэнне аб стварэнні ў Мінску Савета—баявога штаба па кіраўніцтву рэвалюцыйнай барацьбой.

У той жа дзень у Мінску быў створаны Савет рабочых дэпутатаў і выдадзены першы нумар газеты «Известия Минского Совета», адным з рэдактараў якой стаў Фрунзе. З першых і да апошніх дзён знаходжання ў Мінску ён быў членам Мінскага Савета. Разам з Б. П. Пазернам, Е. І. Любімавым, Н. І. Крывашэіным, І. Г. Дзмітрыевым ён быў абраны членам Выканкома Савета.

Мінскі Савет стаў арганізуючым цэнтрам рэвалюцыйнага руху не толькі ў горадзе, але і ва ўсёй Беларусі і на Заходнім фронце.

На першым жа мнагалюдным сходзе Мінскага Савета Фрунзе прапанаваў:

— Для ўстанаўлення рэвалюцыйнага парадку неабходна стварыць з рабочых народную міліцыю.

Тут жа з вялікім энтузіязмам прысутныя выбралі яго начальнікам мінскай грамадзянскай міліцыі. У яе рады адразу запісалася шэсцьдзесят рабочых. Фрунзе ўзяўся за справу з уласцівай яму энергіяй і разгарнуў актыўную работу па ўмацаванню міліцыі і ўцягненню ў яе найбольш стойкіх рэвалюцыйных рабочых і салдат. У ноч на 5 сакавіка ён з баявой дружынай вызваліў з турмы палітычных зняволеных, абяззброіў паліцыю і жандармерыю.

Новы начальнік міліцыі адразу ж звярнуўся да насельніцтва з адозвай: «Грамадзяне! Стары лад знішчаны. Былая ўлада, якая абапіралася на самавольства, насілле, знікае па ўсёй краіне і на яе месцы ўзнікае новая, моцная народным адзінствам і даверам улада. Гарадская міліцыя ўжо абяззброіла паліцыю і стражнікаў і заняла паліцэйскае ўпраўленне і паліцэйскія ўчасткі... Усе ўрадавыя ўстановы, пошта, тэлеграф ахоўваюцца міліцыяй. Наогул у горадзе спакойна». Заканчвалася адозва заклікам запісвацца ў народную міліцыю.

Фрунзе папярэджваў працоўных, што: «Верныя слугі старога ладу... будуць рабіць спробы вярнуць для іх стары парадак. Трэба рабочаму класу самому сачыць за імі, быць нагатове ў любы момант падавіць малейшы намер цёмных сіл».

У дзеянні міліцыі народ бачыў не



**М. В. Фрунзе ў часе прабывання на Заходнім фронце.**

толькі абаронцу сваіх правоў і інтарэсаў, але і наглядны прыклад сапраўды рэвалюцыйнага органа народа. Фрунзе рашуча змагаўся з парушэннем свабоды слова, сходаў, друку, выкараняў сабатаж буржуазіі. У судах і ў рознага роду расследаваннях ён заўсёды абараняў правы беднякоў.

Лідэр мінскіх кадэтаў Самойленка папракаў прадстаўніка Часовага ўрада члена Дзяржаўнай Думы Шчэпкіна: «...як ён мог, будучы тут у першыя дні рэвалюцыі разам з ваенным міністрам Гучковым, удзельнічаць у той «складчыне», якая падарыла нашаму гораду ў начальнікі міліцыі бальшавіка Міхайлава, палітычныя погляды якога былі сацыялістычнымі».

Разумеючы, што вынік рэвалюцыі залежыць ад таго, на чыім баку будзе армія, Фрунзе асабліва вялікую ўвагу ўдзяляў палітычнаму выхаванню салдат і ўмацаванню бальшавіцкіх армейскіх арганізацый. Ён быў адным з арганізатараў I з'езда дэпутатаў армій Заходняга фронту, які адбыўся 7 красавіка 1917 года ў мінскім гарадскім тэатры. З'езд праходзіў у абстаноўцы вострай барацьбы за ўплыў на салдацкія масы. Сюды сабраліся вялікія контррэвалюцыйныя сілы. Ад Часовага ўрада прыбылі Радзянка, Шчэпкін, Родзічаў, Масленікаў, Гучкоў, ад сацыял-здраднікаў Чхеідзе, Цэрэтэлі, Скобелеў, а таксама прадстаўнікі генеральных

штабаў Англіі і Францыі. Усе яны ў адзін голас заклікалі працягваць вайну да перамогі.

Але задумы рэакцыянераў выкарыстаць з'езд у сваіх мэтах выкрылі бальшавікі — Фрунзе, Бадаеў, Ногін, Мяснікоў і іншыя. Яны выкрылі імперыялістычны характар вайны, здрадніцкую ролю буржуазнага Часовага ўрада і згодніцкую ролю эсэраў, меншавікоў і нацыяналістаў. Фрунзе ў сваім выступленні ад імя дэлегатаў-бальшавікоў даў рашучы палітычны бой буржуазіі, супрацьпаставіўшы ёй праграму рэвалюцыйнага выхаду з вайны.

Паказчыкам росту ўплыву бальшавікоў з'явіўся той факт, што з дзевяці членаў прэзідыума Франтавога камітэта было выбрана пяць бальшавікоў, у тым ліку і Міхаіл Васільевіч Фрунзе.

Уцягваючы салдат у рэвалюцыйны рух, Фрунзе часта прама на перадавых пазіцыях праводзіў мітынгі і сходы сярод салдат.

Камандуючы трэцяй арміяй данасіў ваеннаму міністру: «Прыбыўшы ў 55-ю дывізію агітатар Міхайлаў (Фрунзе) вядзе агітацыю сярод салдат за недавер'е афіцэрам і за выбарнае начальства. На агульным сходзе 22-га палка вынесена рэзалюцыя: прапанаваць усім афіцэрам падаць у адстаўку і прыступіць да выбараў другіх начальнікаў. Тое ж назіраецца і ў другіх палках...»

Камандзір 55-ай дывізіі данасіў 2 мая ў штаб трэцяй арміі: «Агітатар Міхайлаў вядзе агітацыю за арганізацыю братання... І сёння асабіста прыняў удзел у братанні ў 220-м палку. Братанне распаўсюдзілася на 218-ы полк, прычым угаворы афіцэраў не дзейнічаюць».

Галоўнакамандуючы фронту ў сваю чаргу загадаў: «Арыштаваць Міхайлава... Калі трэба, пасла́ць вайсковую часць, прыцягнуць артылерыю, якая дзейнічае на фронце 55-й дывізіі, і патрабаваць спыніць братанне». Але Фрунзе там ужо не знайшлі. Са штаба дывізіі з расчараваннем данасілі: «Няма звестак, на якую станцыю, куды ён (Фрунзе) выехаў».

23 сакавіка 1917 года па ініцыятыве М. В. Фрунзе быў створаны Мінскі губернскі Камітэт усерасійскага сялянскага Саюза.

Пасля шматлікіх губернскіх нарад батракоў, беднякоў і рэвалюцыйна настроеных сялян 20 красавіка пад старшынствам Фрунзе адбыўся I з'езд Саветаў сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў, на якім прысутнічала 800 дэлегатаў. Насуперак загадам Часовага ўрада, Фрунзе заклікаў сялян самавольна браць абшарніцкія землі. З'езд паставіў наступную задачу перад мясцовымі Саветамі: «дамагацца, каб усе землі царкоўныя, манастырскія, казённыя, удзельныя, памешчыцкія і прыватнаўласніцкія зрабіліся агульнанародным здабыткам без усялякага выкупу».

На з'ездзе Фрунзе быў выбраны старшынёй Выканкома сялянскага Савета, кіраўніком групы дэлегатаў ад Беларусі на I Усерасійскі з'езд сялянскіх дэпутатаў і рэдактарам «Крестьянской газеты», якая існавала з 10 чэрвеня па 10 ліпеня 1917 года.

На II з'ездзе Саветаў сялянскіх дэпутатаў, які праходзіў у Мінску ў канцы ліпеня 1917 года, эсэры намерыліся захапіць кіраўніцтва ў свае рукі і вылучылі на пасаду старшыні свайго стаўленіка Несцерава. Аднак сяляне запратэставалі і выбралі старшынёй з'езда Фрунзе. Яны паднялі Міхаіла Васільевіча на рукі і праз усю залу пранеслі да стала старшыні.

— Аказаны мне давер, — заявіў Фрунзе, — я прымаю як давер прадстаўніку партыі бальшавікоў.

Гэтыя словы патанулі ў громе воплескаў.

Рашуча выступілі бальшавікі Беларусі супраць чэрвеньскага наступлення на фронце, якое рыхтаваў Часовы ўрад. Буржуазіі аднолькава выгадны былі і поспех і правал наступлення. У першым выпадку яна спадзявалася ўмацаваць свае пазіцыі, адціснуць Саветы і разграміць бальшавікоў; у другім — зваліць віну за правал на бальшавікоў і раздавіць іх, абапіраючыся на «патрыятычныя» сілы.

Для таго, каб скаваць ініцыятыву антываенных выступленняў на Заходнім фронце, сюды прыбылі вярхоўны галоўнакамандуючы рускай арміі Керанскі і шэф французскай місіі Жонкен. Аднак працоўныя сказалі сваё слова. 18 чэрвеня ў дзень пачатку наступлення мінскія бальшавікі арганізавалі дэманстрацыю пратэсту. Нягледзячы на тое, што кадэты заклікалі насельніцтва горада ўстрымацца ад дэманстрацыі, апоўдні спыніліся ўсе фабрыкі і заводы. Рабочыя і салдаты выйшлі з заклікамі: «Апублікаваць тайныя дагаворы!», «Кантроль рабочых за вытворчасцю і размеркаваннем», «Далоў вайну!», «Уся ўлада Саветам!» і іншымі. Больш чатырох гадзін цягнулася маніфестацыя. Народная міліцыя пільна ахоўвала дэманстрантаў ад правакацый чарнасоценцаў. Фрунзе двойчы выступіў з прамовамі на мітынгах, якія адбыліся на Юбілейнай і Саборнай плошчах Мінска. Ён даказваў працоўным, што толькі пераход усёй улады ў рукі Саветаў здолее пакласці канец вайне.

Вестка аб палітычнай дэманстрацыі хутка разнеслася па ўсім фронце. Салдаты на мітынгах і сходах прымалі рэзалюцыі пратэсту супраць наступлення. Гэтая дэманстрацыя, як і дэманстрацыя ў Петраградзе, паказала правал палітыкі Часовага ўрада, а таксама рост уплыву бальшавікоў сярод рабочых і салдат.

Пасля правалу наступлення контррэвалюцыя распачала жорсткі тэрор супраць бальшавікоў, рэвалюцыйных салдат, прагрэсіўнага друку. Узнялі галаву ўсе контррэвалюцыйныя элементы. Яны зрывалі сходы і лекцыі, якія праводзіліся бальшавікамі, спрабавалі наладзіць пагромы, заклейвалі і зрывалі бальшавіцкія адозвы. Буржуазныя нацыяналісты патрабавалі расправы над М. В. Фрунзе і ўсім мінскім бальшавіцкім камітэтам.

Барацьбу супраць контррэвалюцыі ў Беларусі ўзначаліў Фрунзе.

27 ліпеня мінскі камітэт бальшавікоў пачаў выданне газеты «Звязда», адным з рэдактараў якой быў Фрунзе. Газета з'явілася звязваючым цэнтрам партыйных арганізацый Беларусі, выхавацелем мас працоўных у духу бальшавізма.

Значэнне «Звязды» было тым больш важнае, што яна нарадзілася ў той цяжкі час, калі былі забаронены газеты «Правда» і «Акопная правда». Фрунзе і Мяснікоў з першых дзён зрабілі «Звязду» ідэйным і палітычным цэнтрам бальшавіцкай агітацыі сярод працоўных Беларусі і салдат фронту.

Па загаду Керанскага выданне газеты тройчы забаранялася, і тройчы яна вымушана была мяняць назву («Молат», затым — «Буравеснік» і зноў «Звязда»). Але тое, што Міхаіл Васільевіч быў начальнікам міліцыі, значна аблягчала справу. Міліцэйскі народ для выканання загаду аб арышце друкарні падбіраўся Міхаілам Васільевічам з надзейных людзей, і друкарня апячатвалася толькі тады, калі адтуль вывозілася абсталяванне, надрукаваны тыраж, шрыфты і іншае.

Буржуазія рыхтавалася да разгрому Саветаў і ўстанаўлення контррэвалюцыйнай дыктатуры. На пост дыктатара быў намечаны вярхоўны галоўнакамандуючы генерал Карнілаў, стаўка якога знаходзілася ў Магілёве.

У час барацьбы з карнілаўшчынай перад бальшавікамі Беларусі стаяла адказная задача: ізаляваць сілы контррэвалюцыі ад Заходняга фронту і не даць магчымасці перакінуць войскі з фронту для падаўлення рэвалюцыі ў Петраградзе. Гэтая задача ўскладнялася тым, што тут, апрача Стаўкі, размяшчаліся такія цэнтры контррэвалюцыі, як «Галоўны камітэт георгіеўскіх кавалераў», «Саюз афіцэраў», «Савет Саюза казацкіх войск», штаб Заходняга фронту, якія заявілі аб сваёй адданасці Карнілаву.

26 жніўня Франтавы камітэт і мінскі Савет зацвердзілі Фрунзе начальнікам штаба рэвалюцыйных войск Мінскага раёна па барацьбе з карнілаўшчынай. Для каардынацыі дзеяння была зараз жа ўстаноўлена сувязь з усімі асноўнымі гарадамі Беларусі. Рэвалюцыйныя войскі мінскага ўчастка пад камандаваннем Фрунзе акружылі ўсе вузлавыя чыгуначныя станцыі Беларусі, узялі пад кантроль шасейныя дарогі, пошту, тэлеграф. Магілёў быў поўнасцю акружаны і ізаляваны.

Значную дапамогу Фрунзе ў барацьбе з карнілаўшчынай на Заходнім фронце і ў Беларусі аказаў Будзённы, які знаходзіўся ў той час у Мінску. Пад кіраўніцтвам Сямёна Міхайлавіча было абяззброена пяць эшалонаў «дзікай» дывізіі, якія былі накіраваны Карнілавым на Петраград. Разлік дыктатара на падтрымку з Заходняга фронту праваліўся.

Разграміўшы карнілаўшчыну, партыя бальшавікоў паставіла на парадак дня падрыхтоўку рэвалюцыйных сіл да звяржэння буржуазнага Часовага ўрада.

Фрунзе разам з другімі бальшавікамі актыўна праводзіў работу па стварэнню абласнога камітэта РСДРП(б) па перавыбарах Саветаў, па падрыхтоўцы сацыялістычнай рэвалюцыі. Пры яго ўдзеле ў кастрычніку была праведзена II Паўночна-Заходняя канферэнцыя РСДРП(б), якая ўвайшла ў гісторыю як канферэнцыя непасрэднай падрыхтоўкі Кастрычніцкага ўзброенага паўстання ў Беларусі і на Заходнім фронце.

За трынаццаць дзён да Кастрычніцкага паўстання Фрунзе па загаду партыі пакінуў Беларусь і накіраваўся ў Шую, дзе ён быў абраны старшынёй гарадской думы.

Пазней Міхаіл Васільевіч адзначаў у сваёй аўтабіяграфіі:

«У Мінску вучыўся я ваеннай справе, там жа пасцігаў і глыбіні нацыянальнай палітыкі...»

Амаль палавіна стагоддзя мінула з тых слаўных гераічных падзей, удзельнікам якіх быў Фрунзе — «адзін з самых чыстых, самых сумленных і самых бясстрашных рэвалюцыянераў».

**Іосіф ХАЎРАТОВІЧ.**

# ЛУКОМЛЬСКАЯ НАВІНА

**З блакнота мастака**



Лукомль — пасёлак на беразе вялікага прыгожага возера, што на Віцебшчыне. Упамінаецца ён у летапісу XI стагоддзя. Па рацэ Лукомцы праходзіў шлях з варагаў у грэкі, а старыя бярозы нагадваюць аб вялікім Екацярынінскім тракце. І ці не прыгажосць Лукомльскага возера натхніла Пушкіна на яго славутае:

«Ля лукамор'я дуб зялёны...»

Крыжаносцы не змаглі ўзяць горад. Напалеон пацярпеў крах у баях пад Лукомлем. У гады Вялікай Айчыннай вайны тут партызаны бясстрашна знішчалі захопнікаў.

Новая слаўная старонка ў жыцці Лукомля — збудаванне на беразе возера буйнейшай у Еўропе Лукомльскай ДРЭС. Інжынер Віктар Змітравіч Васільеў, які ўзначальвае новую будоўлю, расказвае, што ў новым горадзе энергетыкаў будзе дзесяць тысяч рабочых. Дзіцячыя сады, яслі, школы і абавязкова — праспект «Вясна»...

...Стоячы на пагорку, адкуль на шмат кіламетраў бачна ўсё навокал, захапляешся прыгажосцю гэтых мясцін — лугоў, палеткаў азіміны. У розных кірунках стужкамі разбегліся дарогі. На іх шмат машын. Не спяшаючыся, рухаецца аўтагрэйдар, прасуючы дарогі, якія не вытрымліваюць вялікай нагрузкі. Недзе ўдалечыні завіхаецца экскаватар, і ля яго тоўпяцца самазвалы, нібы нейкія дзіўныя жывыя істоты. А там, справа, каля самага возера, дзе закладваюцца падмуркі новага пасёлка, бачны краны з узнятымі ўгару стрэламі.

У прысадах некалькі вагончыкаў, на іх надпісы: «Аддзел кадраў», «Бухгалтэрыя», «Начальнік будоўлі». Тут заўсёды ажыўлена. Тут можна сустрэць многіх будаўнікоў, дазнацца пра самыя свежыя навіны. Можна прачытаць свежы нумар «Камсамольскага пражэктара», які вывешан у вітрыне.

Ужо будзе хутка год, як па закліку партыі на будоўлю з'ехаліся першыя будаўнікі. Усё гэта — моладзь, камсамольцы. З вёсак, з гарадоў, дэмабілізаваныя воіны. І навічкі, і спрактыкаваныя будаўнікі. Увосень, калі мне даводзілося быць на будоўлі, іх там было каля чатырохсот чалавек. У мяне адбылося шмат хвалюючых сустрэч з маладымі будаўнікамі.



На мантажы бетоннага завода.



Хочацца ў першую чаргу расказаць пра дзяўчат з растворнага вузла. Гэта яны бесперабойна даюць бетон будаўнікам! Вось адна з іх — Эма Міронава, стройная, нізкага росту дзяўчына. Яна прыйшла на будоўлю з чалгаса, на землях якога цяпер раскінулася гэтая будоўля. Старанная працаўніца, камуністка... У новым пасёлку адкрылася вячэрняя школа: Эма паступіла вучыцца ў восьмы клас.

Сярод будаўнікоў добра вядомыя імёны экскаватаршчыкаў Леаніда Даніловіча і братоў Уладзіміра і Яўгена Ласкіных, бульдазерыстаў Сяргея Дзядзюніна і Пятра Палынскага. Каб усю зямлю, узнятую іх механізмамі, сабраць у адно месца, то над Лукомльскім возерам вырасла б вялікая гара!

Пятро Шчарбак яшчэ малады, але ў яго за плячамі вялікая жыццёвая дарога. З малых год Пятро зведаў смак хлеба, запрацаванага сваімі рукамі. Ён — муляр, але, калі трэба, можа стаць ля такарнага станка, узяць у рукі слясарны інструмент. Рослы, шырокі ў плячах, Пятро вельмі сціплы, нават сарамлівы, больш маўчыць, не любіць расказваць пра сябе, хоць яму ёсць пра што расказаць. Тры гады ён працаваў на будаўніцтве чыгункі Новакузнецк — Абакан. Служыў у Савецкай Арміі на Далёкім Усходзе. Пасля — родная Віцебшчына, Лукомльская ДРЭС.



Цясляр Генадзь Тышкевіч вучыцца ў дзесятым класе. Кожную хвіліну скарыстоўвае ён, каб глянуць у падручнік.

Пятро ў кругу сяброў сядзіць ля вагончыка, услухоўваецца, пра што гавораць муляры. Ярка свеціць ранішняе сонца. Зараз прыбудуць грузавікі з цэглай, і хлопцы возьмуцца за кельмы.





Брыгада дзяўчат, якой кіруе Эма Міронава.

Усё ж мне ўдаецца разварушыць Пятра, і ён расказвае коратка пра сябе, пра свае планы.

— У наш час,— сказаў ён,— нельга не вучыцца. Скажам, я скончыў сярэднюю школу, але ўжо сёе-тое забылася. Што ж будзе, калі зусім не вучыцца? У мяне цвёрды намер — у наступным годзе паступіць на завочнае аддзяленне Мінскага політэхнічнага інстытута...

Побач з Пятром Шчарбаком працуе цясляр Генадзь Тышкевіч. Гэта такі ж, як і Пятро, хлопец з неспакойнай душой, сапраўдны герой нашага гераічнага часу. Генадзь працаваў у Нарыльску, затым па камсамольскай пуцёўцы ў Архангельску. Вярнуўшыся ў Беларусь, адразу падаўся на будоўлю Лукомльскай ДРЭС. Генадзь — кандыдат у члены партыі, вучыцца завочна ў Віцебску, у дзесятым класе сярэдняй школы. І марыць аб паступленні ў інстытут.

...Абедзенны перапынак. Хлопцы бяруцца за пакункі з абедам. Генадзь Тышкевіч паказвае мне, што зрабілі цесляры. Дамы дабротныя, утульныя, кватэры не горш за гарадскія. Тут паселяцца жыхары з вёсак, якія адышлі пад пляцоўку для новай будоўлі.

Яшчэ шмат можна было б расказваць пра людзей, з якімі мне давялося сустрэцца на будаўнічай пляцоўцы. Тут і малады каваль Пятро Зуеў, і шафёр самазвала Іван Навіцкі, і ўдарнік камуністычнай працы слесар Віктар Пляхаваў, і брыгадзір комплекснай брыгады камуніст Уладзімір Раманаў, і многія другія. Гэта ўсё людзі, якія служаць прыкладам камуністычных адносін да працы, да выканання свайго працоўнага абавязку.

Яшчэ няма велічных карпусоў электрастанцыі. Яшчэ шмат давядзецца папрацаваць, пакуль яны ўзнімуцца, надаючы новы выгляд лукомльскаму ўзбярэжжу. Людзі, якія сюды прыехалі, ахоплены гарачым жаданнем усё гэта зрабіць.

**Уладзімір ФІЛІПЕНКА.**

*Радавы Савецкай Арміі Генадзь Савельеў даслаў у рэдакцыю ліст, які мы змяшчаем ніжэй. Разам з лістом у канверце была невялічкая запіска. Вось яна: «Адным з маіх любімых часопісаў з'яўляецца «Маладосць». Іменна таму я пасылаю Вам неадасланы ў школу ліст. Некалькі разоў я пісаў дырэктару Блужскай СШ Пухавіцкага раёна, а вось гэты ліст рашыў паслаць у рэдакцыю. Хацелася б, каб вучні не толькі нашай школы ведалі, што яшчэ адзін з выпускнікоў выйшаў на жыццёвую арбіту. Дарэчы, паведамляю, што нядаўна мяне прынялі кандыдатам у члены КПСС.*

*Калі ж мой ліст здасца Вам не зусім цікавым, вышліце мне яго назад: сутнасць яго я хачу скарыстаць у сачыненні, калі праз год буду паступаць у інстытут на факультэт беларускай мовы і літаратуры. Іменна беларускай мовы, бо далёка ад родных мясцін яна стала для мяне яшчэ бліжэйшай і даражэйшай».*

*Наш карэспандэнт пабываў у родных мясцінах Генадзя, гутарыў з настаўнікамі школы, якую ён скончыў. Там памятаюць яго і ўспамінаюць добрымі словамі — ён быў старанным вучнем і школьным актывістам, актыўна ўдзельнічаў у самадзейнасці.*

*Рэдакцыя «Маладосці» выконвае просьбу Генадзя Савельева: ніжэй мы змяшчаем яго ліст. Адначасова жадаем Генадзю выдатнай службы і яшчэ каб пасля дэмабілізацыі абавязкова здзейснілася яго мара і ён стаў студэнтам!*

# ВАЙСКОВАЕ ВАМ ПРЫВІТАННЕ

Дзень добры, шаноўныя нашы настаўнікі!
Дзень добры, равеснікі-вучні!
Шлю вайсковае вам прывітанне
Без апраўдання, што вельмі нязручна!

**Апраўдвацца не буду, таму што віну сваю адчуваю поўнасцю. Віну ў тым, што вось ужо на працягу года, як служу ў Савецкай Арміі, не адправіў у родную школу ніводнага пісьма. Папрашу прабачэння, калі можна гэтым згладзіць сваю віну.**

**Яшчэ загадзя прашу прабачэння, калі ў сваім пісьме зраблю столькі памылак, колькі дастаткова, каб паставіць мне двойку, або, як гавораць, проста «кол». Чамусьці захацелася напісаць пісьмо на роднай мове. Я падпісаўся, ці, правільней сказаць, змог падпісацца, з братавай дапамогай на часопіс «Маладосць», які я атрымліваў яшчэ ў школе і які вельмі падабаўся мне. Маглі б вы толькі ўявіць, як гэта радасна атрымліваць своеасаблівую вестку з радзімы, знаходзячыся ад яе ні многа, ні мала—за тысячы вёрст!**

**Але што я толькі аб часопісе пішу. Мабыць, трэба больш напісаць аб службе.**

**Некаторыя пытаюцца, ці не шкадую я аб тым, што адразу ж пасля школы пайшоў, як кажуць, у людзі і доўга працаваў у розных кутках нашай краіны, а цяпер са спазненнем на два гады пачаў служыць у арміі. Не, я ні кроплі не шкадую, таму што змог атрымаць добрую загартоўку. Хто збярэцца аспрэчваць гэта, няхай паспрабуе збіраць пад спякотным сярэднеазіяцкім сонцам бавоўну, і адчуе, як ные спіна з раніцы, калі досвіткам выходзіш на поле, і як засынаеш мёртвым сном пасля таго, як на ток высыпаны апошні мяшок першагатунковай ваты, хай адчуе, што такое Ташкент позняй восенню, калі ад мокрага дождждыку з сняжком мерзнеш больш, чым ад саракаградуснага марозу.**

**Аднойчы ў вагоне цягніка, калі мы працавалі пад Краснаярскам, завязлася размова паміж намі, юнакамі, і людзьмі старэйшага ўзросту. Разгаварыўшыся, мы ўспомнілі тое, што каму прыйшлося перажыць. І адна жанчына, якой мы па ўзросту прыходзіліся сынамі, прамовіла: «Дзесьці і мой хлопец так кідаецца...» Прыйшлося лагодна выказаць думку, што выхаванне ёю сына было ой якое несапраўднае, тым больш, што сама матуля заўсёды ўдоўблівала сыну: «усё цяжкае аддасца потым, калі ён будзе ў гадах». Карацей кажучы, мы пакінулі цёплы вагон і выйшлі на паўстанак, каб у сібірскі мароз прадаўжаць цягнуць ніткі кантактных правадоў, цягнуць для таго, каб неба не капцілі чорныя клубы паравознага дыму, каб з вялікай хуткасцю пралятаді электравозы, везучы за сабой вагоны з грузамі сямігодкі. Душа поўнілася радасцю, калі, праязджаючы апошні раз у цывільнай вопратцы, я глядзеў праз акно на ўсё зробленае сваімі рукамі і раз-пораз успамінаў, як, здымаючы пасля працоўнага дня адубелыя валёнкі, мы ўсміхаліся, што і гэтыя валёнкі і, наогул, гэтая наша работа на марозе дасць аб сабе знаць потым, пад старасць.**

**Я зусім не шкадую аб тым, што служыць прыйшлося з невялікім спазненнем, у той час, калі мае аднагодкі даслужваюць апошні год. Не ўпэўнен, ці можна ўспрыняць гэта сур'ёзна (гаварыць ды і пісаць можна ўсё, што ўзбрыдзе ў галаву), але ж факт—тут, у арміі, я прыйшоў да вываду: можна поўнасцю абыходзіцца без спіртных напіткаў! А мы ж калісьці прыкладаліся да чаркі. Ну, а пасля ў галаве, ды і ў кішэні, у асноўным, на наступны дзень было пуста. Прабачце за адступленне, якое не трэ было б рабіць, але ж пішу ўсё гэта для хлопцаўвыпускнікоў, якія мо таксама паўтараюць нашы памылкі. Паверце, я зрабіў бы шмат што інакш, калі б да такога цвёрдага вываду прыйшоў адразу пасля сканчэння школы.**

**Прызнацца, у грамадскім жыцці арганізацыі я ўдзельнічаў актыўна, за што не раз атрымліваў пахвальныя лісты, і нават пасля заканчэння электрыфікацыі Краснаярскай чыгункі быў узнагароджаны граматай Краснаярскага абкома камсамола. Гэта было для мяне вялікай радасцю, хоць і адчуваў, што зрабіў яшчэ вельмі мала. Толькі ўсё жыццё яшчэ наперадзе, і ўпушчанае пастараюся нагнаць.**

**Але ж я амаль не пішу аб службе. Праходзіць яна выдатна. Час ідзе весела, хутка і незаўважна. Непрыкметна прайшла зіма, гэтак непрыкметна прыйшла і вясна. Здзіўляцца пасля сібірскіх краёў таму, што сярод мая, ды і ў канцы яго, лятаді «белыя мухі», не прыходзіцца, больш за ўсё мы здзівіліся таму, што ў студзені з дахаў капала вада (на працягу ўсёй зімы мароз не прыдавіў ртуць на тэрмометры ніжэй 30 градусаў, і то ўсяго адзін толькі дзень). І вось цяпер, загараючы на паўночным сонцы, а яно прыгравае так, што можна ўмомант спячыся (не жартую!), глядзіш на схілы гор, дзе сярод белага пакрывала шарэюць кусты, і не верыцца, што вось тут хутка зацвітуць кветкі, а там, крыху вышэй, снег. Ён будзе ляжаць усё лета. Вельмі шмат цікавага, чаго не прыйшлося б убачыць і адчуць, каб не армія. Але вы не падумайце, што служба—гэта адна весялосць і цікавасць. Не, гэта напружаныя дні і месяцы вучобы і працы. А хто з нас не жадае быць выдатнікам Савецкай Арміі! Вось і стараецца кожны авалодаць дасканала сваёй армейскай спецыяльнасцю. У любы час, у любую хвіліну, днём або ноччу, мы гатовы падняцца па воклічу: «Трывога!», будзе яна вучэбнай ці баявой.**

**Паўтараю яшчэ раз—я вельмі ўдзячны арміі, яна дала мне сапраўдны накірунак у жыцці.**

**У заключэнне свайго пісьма шлю сваё шчырае пажаданне выпускнікам нашай школы, пажаданне вялікіх поспехаў у працы і, хто пойдзе вучыцца далей, у вучобе.**

**Шчаслівай дарогі, таварышы-выпускнікі, пасля паспяховай здачы экзаменаў! Дарогі з радасцю, з каханнем, з песняй!**

**Дарэчы, песні для нас гучаць паўсядзённа. Мы не забываем пра іх, і толькі рэха аддаецца, калі загучыць:**

Твёрже шаг, ребята,
По земле советской мы идём...

**Да сустрэчы, мае дарагія сябры і настаўнікі!**

**Радавы Савецкай Арміі**
**Генадзь САВЕЛЬЕЎ.**

# САЮЗ ПРАЦЫ І ХАРАСТВА

## АДКАЗЫ НА АНКЕТУ

Удзельнікі руху за камуністычную працу запісваюць у сваіх абавязацельствах:

...Трэба не толькі добра выконваць даручаную справу — трэба працаваць творча...

...На працы, у сям'і, сярод таварышаў памятай: ты савецкі рабочы... Заўсёды ўнось прыгажосць у працу і ў жыццё...

Каб выявіць, як уплывае праца на эстэтычнае выхаванне моладзі, я правёў анкетнае апытанне трохсот пяцідзесяці шасці рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых на заводзе «Газаапарат» і на швейнай фабрыцы ў горадзе Брэсце, на тытунёвай фабрыцы ў горадзе Гродна, на заводзе «Гомсельмаш», на Салігорскім калійным камбінаце, на Мінскім радыёзаводзе і на Бабруйскай швейнай фабрыцы. Большасць з тых, хто адказваў на анкету, — моладзь.

На пытанне: «Ці лічыце вы, што ў вашай працы, ёсць прыгажосць?» дзвесце шэсцьдзесят сем чалавек адказала: «Так, у маёй працы ёсць прыгажосць».

Якія ж вытокі эстэтычнага выхавання?

Чалавек шукае прыгожае дома, на вуліцы, у тэатры і кіно. Але як бы ні было прыгожа там, дзе мы жывём і адпачываем, гэта не прынясе поўнага задавальнення, калі на працы, дзе чалавек праводзіць частку свайго жыцця, будзе няўтульна і брудна. Успамінаюцца словы А. С. Макаранкі: «Эстэтыка касцюма, пакоя, лесвіцы, станка мае ніколькі не меншае значэнне, чым эстэтыка паводзін».

Аб гэтым жа красамоўна сказаў і слесар-інструментальшчык завода «Гомсельмаш» Марк Бярковіч: «У нас у цэху многае зроблена для павышэння культуры працы. І, вядома, чым яна вышэй, тым радасней на душы».

Прыемна адзначыць, што, даючы ацэнку культуры працы на сваіх прадпрыемствах, рабочыя ўносяць канкрэтныя прапановы, як змяніць працоўную абстаноўку.

Важнае месца ў эстэтызацыі рабочага асяроддзя займае рацыянальная афарбоўка памяшкання і абсталявання, таму што колер не проста акружае нас усюды. Ён уплывае на нервовую сістэму, ад яго залежыць настрой і працаздольнасць. Успомніце, як у час рамонту пакоя або кватэры мы шмат думаем, раімся, у які колер пафарбаваць сцены, падлогу і столь, каб стварыць большую ўтульнасць.

Паўтараста гадоў назад нямецкі паэт Гётэ пісаў, што кожны колер выклікае пэўны настрой: жоўты — радуе, сіні — засмучае, зялёны улагоджвае. Дарэчы, аўтар гэтай тэорыі, як сцвярджаюць сучаснікі, фарбаваў пакоі ў сваёй кватэры ў розныя колеры. Пазней рускі псіхіятр В. М. Бехцераў пачаў лячыць пры дапамозе колераў нервовыя захворванні. Ён даказаў, што зялёны колер паніжае ціск унутры вачэй, абвастрае слых, садзейнічае нармальнаму кровазвароту, а чырвоны — насцярожвае, турбуе.

Вялікае значэнне ў вытворчай культуры мае знешні выгляд рабочага. Яго вопратка павінна быць зручнай і ў той жа час прыгожай. Гэта і зразумела. Людзі хочуць апранацца зручна і прыгожа не толькі ідучы ў тэатр, але і на працу. У нашай краіне стварэннем мадэлей рабочай вопраткі займаецца некалькі навукова-даследчых інстытутаў. Ужо створаны ўзоры вопраткі для працаўнікоў найбольш масавых прафесій. І ўсё ж гэтыя навінкі ўкараняюцца вельмі марудна. Часта рабочыя касцюмы бываюць непрыгожымі і нязручнымі. Вось што адказаў мне ў сувязі з гэтым рабочы Салігорскага камбіната: «Глядзіш, прыходзіць у цэх рабочы ў прыўзнятым настроі, добра апрануты. І вось калі ён пераапранаецца ў спецвопратку — настрой яго адразу псуецца, з твару знікае ўсмешка. Вельмі нязручныя ў нас спяцоўкі».

Аднак не ўсё залежыць ад якасці спецвопраткі. Многае залежыць і ад таго, наколькі сам рабочы акуратны, падцягнуты, сочыць за сваёй ахайнасцю.

Адмоўна ўплывае на псіхіку, настрой, а значыць, і на працаздольнасць — лішні шум. Трансляцыя спецыяльна падабранай музыкі ў пэўны час змены, як піша адна з работніц Брэсцкай швейнай фабрыкі, дапамагла б працаваць весялей, хутчэй, лепш. Нельга не пагадзіцца з прапановай старшыні саўнаргаса Латвійскай ССР Г. І. Гайле, што ўнутрызаводскае радыёвяшчанне ў рабочы час павінна абавязкова трансліраваць лёгкую, меладычную музыку. У нас жа часам па радыё перадаюць толькі розныя інфармацыі.

Асабліва месца ў эстэтызацыі вытворчых умоў займае наглядная агітацыя. Яна вызначае знешні выгляд цэхаў і прадпрыемстваў. На самай справе — дзе, як не ў нагляднай агітацыі, павінен быць асабліва цесны саюз працы і прыгажосці? Плакат, лозунг, пано, дошка паказчыкаў, вітрына з партрэтамі перадавікоў — усё гэта набывае сапраўдную агітацыйную сілу толькі ў тым выпадку, калі выканана на высокім мастацкім узроўні. Гэтую простую ісціну добра зразуме-

# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ЗВЫЧАІ

**Кожны народ мае свае звычаі, свае абрады. Іх безліч, яны надзвычай разнастайныя. Па сутнасці, усе звычаі на зямлі даволі незвычайныя, акрамя тых, якія мы добра ведаем, да якіх прывыклі. Пра незвычайныя звычаі мы і хочам расказаць нашым чытачам.**

**З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ.** Дзень нараджэння ў многіх краінах святкуюць аднолькава: прыходзяць у госці родныя і сябры, прыносяць падарункі, танцуюць і весяляцца, а гаспадары іх частуюць. Але захавалася яшчэ нямала старадаўніх звычаяў, якія звязаны са з'яўленнем на свет новага чалавека.

Калі ў афрыканскім племені кікуйю ў Кеніі, нараджаецца немаўля, то каля дома яго бацькоў збіраюцца ўсе суседзі.



лі кіраўнікі аршанскага ільнокамбіната. Адразу адчуваеш, што тут працавалі сапраўдныя майстры афармлення. Па баках алеі, якая вядзе на тэрыторыю камбіната, высаджаны кустарнікі, пастаўлены стэнды, зробленыя проста і з густам. Шмат цікавага і ў мастацкадэкаратыўным афармленні цэхаў. Але часта ў нас яшчэ забываюць, што дзейнасць нагляднай агітацыі вызначаецца яе выразнасцю. Возьмем, напрыклад, Брэсцкую швейную фабрыку. Сцены цэхаў завешаны дзесяткамі аднастайных плакатаў. На каляровай тканіне напісаны вытрымкі з розных службовых інструкцый. Яны не выклікаюць ніякіх эстэтычных пачуццяў. А наколькі прадукцыйней стала б праца жанчын у цэхах, калі б яны пазіралі не на сумныя літары плакатаў, а на жыццярадасныя малюнкі і ўсмешкі дзяцей, для якіх яны шыюць адзенне! Як бы дарэчы прыйшоўся тут свежы, яркі плакат, але не з трафарэтнымі службовымі інструкцыямі, а з цёплымі словамі, звернутымі да сэрцаў і пачуццяў работніц.

Арганізацыя нагляднай агітацыі мае патрэбу ў сур'ёзнай дапамозе мастакоў-прафесіяналаў. Яны маглі б кіраваць мастацкім афармленнем прадпрыемстваў.

Усё, што акружае чалавека на працы, павінна ствараца па законах хараства, па законах клопатаў аб чалавеку.

Гаворачы аб прыгажосці працы, нельга не ўспомніць і аб прыгажосці чалавечых адносін, што складаюцца паміж рабочымі прадпрыемстваў. Не выпадкова ж на пытанне «У чым вы бачыце хараство жыцця?» многія, хто запаўняў анкету, адказвалі так, як майстар калійнага камбіната Уладзімір Парток: «Усё хараство жыцця бачу ў працы, асабліва ў працы разам з калектывам». Сапраўды, у працэсе працы самым цудоўным пачуццём з'яўляецца пачуццё калектывізму, узаемадапамогі і дружбы. У гэтым вытокі выдатнай працы рацыяналізатараў. На пытанне «Што вам дапамагло стаць рацыяналізатарам?» дзевяноста адзін чалавек з дзевяноста васьмі адказалі: «Жаданне памагчы сваім таварышам, жаданне палепшыць умовы працы іншых рабочых».

Неяк на трактарным заводзе ў час экскурсіі ўвагу старшакласнікаў адной з мінскіх школ прыцягнуў адзін рабочы. Ён знешне нічым асабліва не адрозніваўся ад сваіх таварышаў, але штосьці было ў ім захапляючае, непаўторнае: магчыма, хуткасць рухаў, рытмічнасць працы, а можа прасты, спакойны твар, на якім блукала ледзь прыкметная ўсмешка. Адзін са школьнікаў з захапленнем сказаў: «Як прыгожа ён працуе!»

Вядома, любімая праца выклікае ў чалавека эмацыянальны ўздым, раскрывае яго духоўныя і фізічныя сілы.

Радаснае пачуццё ў рабочага выклікае выдатна зроблены ім прадмет. Токар калійнага камбіната Валерый Селязнёў піша: «У сваёй працы ўсё рабі так, каб вынік спадабаўся табе. Рабі адну дэталь прыгажэй за другую, каб, пазіраючы на яе, чалавек усміхаўся ад захаплення».

Тэхнік Кацуба з «Гомсельмаша» падтрымлівае яго думку: «Атрымліваю душэўнае задавальненне, калі бачу машыны, што выдатна зроблены на нашым заводзе і пры маім удзеле».

Чым больш чалавека захапляе праца, тым мацней ён цягнецца да прыгожага ў прыродзе, у быту, у грамадскім жыцці і, асабліва, у мастацтве.

Мастацкія густы рабочых сведчаць аб іх выключна багатых і разнастайных інтарэсах.

Адначасова некаторыя адказы на пытанні анкеты сведчаць і аб недахопах у мастацкім выхаванні моладзі. Многія маладыя рабочыя не могуць яшчэ самастойна разбірацца ў творах літаратуры і мастацтва.

Мастацкая сталасць прыходзіць не адразу. Яе трэба выхоўваць у сабе, шмат чытаць, многае чуць і бачыць.

Актыўнай формай эстэтычнага выхавання сталі ўніверсітэты культуры і школы камуністычнай працы.

Звычайная з'ява ў кожным калектыве — гэта людзі, якія поўнасцю аддаюць свой вольны час любімаму мастацтву. Слесар Полацкага завода шкловалакна А. Гардзей — мастак-аматар; інжынер-механік Барысаўскага завода «Чырвоны металіст» З. Каплан і машыніст Віцебскага дэпо П. Смалякоў — скульптары; рабочыя з Салігорска І. Крывальцэвіч і В. Валенда — пачынаючыя паэты. Такіх людзей вельмі многа. І яны з задавальненнем маглі б дапамагаць камсамольскім актывістам у мастацкім выхаванні моладзі. Трэба толькі часцей звяртацца да іх і самім па-сапраўднаму любіць мастацтва.

**Іван ГАЛКО,**
**аспірант Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.**

---

**— Арыры, рыры, рыры, рырыры, — крычыць ім з акна хаціны негрыцянка.**

**Яна прамаўляе гэта пяць разоў запар. Нарадзіўся хлопчык! Калі б гэта была дзяўчынка, старадаўняе вітанне ў гонар нованароджанага, якое азначае захапленне і павагу, было б паўторана толькі чатыры разы.**

**Пачуўшы прыемную навіну, усе спяваюць рытуальную песню, а некалькі старэйшых жанчын заходзяць у дом і мажуць дзіця алеем. Потым самы стары з племені гаворыць прамову, прысвечаную нованароджанаму «чалавеку з народа кікуйю». Гэты абрад апісвае негрыцянскі пісьменнік Вамату.**

**Калі маленькі кікуйю з'явіўся на свет у дождж, яму даюць імя Вамбура. «Мбура» на мове кікуйю азначае дождж, «ва» — мужчынскі прэфікс. Дзяўчынка, народжаная ў пагодлівы дзень, будзе насіць імя Нярыа: «ня» — жаночы прэфікс, «рыа» — сонца.**

**Ёсць на свеце народнасць тоды. Жывуць тоды ў Індыі, на поўдзень ад Майсора. Гэта вельмі старажытнае племя, паходжанне якога і дасюль для вучоных астаецца таямніцаю. У тодаў да цяперашняга часу захавалася многа дзіўных для нас звычаяў. Напрыклад, кароў дояць самыя мудрыя мужчыны гэтага племені. Тоды дакладна падлічылі колькасць грахоў — іх налічваецца ў іх каля 1 300. Грэх — ставіцца да свайго брата як да чужога, ламаць зялёнае голле, маніць, аддаваць птушаня кату, пацяшацца з хворых і калек, не накарміць галоднага, не абагрэць змёрзлага, самому спаць на ляжанцы, а цесцю слаць на зямлі, сядзець перад маці і г. д.**

**Святкаванне дня нараджэння дзіцяці ў тодаў адбываецца яшчэ да з'яўлення яго на свет. Гэта нешта накшталт хрэсьбін: будучая маці выбірае бацьку свайму дзіцяці. Справа ў тым, што ў тодаў пашырана паліандрыя — мнагамужжа. Выйшаўшы замуж, жанчына становіцца жонкаю ўсіх братоў свайго мужа. Цырымонія выбірання бацькі пачынаецца а шостай гадзіне вечара. За гадзіннік тодам служыць кветка, якая зацвітае толькі ўвечары...**

**У ляску, непадалёку ад вёскі, збіраюцца ўсе родзічы будучай маці. Яны садзяцца паўколам каля вялікага старога дрэва, жанчыны трошкі ўбаку ад мужчын.**

**Стары жрэц нажніцамі і драўляным малатком робіць у дрэве, на паўметра ад зямлі, трохкутную насечку. Усе мужы будучай маці, магчымыя бацькі дзіцяці, падаюць ніцма па чарзе перад кожным з прысутных, падносячы іхнюю нагу да свайго ілба, а потым ідуць у лес.**

**Калі ўсе кандыдаты на бацьку знікнуць у лесе, жанчыны кладуць у гліняны гаршчок трохі «гхі» — светлага масла, што вырабляецца з малака буйвалiцы. Мужчыны вяртаюцца: старэйшы нясе вялікую галіну, другі — дзікі мёд у сотах. Мёд каштуюць усе. З прынесенай галіны робяць лук і прывязваюць да яго маленькую стралу.**

**Пачынаецца асноўная частка цырымоніі. Жанчына бярэ лук і аддае яго таму з братоў, якога хоча аб'явіць бацькам свайго дзіцяці. Той вяртае ёй лук з прывязанай да яго стралою — сімвал хлопчыка, якога ўсе чакаюць з нецярплівасцю. Пасля гэтага ўсе ідуць дадому, астаюцца толькі браты, якія моляцца богу Севуну.**

**Фелахі, што жывуць у даліне Ніла, таксама аддаюць перавагу сынам. Нованароджанага аберагаюць ад «нядобрага вока», апранаючы яго ў сукеначку і паведамляючы ўсім, што**

нарадзілася дзяўчынка. Бывае, што нават бацька не ведае, хлопчык ці дзяўчынка нарадзілася. Калі ў немаўляці вырастаюць валасы, яму голяць галаву, пакідаючы толькі некалькі чубочкаў. Потым стрыгуць і чубочкі і ўрачыста, пад музыку закопваюць валасы ў зямлю — на шчасце.

Сем дзён не патухае святло ў пакоі шчаслівай маці-іранкі. Яе ні на хвіліну не пакідаюць адну. Наўкола яе ложка шабляю праводзяць лінію, якая, паводле падання, аберагае маці і хлопчыка (але не дзяўчынку) ад злых звышпрыродных сіл.

Афганцы з нагоды нараджэння сына скачуць, страляюць са стрэльбаў, б'юць у барабаны — урачыстасць цягнецца тры дні. А ў Турцыі свята цягнецца аж тры тыдні. Дванцаць адзін дзень уся вёска вітае маці, суседзі кідаюць медныя курушы (манеты) у знарок выстаўлены дзеля гэтага на вуліцы таз. Немаўля кладуць тварам да Мекі, гэтага вымагае мусульманскі звычай.

Як бачыце, ва ўсходніх і афрыканскіх народаў з'яўленне хлопчыкаў радуе, а нараджэнне дзяўчынак сустракаецца вельмі стрымана. А вось на ціхаакіянскіх астравах Яп і Палау, паводле сведчання этнографаў, урачыста сустракаюць найбольш дзяўчынак: у жыхароў астравоў Яп і Палау доўга захоўваўся першабытны матрыярхат.



Хлопчыку з афрыканскага племені шылукаў старэйшына племені ў прысутнасці найпаважанейшых мужчын урачыста выбівае ўдарам своеасаблівага разца шэсць ніжніх пярэдніх зубоў. Робіцца гэта таму, што шылукі вельмі шануюць быка зебу. Бык гэты лічыцца ў шылукаў свяшчэнным, а ў яго якраз няма гэтых самых пярэдніх ніжніх зубоў!

У паўночнай частцы Нігера хлапчуку, які дасягнуў дзесяцігадовага ўзросту, голяць галаву, змазваюць тлушчам цела і ўручаюць доўгую лазіну — выганяць жанчын.

Італьянскі даследчык-акіянолаг Фолька Квілічы пабываў на астравах Палінезіі. Ён раскazвае, што жанчыны на гэтых астравах даглядаюць сваіх дзяцей да дня «фаатыатыа» — дня, калі дзіця ўпершыню становіцца на ногі. Ледзьве навучыўшыся хадзіць, малы ўжо астаецца сам насам — ён самастойны чалавек. Звычайна старэйшыя кормяць яго да таго часу, пакуль ён не пачне хадзіць.

Цікава лічаць гады жыхары архіпелага Мергуі ў Бірме. Калі дзіця нараджаецца, яму ўжо... 60 год! Такtак! Шэсцьдзесят! На Мергуі гады не дадаюцца, а адымаюцца. Значыць, калі чалавеку мінула дванцаць пяць год, дык на Мергуі гэта — трыццаць пяць. А калі «стукнула» пяцьдзесят пяць? На Мергуі гэта толькі «пяцігадовы стары». Ну, а як быць, калі чалавеку ўжо шэсцьдзесят год? Мергуйцы робяць тактоўна: калі мінае «нуль гадоў», яны дадаюць яшчэ дзесяць і зноў адымаюць ад гэтай лічбы. Калі трэба яшчэ, дададуць яшчэ дзесяць год. Затое як прыемна пачуць 83-гадоваму старому такое: «яму ў чацвер сем год».

Пампезна святкуецца трынаццацігоддзе хлопчыка з племені нуэраў, невялікай народнасці ў Судане. Раніцою правадыр, які завецца «Уладаром жывёлы», ударамі ў рытуальны барабан склікае жыхароў паселішча на пляц. Жрэц акуратна робіць вострым нажом на лбе хлопчыка шэсць надрэзаў. Потым хлапца ўрачыста вядуць у асобную хаціну, дзе ён астаецца на два месяцы. Калі мінае гэты тэрмін, яго купаюць у рэчцы, упрыгожваюць цела традыцыйным малюнкам, а бацька дорыць яму гарпун, быка (вядома, калі мае быка). Цяпер хлопчык лічыцца мужчынам, «пастухом» і нават мае права ажаніцца.

Індзейцы Парагвая лічаць дарослым хлопчыка ў той дзень, калі яму мінае чатырнаццаць гадоў. Старэйшына племені праколвае яму ніжнюю губу вострaю і тоўстаю іголкаю. Трэба сказаць, што хлопец нецярпліва чакае гэтага дня і мужна пераносіць боль. А дзяўчынку ў трынаццаць гадоў парагвайцы на тры тыдні ставяць у куток хаціны, за шырму, забараняюць ёй смяяцца, размаўляць, нават падымаць вочы ад зямлі. Пасля гэтага яна таксама лічыцца дарослаю.

У карэнных жыхароў Вогненнай Зямлі і Патагоніі, як расказвае вядомы этнограф Брыджэс, цырымонія, звязаная з паўналеццем, больш гуманная і карысная. Юнака акружаюць самыя паважаныя аднасельцы і доўга размаўляюць з ім, намагаючыся прывіць яму «пакорлівасць,



цнатлівасць, стараннасць і павагу да праўды».

Аўстралійскія папуасы націраюць юнаку, якому мінае семнаццаць год, твар чырвонай охраю і кладуць спаць на зямлю, накрыўшы яго плашчом са скур. Уночы дарослыя выпрабоўваюць храбрасць юнака, нападаючы на соннага з крыкам, пад гучны бой барабанаў. Юнак павінен быць спакойны, яго ўсё гэта не павінна турбаваць.

Афрыканскаму вандроўніку-туарэгу «стукнула» дванцаць пяць. Цяпер, паводле звычаю свайго народа, ён сапраўдны мужчына і ў адзнаку гэтага павінен насіць чорную павязку. Гэтай павязкаю ён абмотвае галаву, закрываючы рот, ніжнюю частку носа і лоб. Павязку туарэг не мае права здымаць нават на ноч.

Мусульманскія народы Азіі і Афрыкі не святкуюць дзён нараджэння дарослых. Толькі пры нараджэнні ды калі мінае шэсцьдзесят два гады — «век прарока» — мужчыны збіраюцца асобна ад жанчын, лагодна размаўляюць, п'юць каву або чай з цукрам.

Усе звычаі жывуць толькі ў старых сёлах, далёка ад вялікіх гарадоў. А ўвогуле, на ўсёй нашай планеце дзень нараджэння святкуецца ўрачыста і весела. Незалежна ад таго, ці то першы год жыцця ці стагадовы юбілей.

Народная ўлада маладых сацыялістычных краін дбае пра тое, каб кожная вялікая падзея ў жыцці чалавека не аставалася незаўважанай. Як, напрыклад, адзначаецца дзень нараджэння ў сучаснай Чэхаславакіі? Маладыя прыходзяць у Нацыянальны камітэт, каб зарэгістраваць новароджанага. Родныя і калегі маладых бацькоў прыходзяць у камітэт з падарункамі і кветкамі. Піянеры чытаюць вясёлыя вершы, спяваюць песні, у якіх вітаюць і праслаўляюць новапароджанага. З'яўляецца «кум», або, як называюць яго ў Чэхаславакіі, «сведка». Маці і бацька дзіцяці разам з «кумам» падпісваюць у своеасаблівай кнізе абавязацельства выхоўваць дзіця «дужым, сумленным, справядлівым, адданым справе рабочага класа, нашай цудоўнай краіне». Гучыць музыка, гарадскі стараста гаворыць прамову:

— Першы смех дзіцяці, яго нявінныя вачаняты будуць першаю платаю за ўсе нашы клопаты, за ўсе бяссонныя ночы, што вы правядзеце з ім. Я шчыра жадаю, каб ваш сын быў варты вашай сям'і, нашай Бацькаўшчыны.

Я. ЦЭРКОВЕР.






# У ПОШУКАХ СПАДЧЫНЫ

Ён пражыў усяго 25 год, але плёну гэтага жыцця, кароткага і яркага, як бліскавіца, суджана тое даўгалецце, якім лёс надзяляе ўсё сапраўды таленавітае на зямлі.

«Максім Багдановіч па праву заняў пачэснае месца ў нашай маладой паэзіі як высокаталенавіты паэт і майстар паэтычнай формы. Сярод беларускіх паэтаў Максім Багдановіч вылучаўся глыбокай і шырокай адукацыяй, тонкім разуменнем і пачуццём паэзіі...

Максім Багдановіч быў і не менш таленавітым крытыкам. Яго артыкулы ў гэтай галіне здзіўляюць спеласцю думкі, глыбокім пранікненнем у сутнасць паэтычных твораў».

Так вызначыў месца Максіма Багдановіча ў гісторыі беларускай літаратуры народны паэт Беларусі Якуб Колас.

На жаль, да гэтага часу сабрана далёка не ўся паэтычная спадчына Максіма Багдановіча. Чакаюць публікацыі многія цікавыя артыкулы паэта, а таксама верш «Беларусь» («Беларусь, Беларусь! Агнём імя тваё мне гарыць...»), беларускія арыгіналы вершаў «Белым кветам адзета каліна...», «Смех і гоман. Малпачка ля ганку...» і «Заціхніце, мукі кахання», верш на рускай мове «Не сердись на меня, тихий друг», аўтарскі пераклад на рускую мову апавядання «Апокрыф» пад назвай «Притча о васильках» і іншыя, тэксты якіх былі знойдзены пасля выхаду ў свет апошняга выдання «Твораў» Багдановіча (1957).

Да Вялікай Айчыннай вайны ў Акадэміі навук БССР захоўваўся архіў паэта, сабраны яго бацькам Адамам Ягоравічам Багдановічам. У ім было многа аўтографаў паэта. Архіў гэты загінуў у час вайны. Адсутнасць аўтографаў вельмі ўскладняе падрыхтоўку новых выданняў твораў Максіма Багдановіча. Мала вывучаны і ўмовы, у якіх жыў і працаваў паэт. Таму нас цікавіць кожная новая звестка аб яго жыцці і творчасці.

Вялікую цікавасць уяўляе для нас і дзейнасць Максімавага бацькі — вядомага этнографа Адама Ягоравіча Багдановіча. Шырока вядомы яго запісы народных казак, змешчаныя ў другім томе «Материалов для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края» (1893), складзеных выдатным беларускім этнографам П. В. Шэйнам, а таксама кніжка «Пережитки древнего миросозерцания белорусов» (Гродна, 1895), успаміны пра Аляксея Максімавіча Горкага і іншае.





На гэтым здымку імёны не ўсіх удалося ўстанавіць. Стаяць: другі справа Адам Багдановіч, Максім Горкі, побач — іх цешча. Сядзяць: другая справа Аляксандра Паўлаўна — жонка Адама Багдановіча, побач — яе сястра, жонка М. Горкага Кацярына Паўлаўна Пешкава з сынам Максімам. Фота 1899 года.

Жывучы ў Яраслаўлі і пішучы свае навуковыя працы без папярэдняй дамоўленасці з навукова-даследчымі ўстановамі, Адам Ягоравіч шмат якія з іх так і не здолеў надрукаваць. Яны захаваліся ў рукапісах. У 1957 годзе сыны Адама Ягоравіча Павел і Мікалай Багдановічы перадалі асабісты архіў свайго бацькі Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, дзе яны захоўваюцца цяпер і чакаюць свайго вывучэння і публікацыі. Работа гэта ўжо распачата. Падрыхтаваны да друку зборнік успамінаў Адама Багдановіча, вядзецца далейшая работа па вывучэнню навуковай спадчыны этнографа. Таму новыя звесткі пра Адама Ягоравіча Багдановіча таксама ўяўляюць вялікую цікавасць.

## ЯК МНЕ ПАМАГЛА КНІГА «БЕЛАРУСКІЯ ПАЭТЫ»

У пошуках аўтографаў Максіма Багдановіча зусім нечакана мне памагла кніга «Беларускія паэты (XIX — пачатак XX стагоддзя)», выдадзеная на рускай мове ў Ленінградзе ў 1963 годзе. Было гэта так.

Працуючы над складаннем бібліяграфіі твораў Максіма Багдановіча, я вяла перапіску з рукапіснымі аддзеламі некалькіх бібліятэк і з прыватнымі асобамі. У 1957 годзе я напісала пісьмы зводнаму брату Максіма — Паўлу Адамавічу Багдановічу ў Яраслаўль і стрыечнаму брату — Андрэю

Трыфанавічу Галавану ў Маскву, у якіх расказала пра новыя выданні і публікацыі твораў Максіма Багдановіча, пра літаратуразнаўчыя работы, прысвечаныя яго творчасці, і папрасіла адказаць на некалькі маіх пытанняў, якія датычылі біяграфіі паэта. Я прасіла таксама паведаміць аб тым, ці не захаваліся ў іх або ў іншых сваякоў аўтографы Максіма Багдановіча. У прыватнасці мяне цікавіў рукапісны сшытак паэта «Зеленя», пра які ўпаміналася ў першым выданні «Твораў».

Абодва мае адрасаты адпісалі мне, адказалі на некаторыя пытанні, але аўтографаў Максіма ў іх не аказалася.

Андрэй Трыфанавіч Галаван перадрукаваў маё пісьмо і разаслаў яго ўсім сваякам.

Аднойчы на рабоце мне падалі канверт, надпісаны незнаёмым почыркам. Гэта было пісьмо з горада Горкага ад стрыечнай пляменніцы Максіма Багдановіча — Наталлі Глебаўны Кунцэвіч.

Наталля Глебаўна — інжынер, працуе на вытворчасці ў горадзе Горкім.

У 1964 годзе ў рукі ёй трапіла кніга «Беларускія паэты (XIX — пачатак XX стагоддзя)» Л., 1963, у якой вялікае месца займаюць творы Максіма Багдановіча. Яна ўбачыла, што вершы паэта вядомы не толькі ў арыгінале, але выдаюцца і ў перакладзе на рускую мову. Прачытаўшы ў прадмове аб тым, што Максім Багдановіч з'яўляецца класікам беларускай літаратуры, што беларускі народ помніць яго і шануе яго памяць, яна вырашыла адказаць на маё пісьмо.

Так завязалася ў нас ажыўленая перапіска. Наталля Глебаўна паведаміла, што ў яе ёсць некалькі аўтографаў Максіма Багдановіча, пісьмы яго бацькі Адама Ягоравіча і іншых сваякоў і многа сямейных фота.

Трэба ехаць, і неадкладна. Пачынаю збірацца ў дарогу. Некалькі дзён шукаю па ўсіх кнігарнях Мінска розныя выданні твораў Максіма Багдановіча і літаратуру аб ім і ўпэўніваюся, што ў продажы гэтых кніг няма. Знайшла толькі ўспаміны Адама Ягоравіча пра сына Максіма, апублікаваныя ў зборніку «Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі» (Вып. 3) і пласцінкі з песнямі на тэксты Максіма Багдановіча. Кнігі давялося збіраць праз Саюз пісьменнікаў, работнікаў Інстытута літаратуры і інш. З гэтымі падарункамі я і адправілася да Наталлі Глебаўны.

## СЯРОД ДАРАГІХ СЭРЦУ РЭЛІКВІЙ

Цягнік прыбывае ў Горкі ў 6 гадзін 40 мінут раніцы. На пероне мяне чакае жанчына, якой я ніколі не бачыла, але якую палюбіла па цікавых, дасціпных пісьмах. У руках яна трымае галінку рабіны — умоўны знак. Не ведаю чаму, але я адразу пазнала б яе і без умоўнага знаку.

Таксі хутка дамчала нас да вуліцы Мініна і спынілася каля старога, пацямнелага ад часу драўлянага дома з мезанінам.

Сяджу ў цесным пакоі Наталлі Глебаўны. На дубовым пісьмовым стале з разьбой ляжаць перада мной рукапіс Максіма Багдановіча — сшытак «Зеленя», два экземпляры прыжыццёвай кнігі вершаў «Вянок» з аўтографамі паэта (падарунак цётцы Магдаліне Ягораўне і стрыечнай сястры Веры Іванаўне) і асобны адбітак з часопіса «Украинская жизнь» з артыкулам «Краса і сіла» — таксама з аўтографам паэта. Побач ляжыць сямейны альбом Багдановічаў. На шафе стаіць вялікае сямейнае фота ў раме, на якім пазнаю Максіма Горкага і Адама Ягоравіча Багдановіча (бацьку Максіма), Кацярыну Паўлаўну Пешкаву (народж. Волжыну) з маленькім сынам Максімам, родную сястру яе Аляксандру Паўлаўну, якая была другой жонкай Адама Ягоравіча, і цешчу Максіма Горкага і Адама Багдановіча. А на ложку Наталлі Глебаўны сядзіць плюшавы мішка, якога пяцьдзесят год назад падараваў сваёй двухгадовай стрыечнай пляменніцы Наташы Максім Багдановіч. Яму было ў той час 22 гады. Наталля Глебаўна не помніць свайго дзядзьку-паэта, але светлую памяць аб ім перадалі ёй маці — Вера Іванаўна Гапановіч (па мужу Кунцэвіч) і яе родныя сёстры Анна Іванаўна і Наталля Іванаўна Гапановічы — стрыечныя сёстры Максіма Багдановіча па бацькавай лініі.






Гэты рукапіс ці бачыў хто з даследчыкаў творчасці Максіма Багдановіча? «Зеленя» — сшытак вершаў паэта, якія ён сам пераклаў на рускую мову і падараваў Нюце.

## ЛЁС СЯМ'І БАГДАНОВІЧАЎ

Пераглядаю сямейныя фота, і перад вачамі паўстае трагічны лёс сям'і Багдановічаў.

Дзед Максіма Багдановіча — Ягор Лук'янавіч Багдановіч — быў прыгонным дваровым (поварам) у маёнтку памешчыка Лапо ў Халопенічах Барысаўскага павету.

Бацька Максіма, Адам Ягоравіч, нарадзіўся ў Халопенічах у год вызвалення ад прыгону 7 красавіка (25 сакавіка па старому стылю) 1861 года (па метрычнаму пасведчанню — 25 сакавіка 1862 года). Гэтыя даты ўпамінаюцца ў пісьме Адама Ягоравіча да пляменніцы Веры Іванаўны Кунцэвіч ад 11 красавіка 1937 года.

Скончыўшы халопеніцкую школу, Адам Ягоравіч працаваў спачатку памочнікам настаўніка, пасля — кандытарам. Прага да ведаў прымусіла яго кінуць прафесію кандытара і паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Аб тым, што жылося яму ў гэты час нялёгка, сведчыць яго пісьмо да маці Анэліі Фамінічны ад 27 верасня 1880 года. Ён паведамляў, што не пісаў раней таму, што не было грошай на марку. З подпісу пад гэтым пісьмом відаць, што сапраўднае імя Адама Ягоравіча — Адольф. Наталля Глебаўна сцвярджае, што яму змянілі імя Адольф на Адам у семінарыі.

У 1882 годзе Адам Ягоравіч скончыў семінарыю, пасля настаўнічаў у Мінску, працаваў у сялянскім банку ў Гродна, Ніжнім Ноўгарадзе і ў Яраслаўлі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — загадваў навуковай бібліятэкай Яраслаўскага гістарычнага музея і працаваў выкладчыкам мастацка-педагагічнага тэхнікума. Адам Ягоравіч на працягу ўсяго жыцця вёў навуковую работу і ў савецкі час стаў вядомым этнографам.

Памёр у Яраслаўлі 16 красавіка 1940 года.

Маці Максіма — Марыя Апанасаўна, дачка наглядчыка ігуменскай бальніцы, Апанаса Іванавіча і Тацяны Осіпаўны Мякота, нарадзілася ў 1869 годзе. Яна скончыла жаночую настаўніцкую школу, спрабавала пісаць апавяданні.

Замуж за Адама Ягоравіча яна выйшла ў 1888 годзе. У іх было чацвёра дзяцей: Вадзім (нарадзіўся ў Мінску 6 сакавіка 1890 года, памёр у Яраслаўлі ў 1908 годзе), Максім (нарадзіўся ў Мінску 27 лістапада ст. ст. 1891 года, памёр у Ялце 12 (25 нов. ст.) мая 1917 года), Лeў (нарадзіўся ў Гродна 14 лістапада ст. ст. 1894 года, памёр у Кіеве ў 1918 годзе) і Ніна (нарадзілася ў Гродна 30 мая ст. ст. 1896 года, памёрла маленькай у Ніжнім Ноўгарадзе).

Бацькі пераехалі ў Гродна ў 1892 годзе, калі Максіму было 7 — 8 месяцаў. Тут і прайшло яго маленства. Захавалася некалькі сямейных фотакартак тае пары. Вось маленькі Максім стаіць босымі ножкамі на стале, у кашульцы. Каля стала побач з ім — зусім маладая яго маці. Гэта фота зроблена, відаць, месяцы праз два пасля пераезду сям'і ў Гродна.



Маленькі Максім са сваёй маці. Фота 1892 года.

На другім фота, прыблізна таго ж часу, Марыя Апанасаўна сфатаграфавана са старэйшым сынам Вадзімам.

Да канца 1895 года адносіцца, відаць, і фота, на якім мы бачым Марыю Апанасаўну і Адама Ягоравіча з трыма дзецьмі — Вадзімам, Максімам і Лёвам. Лёва яшчэ маленькі, сядзіць на каленях у бацькі.

Першае гора напаткала Максіма, калі яму было пяць год: ва ўзросце 27 гадоў памёрла ад туберкулёзу яго маці.

Каб не пакідаць без догляду дзяцей, Адам Ягоравіч выпісвае з Адэсы сваю малодшую, не прыстроеную яшчэ ў жыцці, сястру Марылю (Марыю Ягораўну Багдановіч), якая выхоўвае асірацелых малых тры гады — да таго часу, пакуль Адам Ягоравіч ажаніўся другі раз і яна сама выйшла замуж. На фота мы бачым маладую прыгожую дзяўчыну, цётку Максіма, у беларускім нацыянальным уборы. Гэта яна, зусім маладая дзяўчына, замяніла маці асірацелым пляменнікам. Дзеці шчыра любілі сваю маладую вясёлую цётку.

У 1896 годзе сям'я Багдановіча пераязджае ў Ніжні Ноўгарад. Тут Адам Ягоравіч знаёміцца з Аляксеем Максімавічам Горкім. З гэтай сустрэчы і пачалася іх дружба, пра якую так цёпла пісаў Адам Ягоравіч у сваіх успамінах пра Горкага.

Праз тры гады сем'і іх параднілісця. У 1899 годзе Адам Ягоравіч ажаніўся з роднай сястрой жонкі М. Горкага — Аляксандрай Паўлаўнай Волжынай. Вось сямейнае фота, якое адносіцца да тых гадоў. Стаяць побач Аляксей Максімавіч і Адам Ягоравіч, побач з імі (каля М. Горкага) — іх цешча. На пярэднім плане — Кацярына Паўлаўна Пешкава з маленькім сынам Максімам і Аляксандра Паўлаўна Багдановіч.

Па сведчанню самога Адама Ягоравіча, Аляксандра Паўлаўна была добрай маткай яго дзецям.

Ды спакой і шчасце ў сям'і Багдановічаў былі кароткія. Нарадзіўшы сына, Аляксандра Паўлаўна памерла ад родаў. Сына яе назвалі Аляксандрам, выхоўваць яго ўзялі да сябе Кацярына Паўлаўна



Вадзім і Максім. Іх маці вельмі хацела мець дачку і таму часта апранала меншага — Максіма — у суկенку. Фота 1894 года.



і Аляксей Максімавіч. Але пражыў Шурык нядоўга. Ён памёр ад інфекцыйнай дзіцячай хваробы, калі яму было 5 год. Дзеці Адама Ягоравіча засталіся зноў без догляду.

Трэці раз Адам Ягоравіч ажаніўся з Аляксандрай Апанасаўнай Мякота — сястрой сваёй першай жонкі Марыі Апанасаўны. З ёю ў Адама Ягоравіча было яшчэ пяць сыноў: Павел, Мікалай, Аляксей, Вячаслаў і Раман. Захаваліся фота і Аляксандры Апанасаўны і яе дзяцей. Але гора зноў падсцерагала сям'ю. У 1908 годзе памёр ад туберкулёзу лёгкіх старэйшы сын Адама Ягоравіча Вадзім, 25 мая (нов. ст.) 1917 года памёр Максім, у 1918 годзе загінуў Лёва, паўміралі ў розны час і тры зводныя браты Максіма, якія таксама хварэлі на туберкулёз. Сам Адам Ягоравіч памёр 16 красавіка 1940 года. Два яго сыны — Павел і Мікалай жывуць цяпер у горадзе Яраслаўлі.



Маці са старэйшым сынам Вадзімам. Фота 1893 года.

## КНІГА З ДРУКАРНІ МАРЦІНА КУХТЫ

Адам Ягоравіч рабіў усё, што мог, каб вылечыць дзяцей ад туберкулёзу. Але ў той час медыцына не мела сродкаў ад гэтай хваробы, і дзеці гінулі адзін за адным.

Першы раз Адам Ягоравіч павёз сваіх сыноў Вадзіма і Максіма «на кумыс» у вёску Караякупава Уфімскай губерні ў 1900 годзе. Захавалася цікавае дзіцячае пісьмо старэйшага Максімавага брата Вадзіма, адрасаванае стрыечнай сястры Веры. Дзесяцігадовы Вадзім расказвае пра падарожжа, цікава апісвае прыроду, мясцовыя звычаі, выказвае рознабаковыя веды. Ён ужо ведаў і Лабачэўскага, і Дзяржавіна, і Пугачова. Гэтыя веды ён не мог набыць у першым класе гімназіі. Пісьмо маленькага Вадзіма раскрывае перад намі ўмовы, у якіх выхоўваліся дзеці Багдановічаў. Гэта была культурная, інтэлігентная сям'я, у якой панавалі дэмакратычны дух, вялікая прага да ведаў. Побач з шырокім поглядам на жыццё і павагай да здабыткаў рускай і сусветнай культуры, Адам Ягоравіч прышчапляў сваім дзецям гарачую любоў да роднага беларускага народа, да яго мовы і творчасці.



Сям'я Багдановічаў: Марыя Апанасаўна (Мякота), Максім, Вадзім, Адам Ягоравіч і Лёва. Фота 1895—1896 гг.

У 1902 годзе Максім паступіў у Ніжагародскую гімназію. Праз тры гады ён быў сведкам рэвалюцыйных падзей 1905 года ў Ніжнім Ноўгарадзе. У гімназіі таксама праходзілі вучнёўскія мітынгі, у якіх прымалі ўдзел браты Багдановічы, асабліва — Вадзім. Захавалася фота Вадзіма, якое адносіцца да 1907 года.

У гімназіі Максім Багдановіч многа чытае, займаецца самаадукацыяй, вывучае гуманітарныя навукі. Упершыню знаёміцца паэт з сучаснымі яму перыядычнымі выданнямі на беларускай мове і пачынае выпісваць «Нашу долю», а пазней — «Нашу ніву».

У 1907 годзе Максім Багдановіч дасылае ў беларускую газету «Наша ніва» свой першы твор — лірычнае апавяданне «Музыка» («Наша ніва», № 24 за 6 ліпеня 1907 года).

У 1908 годзе сям'я Багдановічаў пераязджае ў Яраслаўль, куды быў пераведзены па службе Адам Ягоравіч.

Скончыўшы гімназію, Максім у 1911 годзе ўпершыню дарослым наведвае Беларусь. Каля месяца жыве ён на вёсцы непадалёку ад Вілейкі, уважліва прыслухоўваецца да жывой беларускай мовы, слухае песні і казкі.

У пачатку 1914 года выйшла з друку кніжка вершаў М. Багдановіча «Вянок», датаваная 1913 годам. Гэта сціпла выдадзеная кніжка, надрукаваная ў віленскай друкарні Марціна Кухты, зрабіла імя Максіма Багдановіча бессмяротным. Захаваўся экземпляр «Вянка», які Максім Багдановіч пяцьдзесят год назад падараваў з аўтографам цётцы Магдаліне Ягораўне.

У Наталлі Глебаўны таксама захаваўся экземпляр «Вянка» з аўтарскім надпісам Багдановіча.

## РУКАПІС МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Вершы з кнігі «Вянок» Максім Багдановіч падараваў стрыечнай сястры Нюце (Анне Іванаўне Гапановіч), да якой ён адчуваў сардэчную сімпатыю. Прачытаўшы яго вершы, Нюта сказала яму, што ёй цяжка ацаніць іх, бо яна не ведае беларускай мовы. Тады Максім выбраў са свайго зборніка «Вянок», з вершаў, апублікаваных у перыядычных выданнях, і са сваіх рукапісаў 22 вершы і пераклаў іх на рускую мову. Сшытак перакладаў паэт назваў «Зеленя».

Гэтыя пераклады вядомы па зборах твораў М. Багдановіча. Друкаваліся яны па копіі сшытка «Зеленя», знятай стрыечным братам Максіма Багдановіча — Андрэем Трыфанавічам (а не Андрэем Пятровічам, як зазначана ў «Творах» М. Багдановіча 1927 года выдання) Галаванам. Копія гэта загінула ў час вайны. Уласнага рукапісу Максіма Багдановіча даследчыкі беларускай літаратуры яшчэ не трымалі ў руках. Аўтограф сшытка «Зеленя» захоўваўся з 1914 года ў Анны Іванаўны Гапановіч, а пасля яе смерці (1941 год) — у сястры яе Веры



**Анна Іванаўна Гапановіч (Нюта) — стрыечная сястра Максіма Багдановіча.**



Іванаўны і, нарэшце, у дачкі Веры Іванаўны, пляменніцы Анны Іванаўны — Наталлі Глебаўны Кунцэвіч.

Вось ён — невялікі сшытак у лінейку, трошкі пацямнелы ад часу, акуратна запоўнены роўнымі, прыгожымі дробнымі літарамі, напісанымі чорным чарнілам. Вокладкі няма. На першай старонцы сшытка наверсе напісана: «Максим Богданович» — чыясь няспрытная дзіцячая рука падкрэсліла імя аўтара два разы сінім чарнілам, відаць, хтось з пляменніц Максіма Багдановіча. Ніжэй буйнымі літарамі прыгожа выведзена: «Зеленя». Пад назвай дробным чоткім почыркам напісан падзагаловак: «Стихи. Перевод с белорусского автора». Пад гэтым падзагалоўкам, справа тэкст: «Переводы стихов — словно женщины: если красивы, то неверны; если верны, то некрасивы». Пад тэкстам подпіс: «Нем. писат. поговорка». У самым нізе загалоўнай старонкі сшытка — паметка аб месцы і часе напісання вершаў: «Ярославль. 1909—1913». На наступнай старонцы сшытка стаіць толькі адно прыгожа напісанае слова «Нюте».



**Марыя Ягораўна — цётка Максіма Багдановіча, якая выхоўвала яго і братоў пасля смерці маці.**

Беражліва перагортваю старонку за старонкай гэты зграбна напісаны сшытак, у які з такой любоўю пяцьдзесят год назад заносіў Максім Багдановіч пераклады сваіх твораў. Разначытанняў з апублікаванымі з копіі А. Т. Галавана тэкстамі ў аўтографе нямнога, але яны ёсць і павінны быць улічаны пры падрыхтоўцы наступных выданняў твораў паэта.

А вось і тая, для каго паэт так любоўна рыхтаваў свой дар. З фатакарткі пяшчотна глядзіць маладая прыгожая дзяўчына. Чытаю яе пісьмо да сястры Веры Іванаўны ад 11 і 12 кастрычніка 1913 года, у ім цытуюцца вершы Максіма Багдановіча, якія ёй найбольш спадабаліся. Гэта трыялет «На солнце загляделся я...» «Триолет XVIII века», «Мне долгое забвенье вами...», «Слышишь гул? — Это дико-печальный лесун...» і «Скоро вечер в прошедшее канет...»

Цікаўлюся лёсам Нюты. Наталля Глебаўна расказвае, што гэта была абаяльная, цікавая жанчына. «Гэта быў адзіны чалавек у нашай сям'і, з якім Адам Ягоравіч размаўляў, як з роўным, не павучаючы, з думкай якога па тэарэтычных пытаннях ён лічыўся», — расказвае Наталля Глебаўна.

У той час калі Максім Багдановіч падараваў Нюце сшытак «Зеленя», яна вучылася на Вышэйшых жаночых курсах у Маскве, на аддзяленні матэматыкі і астраноміі. У час вучобы яна праявіла выдатныя здольнасці да матэматыкі. Прафесары прадракалі ёй вялікую будучыню.



Краса и сила

(Опытъ изслѣдованія стиха Т. Г. Шевченка).

Есть звѣзды, которыя такъ близки другъ къ другу и такъ ровно сливаютъ свой свѣтъ, что кажутся намъ однимъ неразрывнымъ цѣлымъ. „Двойными звѣздами" называются эти свѣтила. Ихъ судьба стала судьбою музы Шевченка и украинской народной поэзіи: двойной звѣздой сіяютъ онѣ въ мірѣ искусствъ и красоты.

**Фрагмент адбітка артыкула Максіма Багдановіча, што друкаваўся ў часопісе «Украинская жизнь». На адбітку — прысвячэнне сваёй цётцы Магдаліне Ягораўне Гапановіч.**

У час першай сусветнай вайны Нюта выйшла замуж за студэнта Яўгена Міхайлавіча Селіваноўскага, які неўзабаве загінуў на фронце. Скончыць Вышэйшыя жаночыя курсы ёй не ўдалося, бо ў гады разрухі было цяжка жыць, а на яе руках засталося дзіця. Яна прыязджае ў Ніжні Ноўгарад, працуе ў фатаграфіі Дзімітрыева і выхоўвае дачку Кацю. Памёрла Анна Іванаўна 24 мая 1941 года. Дачка яе Каця (Кацярына Яўгеньеўна Селіваноўская) — геолаг, жыве цяпер у Ленінградзе.

## АПОШНІ ГОД У ЯРАСЛАЎЛІ

Захавалася цікавае пісьмо стрыечнага брата Максіма Багдановіча — Пятра Іванавіча Гапановіча (роднага брата Нюты) да сястры Веры ад 6 мая 1915 года. Яно пралівае святло на ўмовы жыцця і творчасці Максіма Багдановіча ў тыя часы.

У 1915 годзе ў Максіма быў родны брат Лёва і пяць зводных братоў (ад трэцяй жонкі Адама Ягоравіча — Аляксандры Апанасаўны Мякоты). Жылі ўсе разам. Пачалася вайна. Жылося цяжка. Бацька ўвесь час ездзіў па камандзіроўках ад сялянскага банка. На руках у Аляксандры Апанасаўны было сямёра дзяцей. Праўда, Максім і Лёва былі ўжо дарослыя, але яны яшчэ вучыліся, а не працавалі. Максім у гэты час быў ужо хворы і меў патрэбу ў доглядзе і клопатах. Але ён стараўся не дакучаць сваёй асобай другім. Ён зачыняўся ў асобным маленькім пакойчыку і аддаваўся любімаму занятку. Многа чытаў, вывучаў літаратуры славянскіх народаў, завязваў сувязі з рускімі, беларускімі і ўкраінскімі часопісамі і газетамі, спісваўся з дзеячамі беларускай літаратуры, актыўна адгукаўся ў друку на выхад новых кніг, пісаў вершы, артыкулы, рэцэнзіі.

Бліжэйшыя члены сям'і, акрамя бацькі, не разумелі інтарэсаў Максіма, называлі яго дзіваком. Яны не заўважалі дэмакратычнага характару яго паэзіі, не разумелі яго зацікаўленасці да рэвалюцыйна-вызваленчага руху славянскіх народаў, і ў першую чаргу — роднага яму беларускага народа. Не разумелі яны і таго, што Максім Багдановіч разглядаў сваю літаратурную працу як абавязак перад народам і служэнне яму. Гэта відаць з перапіскі Пятра Іванавіча Гапановіча (стрыечнага брата Максіма) з сястрой Верай Іванаўнай. У пісьме ад 6 мая 1915 года ён пісаў:

> «Гипертрофированное увлечение отдельными сторонами литературы и слишком завзятое отношение к «самостийной» Белоруссии без остатка поглощали все его (Максима. — **Н. В.**) заботы и всё внимание. Он запирался в своей комнате, зарывался в эти вопросы и в такой плотной двойной оболочке, изолированный от житейского, прожил все последние годы».

З гэтага пісьма таксама відаць, што Максім сам адчуваў сваю адарванасць ад народа і неўладкаванасць свайго лёсу. Ён імкнуўся да самастойнага жыцця, складаў розныя планы ўладкавання свайго лёсу, раіўся аб гэтым з аўтарам пісьма. «Так обрисовывается его нынешнее состояние и отсюда проистекает его решение: бросить дом своего отца и Ал. Афанасьевны и на стороне начать новую жизнь», — пісаў Пётр Іванавіч. Мы ведаем, што, скончыўшы ліцэй, у 1916 годзе Максім выканаў сваю задуму — прыехаў працаваць у Мінск.

Ёсць у пісьме Пятра Іванавіча радкі і аб пачуццях Максіма да Нюты.

## АДАМ ЯГОРАВІЧ

Захавалася таксама многа пісем Адама Ягоравіча. Самае ранняе з іх датуецца 27 верасня 1880 года, астатнія адносяцца да 20-х — 30-х гадоў. У іх ёсць многа цікавых звестак аб навуковай рабоце самога Адама Ягоравіча, якую ён вёў да самай сваёй смерці.

У перапісцы сярэдзіны 20-х гадоў сустракаюцца звесткі аб тым, як



збіраліся матэрыялы для першага выдання «Твораў» Максіма Багдановіча (1927 — 1928).

Адаму Ягоравічу нялёгка было сабраць літаратурную спадчыну сына-паэта, бо ў Яраслаўлі не было многіх патрэбных выданняў. Ён часта звяртаўся да сваёй пляменніцы Веры Іванаўны Кунцэвіч, якая жыла ў той час у Горкім, з просьбай схадзіць у мясцовую цэнтральную публічную бібліятэку на Варварцы, пашукаць «Ніжагародскі лісток» за 1915 год, каб спісаць апавяданне І. Франка, перакладзенае на рускую мову Максімам, а таксама прагледзець гэтую газету і выпісаць усё, што апублікавана ў ёй за подпісам Максіма Багдановіча.

Адам Ягоравіч увесь час сачыў за публікацыямі твораў сына і літаратурай аб яго творчасці. У пісьме да Веры Іванаўны Кунцэвіч ад 15 кастрычніка 1939 года чытаем:

> «Спасибо тебе, дорогая Вера, за присылку вырезки об издании стихов Максима в сборнике. С присоединением Западной Белоруссии интерес к нему оживился, ибо одновременно мне прислали статью из «Литературной газеты» № 54 некоего Мозолькова, весьма хвалебную, из которой я узнал, что группа поэтов — Исаковский, Иринин, Семынин — выпускают в ближайшее время сборник «Избранные стихи» М. Богдановича в своих переводах на российский...»

У 30-я гады Адам Ягоравіч часта піша Веры Іванаўне аб сваёй навуковай працы і аб перагаворах з рэдакцыямі. У пісьме ад 26 красавіка чытаем:

> «Третью (Работу. — **Н. В.**) — «Язык землі. Образование речных и озерных имен и от них производных» — подготовил к печати. Это около 10 — 12 печатных листов, — это мой самый важный труд. Он носит подзаголовок: «Хореографический и этнологический очерк». Один старый ученый льстиво посоветовал прибавить: «И бессмертие». Писал я его с водными компресами на груди, ибо в январе я схватил инфлюэнцу, которая перешла в катаральное воспаление легкого».

У пісьме да дачкі Веры Іванаўны — Анастасіі Глебаўны Кунцэвіч — ад 17 кастрычніка 1933 года Адам Ягоравіч паведамляў, што работа «Язык земли» «имеет быть напечатана Государственной Академией материальной культуры». Аўтару ўжо быў пераведзены ганарар, але кніга, на жаль, так і не выйшла ў свет.

У пісьме Адама Ягоравіча да Веры Іванаўны ад 11 красавіка 1937 года ёсць звесткі аб тым, што свае ўспаміны пра Аляксея Максімавіча Горкага ён паслаў у «Литературное наследство», у Горкаўскае абласное выдавецтва. Ён даручае Веры Іванаўне ўнесці ў рукапіс некаторыя праўкі:

> «...Кстати одно место в нашем споре с Алекс. М-чем по этическим вопросам (в 1896 г.) надо вычеркнуть, чтобы не подавать повода к каким-либо кривотолкам.
>
> Это по поводу карамазовского «всё позволено». В этой рукописи, которую я послал ОГИЗу, это будет на странице 29 или 30-й. Ввиду того, что этой простой формуле придается дурной смысл, лучше это рискованное утверждение просто вычеркнуть».

У пісьме да таго ж адрасата ад 9 ліпеня 1937 года Адам Ягоравіч зноў вяртаецца да сваіх успамінаў пра Горкага, якія былі надрукаваны ў зборніку «Горкі на радзіме» (Горкі, 1937).

> «Весьма досадно, — піша Адам Ягоравіч, — что я не смогу прочитать корректуру своих воспоминаний об Алексее Максимовиче — в Нижнем. Это черт знает — что такое! Что они там сделали с моей рукописью. Ведь это весьма ответственное дело, а они хотят поставить меня перед совершившимся фактом. Потом доказывай, что у тебя это звучало не так. Конечно они немало искромсали. Хорошо еще, если выбросили несущественное. Ну, что делать...
>
> Прочитал вчера в журнале «Октябрь», в февральской книжке за этот год, воспоминания Скитальца «Максим Горький».

Очень много беллетристики и очень мало фактов. Перепутаны даты, многое скомкано в одну массу, а кое-что и придумано, т. е. он просто забыл, как это было, или перепутал свое и чужое. Но отношение к нему Алексея Максимовича передал верно».

Большасць навуковых работ Адама Ягоравіча не ўбачылі свету. Іх рукапісы захоўваюцца ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Пісьмы ж, што захоўваліся ў Горкім, праліваюць святло на творчую працу этнографа Адама Багдановіча і характарызуюць умовы, у якіх ён пісаў.

З перапіскі Адама Ягоравіча відаць, што, жывучы ў Яраслаўлі, ён ніколі не забываў роднай яму Беларусі. У адным з апошніх пісем да Веры Іванаўны ён з сумам пісаў:

«Есть у меня еще одно задушевное желание — это съездить в Минск и в Холопеничи: тянет туда. Но это трудно осуществить. Во-первых — две поездки были бы тяжелы для нашего бюджета; а во-вторых, для меня это было бы делом рискованным: поездка в Холопеничи меня бы так взволновала, что я, вероятно, и сложил бы там свои старые кости под березами моих предков».

Апрача пісем Адама Ягоравіча, захаваліся пісьмы Анны Іванаўны Гапановіч (Нюты) да сястры Веры Іванаўны, пісьмы брата іх Пятра Іванавіча і іншыя. Усяго ў нашым распараджэнні больш пяцідзесяці пісьмаў, якія так ці інакш датычаць лёсу Максіма Багдановіча, яго родных.

## БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ, ЖЫВІЦЕ ШЧАСЛІВА

Я шчыра падзякавала Наталлі Глебаўне за беражлівае захаванне каштоўных матэрыялаў. Наталля Глебаўна сціпла адказала, што гэта — заслуга не яе, а яе маці Веры Іванаўны. Вера Іванаўна, якой так шчыра давяраў усе свае думкі і выдавецкія справы Адам Ягоравіч, памерла ў 1949 годзе. На працягу ўсяго жыцця яна захоўвала фота сям'і Багдановічаў, пісьмы свайго дзядзькі Адама Ягоравіча і іншых сваякоў, а пасля смерці сястры Анны Іванаўны (Нюты) і рукапісны сшытак Максіма Багдановіча «Зеленя».

Наталля Глебаўна расказала многа цікавага пра сям'ю Багдановічаў, удакладніла некаторыя даты. Гутарыла я і з яе малодшымі сёстрамі — астраномам-геадэзістам Анастасіяй Глебаўнай Кунцэвіч і з выкладчыкам літаратуры Тацянай Глебаўнай Сібіраковай.

Вельмі ўзрадавала мяне знаёмства са стрыечнай сястрой Максіма Багдановіча па мацярынскай лініі — Аннай Кіпрыянаўнай Гразновай.

Мы з Наталляй Глебаўнай прыехалі да яе на прыгарадную дачу, калі пачало цямнець. У гародзе паліла галлё прыгожая пажылая жанчына. Калі яна даведалася, адкуль я прыехала, твар яе ўвесь засвяціўся радасцю.

Зайшлі на тэрасу маленькай дачы. На канапе ляжаў зачытаны, без вокладкі, экземпляр прыжыццёвай кнігі Максіма Багдановіча «Вянок». Анна Кіпрыянаўна ўзяла яе з сабой, калі выбіралася вясной на дачу. Гэта адзіная кніга паэта, якую яна ведала.

Анна Кіпрыянаўна жыла ў Мінску да 1915 года, а ў час вайны пераехала ў горад Яраслаўль. Максіма Багдановіча ведала асабіста з 1915 года да яго ад'езду з Яраслаўля ў 1916 годзе. Максім быў старэйшы за яе, жыў у гэты час напружанай творчай працай. Дружыла Анна Кіпрыянаўна больш з яго малодшымі братамі, асабліва з Мікалаем.

Анна Кіпрыянаўна расказала аб мінскім перыядзе жыцця сям'і Багдановічаў (яе маці Анна Апанасаўна жыла ў той час каля года ў сям'і Адама Ягоравіча):

«Адам Ягоравіч настаўнічаў, жонка — дома. Было двое дзяцей. Жылося цяжка. У бліжэйшай краме бралі напавер. Купляюць, купляюць, набяруць многа — крамнік больш не дае».

На другі дзень Анна Кіпрыянаўна прыехала з дачы і прыйшла да Наталлі Глебаўны. Пазнаёмілася з новымі выданнямі кніг Максіма Багдановіча і крытычнай літаратурай пра яго, якія я прывезла з Мінска, праслухала пласцінкі з рамансамі на словы паэта і ўзяла чытаць двухтомнае выданне «Твораў». Мы дамовіліся з Аннай Кіпрыянаўнай, што яна вясной прыедзе ў Мінск пагасціць.

Наталля Глебаўна і Анна Кіпрыянаўна пішуць мне і цяпер. Анна Кіпрыянаўна ўважліва прачытала за гэты час артыкул І. Замоціна ў другім томе «Твораў» (1928) М. Багдановіча і ў пісьме да мяне ўносіць рад каштоўных удакладненняў у біяграфію сям'і Багдановічаў. У тым жа пісьме Анна Кіпрыянаўна прыслала фота маленькага Максіма, апранутага дзяўчынкай.

У кожнай з гэтых сем'яў, якія жывуць у Горкім, я знайшла даўнейшыя выданні твораў Максіма Багдановіча — або «Вянок» 1913 года або «Творы» 1927 — 1928 гадоў выдання. Сустракалі мяне як жаданага госця з родных мясцін. Шчыра дзяліліся ўсім, што мелі і ведалі, жыва цікавіліся радзімай, Беларуссю.

Пакуль я спісвалася з Наталляй Глебаўнай, памёрла некалькі сваякоў Максіма Багдановіча яго пакалення. 13 жніўня 1964 года памёрла ў Ленінградзе стрыечная сястра паэта Наталля Іванаўна Гапановіч. У тым жа 1964 годзе не стала стрыечнай сястры і брата Максіма Анны Трыфанаўны і Андрэя Трыфанавіча Галаванаў. Праз Андрэя Трыфанавіча мне і ўдалося звязацца з Наталляй Глебаўнай. Ён памёр 15 верасня 1964 года, за два дні да майго прыезду ў Горкі. Мяне гэта вельмі засмуціла.

Наталля Глебаўна і пазнаёміла мяне з астатнімі сваякамі. Тры ночы, амаль да раніцы, мы разам разбіралі і перачытвалі пісьмы, якія ў яе захаваліся, каб адабраць тыя, што маюць гісторыка-літаратурнае значэнне.

Я пазнаёмілася з малодшым пакаленнем «беларускай калоніі» ў Ніжнім Ноўгарадзе, пра якую калісьці пісаў у сваіх успамінах Адам Ягоравіч Багдановіч. Стрыечныя пляменніцы Максіма Багдановіча не былі ў Беларусі, але ўсе яны ведаюць, што бацькі іх паходзяць з Холапеніч.

Вялікае вам дзякуй, землякі!

Бывайце здаровы, жывіце шчасліва і збярыцеся наведаць радзіму продкаў, каб паглядзець, як хораша красуе зараз Беларусь, у будучыню якой так цвёрда верыў ваш слаўны дзядзька Максім Багдановіч: «Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага яснага дня».

Мы чакаем вас дарагімі гасцямі!

За лёс атрыманых ад вас матэрыялаў не хвалюйцеся. Аўтографы Максіма Багдановіча, перапіска Адама Ягоравіча з пляменніцамі, фота і іншыя матэрыялы пасля апрацоўкі будуць здадзены ў аддзел рэдкай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, дзе і будуць захоўвацца.

**Ніна ВАТАЦЫ,**
**галоўны бібліёграф**
**Беларускай дзяржаўнай**
**бібліятэкі імя У. І. Леніна.**













# ПРЫЗНАННЕ НАРОДА

Прысуджэнне Рэспубліканскіх літаратурных прэмій стала добрай штогадовай традыцыяй. Пад Новы год, у пярэдадзень нацыянальнага свята нашага народа — гадавіны ўтварэння Беларускай ССР, рэспубліку абляцела радасная вестка. Савет Міністраў БССР абнародаваў сваё рашэнне: пачэсных адзнак — літаратурных прэмій імя Янкі Купалы і імя Якуба Коласа — удастоены Мікола Аўрамчык, Анатоль Вялюгін, Піліп Пестрак. Засведчана воля шырокага кола чытачоў, якія на сустрэчах з пісьменнікамі, у друку, па радыё назвалі лепшымі з лепшых кнігі, выдадзеныя ў 1963 годзе: «Сустрэча былых канагонаў», «Вецер з Волгі», «Серадзібор».

«Вецер з Волгі» — гэта паэма пра юнацтва Уладзіміра Ільіча Леніна, пра надыход зары вызвалення народаў Расіі, пра пачатак яе абнаўлення. Вецер з Волгі — гэта няўрымслівы рэвалюцыйны парыў маладога Ульянава, які рана задумаўся над тым, каб ускалыхнуць прагрэсіўныя слаі расійскага грамадства, згуртаваць лепшыя сілы пралетарыяту і скіраваць іх на рашучы штурм цвярдынь капіталізму.

Некалі Маякоўскі, ведучы гаворку пра сваю работу над паэмай «Уладзімір Ільіч Ленін», шчыра прызнаваўся: «Я надта баюся гэтай паэмы, бо лёгка было знізіцца да простага палітычнага пераказу». Гэтая трывога не пакідала і Анатоля Вялюгіна, калі ён браўся за здзяйсненне сваёй запаветнай задумы. Але тое, што паэт з самага пачатку выбраў правільны паэтычны ключ, каб напісаць пра юнацтва «самага чалавечнага з усіх прайшоўшых па зямлі людзей», выратавала яго ад небяспекі знізіцца да пераказу шырокавядомых фактаў біяграфіі генія.

Анатоль Вялюгін здолеў так шчыльна пераплесці ў паэме эпас і лірыку, так спалучыць апавядальны і лірычны пачаткі, так эмацыянальна насыціць вобразы і характары, што атрымаўся моцны сплаў думкі і пачуцця — усхваляванае паэтычнае апавяданне пра юнацкі свет Леніна, пра непаўторныя вытокі яго тытанічнага подзвігу ў імя шчасця ўсяго чалавецтва.



Вядомую думку пра тое, што Ленін пасля трагічнай смерці свайго старэйшага брата, пакаранага смерцю за замах на цара, прыйшоў да адзіна перспектыўнай высновы — «інакшым шляхам трэба нам ісці!», Анатоль Вялюгін не проста паўтарае, але азарае яе сваім унутраным святлом, і чытач не толькі задумваецца над дзерзнавенным шляхам маладога Валодзі Ульянава, але і глыбока перажывае ўсе радасці і нягоды, звязаныя з першымі крокамі юнака-рэвалюцыянера. Уся фактура твора, — вялюгінскія моцныя рыфмы, багатая рытміка, высокая культура верша, якая, зноўтакі, у знітаванасці думкі і пачуцця, — спрыяе рэалізацыі смелай задумы. Эстэтычны пачатак у паэме нідзе не існуе сам па сабе, ён раскрываецца праз эмацыянальны і інтэлектуальны планы. Лірычнае «я» і «я» апавядальніка ўзаемапрасякнуты, узаемазвязаны, узаемаабумоўлены.

І мусіць тым, што думкі і пачуцці лірычнага героя паэмы «Вецер з Волгі» сугучны нашым сённяшнім роздумам і эмоцыям, што следам за паэтам нам хочацца паўтарыць: «Каб раней, на пачатку жыцця, я да гэтага змог прычасціцца, то, напэўна, сягоння б інача ненавідзеў, любіў, працаваў і дружыў...», вытлумачваецца высокая, адчувальная ў кожным радку, **актыўнасць** паэтавых сувязей з чытачом.

Высокім іменем Янкі Купалы разам з паэмай Анатоля Вялюгіна «Вецер з Волгі» адзначана і кніга вершаў яго паэтычнага аднагодка Міколы Аўрамчыка «Сустрэча былых канагонаў». Гэтая кніга напісана ў спакойнай манеры апавядання, можа нават гутаркі сціплага, а часам і сарамлівага чалавека пра перажытае. І не гледзячы на знешнюю стрыманасць, ціхі голас, у кнізе ўвесь час прысутнічае сэрца паэта, чый жыццёвы лёс не абмінуў і пакут паднявольнага канагона ў фашысцкім палоне, і тугі выгнанніка па роднай Беларусі, і радасцей вяртання ў родныя мясціны, і захаплення сённяшняй мірнай працай першых беларускіх шахцёраў. На адным вялікім дыханні напісаны лепшыя вершы кнігі («Глюкаўф!», «Ключы жураўліныя...», «Сустрэча былых канагонаў», «Беларуская сасна») — у іх не толькі сваё, інтымнае перажыванне, але вялікі сацыяльны змест, высокі грамадзянскі пафас — пафас лютай нянавісці да нелюдзяў і шчырай любві да людзей. І перш за ўсё вершы Міколы Аўрамчыка поўны любві да людзей працы, замілавання працоўнай штодзённасцю тых землепраходцаў, што «бяруць ружаватую соль са сцяны», каб падсаліць сала ў час сняданку, тых салякопаў, што падносяць нам «на тысячах рук зямлю, як буханку вялізную з соллю...»

Праўда асабістага жыццёвага вопыту, праўда перажывання стала праўдай мастацкага адлюстравання, бо паэт здолеў выбраць самае істотнае, асвятліць усё яснай думкай і выказаць яе простай, даходлівай мовай. Кніга «Сустрэча былых канагонаў» атрымалася па-сапраўднаму народнай і таму набыла шырокае чытачова прызнанне.

Старэйшы беларускі пісьменнік Піліп Пестрак удастоены літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа за раман «Серадзібор» — шматпланавы, шматгалосы твор, як шматгалосае жыццё сучаснай вёскі, што пакладзена ў яго аснову. Узнікшы не сёння канфлікт паміж земляробствам і навукай паказан пісьменнікам як сённяшні, надзённы, жыццёва важны канфлікт, як адна з галоўных прычын адставання сельскагаспадарчай вытворчасці ад патрэб часу. «Навука — гэта і ёсць актыўны наступ на прыроду, ад чаго і мяняецца жыццё грамадства, а значыць, і сам чалавек», — гаворыць адзін з герояў рамана малады вучоны Платон Грушка. І гэтая думка становіцца тым промнем, якім пісьменнік асвятляе самыя патаемныя куточкі душы сваіх персанажаў. Можа, твор занадта перанаселены людзьмі, якія часам пачынаюць і замінаць адзін аднаму, але ж над гэтым прыватным пралікам аўтара пераважае характэрная рыса сучаснай прозы — імкненне як мага паўней і глыбей паказаць інтэлектуальны змест чалавека, ідэйны рост нашага сучасніка.

Упарадкаванне зямлі — вось той практычны клопат, у які ператвараецца асноўная ідэя рамана аб супольнасці навукі і працы, аб набліжэнні мары земляроба да рэчаіснасці. Піліп Пестрак не паскупіўся на шырокія экскурсы і ў глебазнаўства, і ў лугаводства, і ў асновы земляробства. Ён імкнецца ведаць як мага больш для таго, каб раскрыць усебакова

душу чалавека, якога паказвае. Праграма жыццёвых паводзін герояў у рамане выразная, дакладна распрацаваная.

Раман «Серадзібор» повен грамадскага, партыйнага пафасу, актыўнага, дзейснага, ваяўнічага гуманізму, ён гістарычна канкрэтны. І, дзякуючы гэтым сваім якасцям, ён увайшоў у рэчышча лепшых твораў савецкай літаратуры пра сучаснасць. Пілiп Пестрак улавіў подых новага часу і правільна заўважыў новыя канфлікты, выявіў уменне мастака вучыцца ў нашай рэчаіснасці, якая бурліць жыватворнымі крыніцамі камуністычнай актыўнасці мас.

Беларуская літаратура нашых дзён знаходзіцца ў няспынным руху да вяршынь майстэрства, чым будзе характарызавацца «сапраўды новае, вялікае камуністычнае мастацтва» (Ленін). Творы, адзначаныя пад Новы год літаратурнымі прэміямі імя Янкі Купалы і імя Якуба Коласа,— прыкметныя вехі на гэтым адзіна правільным і ўдзячным шляху. Спадзяемся, што да нашага шчырага віншавання новых лаўрэатаў нацыянальных прэмій, далучацца і чытачы «Маладосці».

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**




# ПАДКАЗАНА ЖАНОЧЫМ СЭРЦАМ...

**Д. Бічэль-Загнетава. «Нёман ідзе». Вершы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1964.**

Ёсць нешта вельмі самабытнае і непаўторнае ў тым, як пішуць мастакі-жанчыны. Графіка Алесі Паслядовіч і жывапіс Галіны Азгур, скажам, спыняюць нашу ўвагу не толькі таму, што іх кніжныя ілюстрацыі або пейзажы маюць усе, ці амаль усе, якасці сапраўды высокага мастацтва,— ёсць у іх і яшчэ нешта сваё, адметнае. Адзнака нейкай, я сказаў бы, асцярожнасці? — Магчыма і яна. Далікатны рух пяра ці пэндзаля? — Відаць, і гэта. Тонкая настраёвасць? — Безумоўна. Але штосьці яшчэ. Відаць, гэтае «штосьці» — гэта жаночае замілаванне тым, што стала прадметам творчасці, шчырае, бязмежнае і зразумелае кожнаму.

У мастацтве слова мы назіраем тое ж самае. Нават у такім мужным творы, як «Бітва ў дарозе» Галіны Нікалаевай адчуваецца рука жанчыны-мастачкі. А што ўжо казаць пра Веру Панову!

Аднак найбольш адчувальнай гэтая прываблівая рыса творчасці — жаноцкасць — бывае, вядома, у лірычнай паэзіі. Мне асабіста здаецца, што і вартасці паэтычнага слова, і заганы, асабліва такія, як наўмыснае арыгінальнічанне, хутчэй і больш прыкметна кідаюцца ў вочы на паперы, якую кранала пяро ў руцэ жанчыны. Прыгадаю словы М. Г. Чарнышэўскага: «Паэт павінен быць арыгінальны, сам не ведаючы як, і калі павінен аб чым-небудзь клапаціцца, дык гэта не аб арыгінальнасці, а аб ісціне выражэння: арыгінальнасць прыйдзе сама сабой... Сапраўдная арыгінальнасць у адлюстраванні, а значыць і ў форме, магчыма толькі ў вернасці рэчаіснасці і ісціне». Дадам ад сябе: у напісаным паэтэсай такая вернасць, як і адступленне ад яе, больш адчувальная, бо эмацыянальна-жаночая адкрытасць бывае зусім «чытабельнай».

Кніжка вершаў «Нёман ідзе» Данута Бічэль-Загнетавай амаль не ведае фальшывых і прыблізных нот. Ёй уласціва добрая ўнутраная цэласнасць.

«Я» ў лірыцы паэтэсы, наколькі гэта магчыма ў такім родзе паэзіі, набывае рысы пэўнага мастацкага вобраза. І зусім не выпадкова песенная назва ракі вынесена ў назву кніжкі: Нёман — першая і ўсёпаглынаючая любоў паэтэсы, а значыць і яе лірычнага героя. Радзіма, першае матчына слова і першае пачуццё — усё зазнае лірычны герой вершаў каля блакітнай дарогі. Паслухайце, з якой добрай усмешкай, па-мастацку пераканаўча гаворыць пра гэтую любоў паэтэса:

Сонцу,—
Яму вядома,
Каго прывітаць спачатку.
Прачнецца—
Адразу на Нёман.
Сядзе ў рыбацкую чайку;
Закіне ў тоні невад—
І паплыло на неба.

Колькі хараства роднай зямлі раскрывае паэтэса, калі адказвае на дзіцячае пытанне: «Белая Русь, матуля, гэта дзяўчынка? Так? Як называецца дзіўна...»

Крыкні—
Яна адгукнецца
Звонам гарачых кос.
Кропля з ліста сарвецца,
Ускалыхнецца плёс.

Ці патрэбны тут каментарыі, калі водгукам на кліч «Белая Русь» паэтэсе і нам, чытачам, чуецца звон гарачых кос! Так бывае, калі ты разумееш усю няпростую сутнасць паняцця — «Радзіма», працавітай, добрай, дбайнай краіны твайго і майго маленства...

Даль захлынецца громам—
Белая Русь запяе.
І азарыцца Нёман—
Чыстае вока яе...

Даруем не зусім зграбнае, з пункту гледжання майстэрства, «вока». Аднак заўважым, як дарэчы і на гэты раз уплывае ў патрыятычную плынь вершаваных радкоў Нёман, «здольны» азарыцца, пачуўшы роднае для яго слова. Вядома, можна было б гаварыць аб тым, чаго няма ў падобных вершах, але ж гэта занятак не вельмі ўдзячны. Куды больш варта вітаць тое, што ёсць у радках, якія цяпер выправіла ў свет паэзіі Д. Бічэль-Загнетава. А ёсць у вершы «Шчаку да вуснаў туліць...» вельмі шчырае і гарачае пачуццё да роднай зямлі, да роднага з маленства свету.

Паэтэсе пашчасліла знайсці ўжо ў другой сваёй кніжцы вельмі ўдалую меру вобразнасці ў мове. Гэта — не гіпербалы ўвогуле, а метафарычныя звароты з лексічнага кола маці, жанчыны, каханай і кахаючай... Больш таго, яе вобразная мова сама па сабе «працуе» на характар таго «я», ад імя якога паэтэса вядзе размову з чытачом. Мабыць, кожнага аматара вершаў абрадуюць нават узятыя па-за агульным ладам вершаў метафарычныя пабудовы Д. Бічэль-Загнетавай: «Крыгі-астравы, нібы роздумы...»; «Касцы з касавіцы песню на кончыках косаў неслі...»; «Нехта цішу цэдзіць млявай жменяй... Меней... Меней...»; «Там, за птушынай дубровай, туманы ручайкі прадуць...»; «Ручнічок закінуўшы на плячо, выбягала сонейка, як дзяўчо...» Гэтыя радкі не толькі даюць уяўленне пра моцную і яркую вобразнасць лірыкі, але і сведчаць аб схільнасці паэтэсы да народнай песні.

Вось усё гэта, на маю думку, перш-наперш і вызначае кірунак творчых намаганняў Д. Бічэль-Загнетавай. Паэтэса не спяшаецца абавязкова напісаць «пра ўсё», не прымушае сябе складаць вершаваныя радкі, прыстасоўваючы іх да знешне надзённых тэм. Яе арыгінальнасць — гэта тое, што прадыктавана вернасцю паэтэсы ісціне і рэчаіснасці, блізкай ёй і кранаючай яе.

«Нёман ідзе» — кніжка вершаў пераважна пра любоў і пра матчыны пачуцці. Падобныя творы могуць быць і стэрэатыпна банальныя, і свежыя, самабытныя. У параўнанні з першай сваёй кнігай, Д. Бічэль-Загнетава ўмела адыходзіць ад наіўнага дылетантызму і мужна супраціўляецца напору запазычаных інтанацый. Толькі зрэдку натрапіш у кніжцы на верш, ад якога патыхае альбомнымі парфюмернымі пахамі, а яны вельмі недарэчы там, дзе струменіць нёманская хваля і пахне свежае сена. Возьмем такі, напрыклад, верш, як «Можа сядзем з табой...», у якім вар'іруецца матыў

зварогу колішніх закаханых «у тыя вёсны, дзе не хмарыцца, дзе не старыцца, дзе наіўна і хораша марыцца». На гэтыя радкі пакрысе кладзецца чыйсьці знаёмы літаратурны сілуэт. У нейкай знарок лірычна-блытанай настраёвай манеры напісаны вершы: «Я, здаецца, зусім змарылася...» або «Ці сняцца табе...» і асабліва той, дзе самы пачатак прэтэндуе на танную арыгінальнасць: «Ты напаі мяне з крыніцы сэрца...».

Але гэта толькі зрэдку. У лепшых вершах паэтэсы традыцыйныя матывы, умоўна кажучы, жаночай лірыкі набываюць свае, адметныя рысы. У вершах яе прысутнічае гумар. Смех у яе не з'едлівы і не злосны, ён добры, нават крыху гарэзлівы («Над возерам ліпнёвы ясны дзень...» ці «Салаўём на вушка пяяў...»). І гэта таксама надае нешта своеасаблівае таму характару, які выкрышталізоўваецца ў лірыцы Д. Бічэль-Загнетавай.

На добрым мастацкім узроўні напісаны вершы «А цяпер на далёкім бары...», «Гаршкалепы» або такі нечаканы «Сон» з яго празрыстай даверлівасцю — «Недзе за лесам далёкім, недзе за сінім аўсом, поплечкі з ветрыкам лёгкім блукае па свеце сон...» Яны сведчаць пра тое, што паэтэса пераступіла парог вучнёўства, навучылася не толькі складаць вобразныя вершы і апавядаць «пра сябе», але і стварае свой свет, дзе так хораша гучыць чуйная і звонкая мелодыя жаночага сэрца.

**Барыс БУР'ЯН.**




# ПАДАРОЖЖА Ў ПАЭТЫЧНАЕ

**Іван Грамовіч. «Сонца скрозь воблакі». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1964.**

Іван Грамовіч — празаік. Але яго больш правільна было б назваць паэтам у прозе. Мяккі лірызм, паэтычнасць, эмацыянальнасць, рамантычная ўзнёсласць — гэтыя адметныя асаблівасці твораў пісьменніка яскрава праявіліся і ў яго новай кнізе «Сонца скрозь воблакі», што нядаўна выйшла з друку ў выдавецтве «Беларусь».

Многія творы з гэтай кнігі («Садок насаджу», «Песня ў бары», «Жаваранак», «Крыніца», «Выпаў снег» і іншыя) гучаць, як вершы ў прозе. Вось, напрыклад, як хораша і ўзнёсла перадае пісьменнік адчуванне свайго маленькага героя: «Мы вярталіся са школы, а снег не пераставаў буйнымі пушынкамі сыпацца на дол. Кругом было прыволле белых палёў і прастораў.

Зіма! Зіма! Ідзі хутчэй, сцялі снягі на поле, на дарогі, на нашу вуліцу! Сып, мяцеліца, круці гурбы, каб я зноў даставаў шапкай дрэвы. Вось якія яны высокія, а заўтра мы памераемся!.. Ідзі, зіма-матуля, каб я хутчэй пабольшаў, каб я падрос!..» («Выпаў снег»).

Большасць апавяданняў Івана Грамовіча характарызуецца павучальнасцю ў добрым сэнсе гэтага слова, — той павучальнасцю, якая не навязваецца сілком чытачу, а арганічна вынікае з мастацкага паказу жыццёвых абставін, з логікі развіцця характараў. Апавяданні пісьменніка выклікаюць у душы чытача светлыя пачуцці і ўспаміны, выхоўваюць любоў да Радзімы, вучаць разумець прыгожае, адчуваць хараство роднай прыроды, з павагай ставіцца да людзей працы.

Творы, што склалі кнігу «Сонца скрозь воблакі», разнастайныя па сваёй тэматыцы, але кніга ўспрымаецца як адзін закончаны твор, як арганічнае цэлае. Апавядальнік у кнізе — наш сучаснік, равеснік Чырвонага Кастрычніка. Ён запрашае чытача ў далёкае і цікавае падарожжа, вядзе яго па сцежках свайго маленства і юнацтва, тонка і праўдзіва перадае каларыт той эпохі, калі ў нашай краіне толькі распачыналася вялікае будаванне новага жыцця. Унутраны свет апавядальніка багаты. Ён паўстае перад чытачом то гнеўным, непрымірымым да фальшы і хлусні, то ўважлівым, спагадлівым да чалавечага гора і бяды, то лірычна ўсхваляваным рамантыкам, то натхнёным песняром прыроды.

У апавяданні «Садок насаджу» хворы хлопчык марыць аб тым, каб у знак удзячнасці сваёй маці за ўсе яе клопаты і трывогі аб ім насадзіць сад.

«— Мама, як вырасту... Насаджу садок... І яблыні, і вішні, і грушы... Як у дзядзькі Мікалая... Бэры. Насаджу садок... Густы. Вялікі... Толькі для вас...

І сапраўды, вялікі сад разгарнуўся перада мною. Увесь у кветцы. Цвілі яблыні, грушы. Белым, ружовым цветам. Цвілі ўсе дрэвы. І хоць ляталі агністыя сняжынкі, было прыемна ісці скрозь гэты сад... Сад, сад, кругом сад!»

Прайшоў час. Хлопчык вырас у сталага мужчыну. «...Даўно ўжо няма мае роднай на свеце... А я ўсё выконваю тое абяцанне, дадзенае ёй. Колькі пасаджана дрэўцаў! Яны растуць... Цвітуць... І яшчэ будзе больш!»

Чуласць героя да ўсяго жывога на свеце раскрывае пісьменнік і ў апавяданні «Жаваранак». Тут намаляваны хлопчык-пастушок, які захапляўся спевамі жаваранкаў.

Зайздроснай якасцю лепшых твораў Івана Грамовіча з'яўляецца тое, што ў іх заўсёды прысутнічае падтэкст.

У апавяданні «Крыніца», напрыклад, мастацкімі сродкамі даводзіцца думка: трэба берагчы скарбы прыроды, не дапускаць, каб крыніцы заплывалі гразёю, марнелі і чахлі, бо інакш «зямля перастане дыхаць... высахне... зробіцца, як пустыня».

Аднак не толькі ў адным гэтым сэнс твора. Пісьменнік быццам гаворыць чытачу: патрэбна, каб струмені сцюдзёных, чыстых крыніц пранікалі ва ўсе сферы жыцця людзей, каб яны ачышчалі грамадства ад бруду і гнілля. Менавіта такая думка напрошваецца пасля прачытання апавядання «Крыніцы».

Ці ўсё бездакорна ў кнізе? Не, не ўсё. Сустракаюцца ў ёй і пралікі. Не трэба было, як мне здаецца, уключаць у кнігу апавяданне «Ірынка» — невыразнае па сваёй ідэйнай задуме і слабае ў мастацкіх адносінах. Часамі пісьменнік не давярае чытачу, пачынае «разжоўваць» тое, што і так добра зразумела.

«Сонца праз воблакі» адрасавана дзецям і юнацтву. Але кнігу з ахвотай прачытаюць і дарослыя, бо каму ж з іх не захочацца вярнуцца ў краіну сваёй маладосці, успомніць пражытае і перажытае.

**Алесь МАКАРЭВІЧ.**

СТАРТЫ І ФІНІШЫ

# НОВЫЯ ІМЁНЫ—НОВЫЯ РУБЯЖЫ

Хто з хлапчукоў не праводзіў зайздросным позіркам чалавека з серабрыстым квадрацікам на штрыфелі пінжака? Хто з юных спартсменаў не марыць стаць майстрам? Гэта званне акружана ў нашым спорце павагай. Яго расцэньваюць, як свайго роду трамплін, адштурхоўваючыся ад якога спартсмен робіць імклівы скачок да сусветных вяршынь майстэрства. Чатыры-пяць гадоў назад майстрамі сталі героі мінулага, алімпійскага года Рамуальд Клім і Аляксандр Мядзведзь. А цяпер яны — мацнейшыя ў свеце ў сваіх відах спорту.

У маіх архівах захоўваецца даведнік, выдадзены шэсць гадоў назад. У ім указваецца, што ў 1957 годзе ў нас у рэспубліцы налічвалася 295 майстроў спорту. А цяпер іх падрыхтавана значна больш толькі за адзін апошні год. У гэтым яскравая прыкмета тых новых, высокіх рубяжоў, на якія выйшаў беларускі спорт.

Другая канферэнцыя Саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый Беларусі, якая праходзіла ў маі мінулага года, вызначыла, што для далейшага павышэння спартыўнага майстэрства, барацьбы за новыя рэкорды і паспяховага выступлення спартсменаў нашай рэспублікі на ўсесаюзнай і міжнароднай арэне неабходна падрыхтаваць у 1964 і 1965 гадах не менш 500 майстроў спорту. Гэтая задача паспяхова выконваецца.

Найбольш плённа працуюць па падрыхтоўцы майстроў спорту фізкультурныя калектывы і трэнеры нашай сталіцы. З 310 майстроў, якія папоўнілі авангард беларускага спорту ў мінулым годзе, каля палавіны выхавана ў Мінску. Гэта заканамерна: у сталіцы знаходзяцца лепшыя спартыўныя збудаванні, тут працуюць найбольш кваліфікаваныя трэнерскія кадры, адным словам — створаны найлепшыя ўмовы для ўдасканалення майстэрства спартсменаў.

У гэтым годзе ў Мінску ўвойдзе ў строй нямала выдатных спартыўных збудаванняў. Гэта створыць яшчэ больш спрыяльныя ўмовы для выхавання спартсменаў высокага класа.

Нельга, аднак, пры гэтым не заўважыць, што ўклад абласцей рэспублікі ў агульную справу падрыхтоўкі майстроў застаецца нязначны. Фізкультурнікі Гродна нядаўна атрымалі ў сваё распараджэнне выдатны спартыўны комплекс, у тым ліку стадыён і некалькі спартыўных залаў. Умовы для вучэбна-трэніровачнай работы як быццам бы палепшыліся. Аднак Гродзенская вобласць па-ранейшаму займае апошняе месца ў рэспубліцы па падрыхтоўцы майстроў спорту.

У горадзе на Нёмане існуе вядомая ўсёй краіне гімнастычная школа, створаная заслужаным трэнерам СССР Ранальдам Іванавічам Кнышам — спецыялістам, які выдатна ведае свой від спорту, любіць яго, валодае выключнай працавітасцю. Ім выхаваны чэмпіёнкі краіны Алена Валчэцкая і Тамара Аляксеева, здольныя майстры Людміла Рабкова і Галіна Грыбок, нямала юных таленавітых гімнастак. Вось калі б кожны трэнер у вобласці працаваў, як Р. І. Кныш, напэўна, справы ў гродзенцаў ішлі б інакш.

На Гомельшчыне і Віцебшчыне падрыхтавана ў мінулым годзе па 30 майстроў. Такі вынік далёка не адпавядае магчымасцям гэтых абласцей, якія валодаюць добрымі спартыўнымі традыцыямі, маюць вялікі атрад кваліфікаваных спецыялістаў. Цяжка паверыць, што сярод такой вялікай арміі рабочай і навучэнцкай моладзі, якая налічваецца ў гэтых абласцях, толькі тры дзесяткі здольных спартсменаў. Відавочна, трэнеры дрэнна шукаюць таленты, недастаткова мэтанакіравана працуюць са сваімі выхаванцамі.

Сярод спартыўных таварыстваў лепшых вынікаў у падрыхтоўцы майстроў дабіўся «Буравеснік» — звыш 50 майстроў. Гэта не багата. У кожнай жа вышэйшай навучальнай установе ёсць кафедра фізічнага выхавання, дзе працуюць вопытныя педагогі. Матэрыяльная база для развіцця спорту ў ВНУ пастаянна ўмацоўваецца. І тое, што ўчора здавалася вялікім дасягненнем, сёння ўяўляецца толькі сціплым вынікам.

Не могуць радаваць і вынікі работы буйнейшага прафсаюзнага таварыства «Чырвоны сцяг». За год крыху больш за 50 членаў таварыства пераадолела рубеж майстра. Дынамаўцы за гэты час папоўнілі свой авангард больш чым 30-цю майстрамі. Але ж «Дынама» — у сучасны момант — таварыства не такое шматлікае, як «Чырвоны сцяг». Яно не аб'ядноўвае такіх магутных калектываў, у яго няма спартыўных клубаў, якія па праву называюць маякамі фізкультурнага руху. Значыць, уся справа ва ўзроўні вучэбна-трэніровачнай работы са спартсменамі. Відаць, дынамаўцы тут займаюць больш перадавыя пазіцыі.

Калі гаварыць пра асобныя віды спорту, неабходна адзначыць поспех фехтавальшчыкаў. Трынаццаць беларускіх «мушкецёраў» у мінулым годзе дабіліся ганаровага звання майстра. Гэта больш, чым падрыхтавана ва ўсіх секцыях цяжкай атлетыкі, канькабежнага спорту, валейболу і боксу, разам узятых. А фехтаванне ж цяжка залічыць да масавых відаў спорту з-за складанасці абсталявання, недахопу баз для трэніровак і спаборніцтваў, нарэшце, з-за дарагавізны інвентару. Відаць, кіраўнікі федэрацыі фехтавання больш сур'ёзна, настойліва і, галоўнае, канкрэтна вырашаюць пытанні павышэння майстэрства спартсменаў.

Прыкметна папоўніліся рады майстроў — гімнастаў, грабцоў на байдарках і каноэ, стралкоў, лыжнікаў. Але самы вялікі прырост — у радах веласіпедыстаў і барцоў. Бясспрэчна, у секцыях па гэтых відах спорту працуе нямала вопытных і сумленных трэнераў, якія ўмела выхоўваюць спартсменаў. Аднак нельга закрываць вачэй і на недасканаласць спартыўнай класіфікацыі ў барацьбе і веласіпедным спорце. Выканаць норму майстра ў гэтых відах было непараўнальна лягчэй, чым, скажам, у лёгкай атлетыцы або плаванні. Таму не варта ні веласіпедыстам, ні барцам захапляцца сваімі поспехамі.

Таксама, між іншым, не трэба лёгкаатлетам і плыўцам празмерна спасылацца на цяжкасці, якія стаяць перад імі. Трэнеры ў гэтых відах спорту ў мінулым годзе папрацавалі намнога менш прадукцыйна, чым у папярэднім, 1963-м. Майстрамі сталі толькі тры плыўцы і пяць лёгкаатлетаў. Спасылкі на недахоп рэзерваў здольнай моладзі мала абгрунтаваны. На апошняй Усесаюзнай спартакіядзе школьнікаў выдатна выступілі і многія лёгкаатлеты з нашай рэспублікі. Ці ж гэта не рэзерв для папаўнення радоў майстроў? Аднак чэмпіёнка спартакіяды ў бегу на 100 метраў Ларыса Давідзюк за год нічколькі не прагрэсіравала. Знізіла свае вынікі і другая чэмпіёнка — Ніна Ждан. А хіба здоль-



Віцебская гімнастка Ларыса Петрык.

Мінскі фехтавальшчык Вячаслаў Саннікаў.



насцей у гэтых дзяўчат паменшылася? Відаць, трэнеры не знайшлі шляхоў, каб раскрыць іх здольнасці поўнасцю.

У большасці відаў спорту папаўненне атрада майстроў прыйшло з моладзі. Гэта самы радасны вынік мінулага года. Іменна тыя, каму сёння няма яшчэ і дваццаці гадоў, могуць разлічваць на сур'ёзныя поспехі ў далейшым. Іменна ім прадстаіць штурмаваць далёкія пікі мексіканскай алімпіяды і брацъ вышыні на юбілейнай чацвёртай Спартакіядзе народаў СССР у гонар 50-годдзя Савецкай улады.



Рапірыстка з Мінска Лена Новікава.

Яшчэ год назад мала хто ведаў віцебскую школьніцу Ларысу Петрык, а цяпер да яе ўжо прыглядваюцца кіраўнікі алімпійскай каманды па гімнастыцы. У мінулым годзе 15-гадовая віцебская школьніца стала чэмпіёнкай рэспублікі сярод дарослых, а на ўсесаюзным першынстве ў Кіеве перад Новым годам — абсалютнай чэмпіёнкай краіны. Яе, прама скажам, выдатныя здольнасці ў час прыкмеціў і развіў выдатны спецыяліст — трэнер Віцебскай дзіцячай спартыўнай школы Вікенці Дзмітрыевіч Дзмітрыеў.

На год старэйшая за Ларысу брэсцкая школьніца Зіна Давідчык — выхаванка трэнера Аляксандра Счаснага. У мінулым годзе на многіх спаборніцтвах яна пераадольвала ў скачках у даўжыню 6-метравы рубеж. У яе ёсць усе магчымасці, каб ужо ў гэтым годзе палепшыць рэкорд рэспублікі для дарослых спартсменак.

17-гадовая школьніца з Мінска Лена Новікава двойчы самым пераканальным чынам даказвала, што яна сапраўды па-майстэрску валодае рапірай. У жніўні Лена стала чэмпіёнкай Савецкага Саюза сярод моладзі, а ў лістападзе заваявала кубак Беларусі па фехтаванню для дарослых. Лена Новікава трэніруецца пад кіраўніцтвам заслужанага трэнера Беларусі Ларысы Пятроўны Бокун.

Чэмпіёнам краіны па фехтаванню сярод моладзі стаў таксама 19-гадовы студэнт інстытута фізкультуры Вячаслаў Саннікаў. «Сярэднюю школу» спартыўнага майстэрства ён скончыў у заслужанага настаўніка БССР Міхаіла Маркавіча Няпраўскага ў Брэсце, а цяпер удасканальвае сваё майстэрства пад кіраўніцтвам майстра спорту Аляксандра Аўсянкіна.

Гэта ж званне заваявалі фехтавальшчык гомельскі студэнт Венедзікт Лісоўскі і веласіпедыст мінчанін Леанід Бельскі.

Выдатныя здольнасці ў юнага плыўца Валодзі Пасечнічэнкі — выхаванца мінскага трэнера Вячаслава Іосіфавіча Дубовіка.

Хочацца яшчэ раз падкрэсліць, што гэтыя юнакі выканалі нарматывы майстра не дзе-небудзь у цяплічных умовах «мясцовых» спаборніцтваў, не ў спакойных абставінах, нібы (а іншы раз і ў сапраўднасці) створаных толькі для пераадолення запаветнага рубяжа, а ў самых гарачых спартыўных спаборніцтвах. Гэта сапраўдныя байцы спартыўных бітваў.

Лепшыя прадстаўнікі нашай спартыўнай моладзі прайшлі першыя выпрабаванні, атрымалі першую загартоўку. Наперадзе — новыя цяжкія вышыні майстэрства, якія трэба штурмаваць. І дарога даўжынёю ў тры гады — на Мексіку, на чарговую сусветную Алімпіяду.

Новыя рэкорды штурмаваць новым спартыўным талентам!

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**






*Для фотааматараў,*
*№ 2, люты, 1965*

*ЗБЯРОМ КРУПІНКІ ГІСТОРЫІ*

# ЗДЫМКАМ ПА ДВАЦЦАЦЬ ГОД

У гэтым выпуску фотаклуба мы працягваем публікацыю рэдкіх фатаграфічных знаходак.

Перад намі — тры здымкі, якія дайшлі да нас з часоў Вялікай Айчыннай вайны. Гісторыя двух з іх невядомая.

Шасцёра партызан, мяркуючы па ўскосных дадзеных, былі сфатаграфаваны недзе ў Магілёўскай вобласці. На арыгінале захаваўся надпіс: «Браты Максіменкі». Магчыма, яны ваявалі ў атрадзе, які дыслацыраваўся і ў сумежных з Беларуссю раёнах Бранскай або Смаленскай абласцей. Больш пакуль што пра гэтых людзей мы нічога не ведаем.

Які іхні лёс? Дзе яны нарадзіліся? Дзе іхні дом? Хто баявыя сябры





гэтых шасцярых. Шмат пытанняў выклікае здымак. Але хто можа цяпер, пасля дваццацігадовай даўнасці, адказаць нам на гэтыя пытанні? Хто можа ўспомніць, як ваявалі шэсць братоў Максіменкаў?

Гэта ж не часта бывала — шэсць братоў!..

Рэдакцыя спадзяецца, што сярод чытачоў знойдуцца людзі, якія дапамогуць адказаць на нашы пытанні, і яшчэ адна старонка баявой партызанскай славы будзе раскрыта.

Два другія здымкі — таксама партызанскія. Зроблены яны ў 1943 годзе ў Пінскім злучэнні. Аўтар аднаго з іх — партызан фотакарэспандэнт БЕЛТА Уладзімір Лупейка — паведаміў рэдакцыі:

«У час вайны мне здаралася часта бываць у многіх атрадах Пінскага злучэння. Там я пачуў расказ пра юнага разведчыка атрада імя Кірава. Гаварылі, што хлопчык часта ходзіць у фашысцкія гарнізоны і дастае вельмі каштоўныя звесткі. Гэта было ў 1943 годзе...

Мне давялося прайсці каля сарака кіламетраў перш, чым я трапіў у месца размяшчэння атрада. Нечакана на дарозе паказаўся хлопчык год дзесяці, з карабінам у руках.

— Пароль! — патрабаваў ён.

Мы разгаварыліся. Я папрасіў яго правесці мяне да камандзіра.

— Усе пайшлі граміць жалезку! Будуць дні праз два.

На пытанне, як яго імя, ён проста адказаў:

— Павел Канапацкі.

Гэта і быў той самы герой, якога я шукаў.

З вялікай крыўдаю гаварыў ён пра тое, што яго не бяруць на вялікія баявыя аперацыі.

— А я не горш за іншых рэйкі рваў бы!..

Я сфатаграфаваў Паўліка на пасту, ва ўсіх баявых доспехах. Збіраўся зрабіць яшчэ некалькі кадраў, але ён запратэставаў, даводзячы, што гэта перашкаджае яму несці баявую службу.

— А калі ты зменішся? — спытаў я.

— Не ведаю, — адказаў ён.

У лагеры заставаліся лічаныя людзі — у большасці гэта былі або раненыя або дзеці...

Дзе цяпер Павел Канапацкі, мне невядома. А так хацелася б даведацца аб яго лёсе!»

Пошукамі звестак пра Паўла Канапацкага заняліся супрацоўнікі Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.



І вось зусім нядаўна ў час наведвання музея групай былых пінскіх партызан пачуўся радасны во́кліч:

— Ведаю! Жывы!

І высветлілася... Быў названы адрас Паўла Іванавіча Канапацкага. Успомнілі пра яго баявыя справы. Расказалі пра тое, чым ён заняты цяпер. Наш карэспандэнт адразу ж паехаў да Паўла Іванавіча. Але пра вынікі паездкі мы зможам паведаміць нашым чытачам толькі ў наступных нумарах часопіса...

Пра другога юнага партызана з Пінскага злучэння вядома пакуль што мала. Ягонае прозвішча — Корж. Імя пачынаецца з літары Н, імя па-бацьку — з літары П.

Давайце, сябры, уключымся ў пошукі і паспрабуем калектыўна знайсці юнага патрыёта або атрымаць звесткі аб ім!



Канстанцін Якубовіч (Мінск). Адкрывальніца таямніц.

# ВОБРАЗ МАЛАДОГА СУЧАСНІКА

**Рэдакцыйны Савет фотаклуба «МАЛАДОСЦЬ» разам з фотасекцыяй Саюза журналістаў БССР аб'яўляюць конкурс на лепшыя здымкі па тэме: «ВОБРАЗ МАЛАДОГА СУЧАСНІКА».**

**Конкурс прысвячаецца 50-годдзю Савецкай улады.**

**Апошні тэрмін прысылкі здымкаў — 25 чэрвеня г. г. Лепшыя работы будуць публікавацца ў фотаклубе «МАЛАДОСЦЬ». Для пераможцаў устаноўлены тры дыпломы з памятнымі падарункамі. Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў ліпеньскім нумары часопіса.**

# СТУДЭНЦКІ МАТЧ

Ала Вярбоўская. Настрой.



Рыгор Ермашкевіч. Песня сяброў.



Сяргей Шаўчэнка. Рэпартаж.



Міхаіл Гераймовіч. Любіць — не любіць...



Міхаіл Пятрушка. Вечная тэма.

Група нашых чытачоў, мінскіх студэнтаў, прапануе правесці на старонках фотаклуба «матчавую сустрэчу» фотааматараў чатырох вышэйшых навучальных устаноў. Вырашылі стварыць каманды па пяць чалавек і памерацца сіламі ў галіне фотамайстэрства. Для спаборніцтва яны прапануюць па чатыры-пяць здымкаў на вольную тэму.

Спаборніцтвы будуць праведзены ў два туры. Асабісты састаў каманд ад тура да тура можа быць зменены. Па жарабю ў першым туры сустракаюцца: у лютаўскім нумары фотаклуба — каманды політэхнічнага і педагагічнага інстытутаў, у красавіцкім каманда інстытута народнай гаспадаркі і ўніверсітэта. Апублікаваныя фотаздымкі абмяркоўваюцца на занятках фотагурткоў або фотаклубаў інстытутаў. Каманды-пераможцы першага тура выстаўляюць па пяць новых фотаздымкаў для вызначэння пераможцы матча.

Для падрыхтоўкі да другога тура каманды атрымаюць дадатковы час: гэтыя фотаздымкі будуць апублікаваны толькі ў маі месяцы. Каманда — пераможца матча атрымае ўзнагароду (дыплом і памятны падарунак). Аўтары двух лепшых здымкаў першага тура таксама адзначаюцца сувенірамі.

І так, матч пачынаецца! На левай старонцы прадстаўлены педагагічны інстытут, на правай — політэхнічны.

Чытачы, якія жывуць не ў Мінску, запрашаюцца прыняць удзел у абмеркаванні фотаздымкаў па пошце.

Багдан Лапо. З падарожнага дзённіка.



Анатоль Палей. Восень.



Мікалай Байцоў. Фатограф надакучлы.



Эдуард Лук'янаў. «Калі пасля вахты гітару узяць...»





# ЗАХАПЛЕННЕ ІНЖЫНЕРА ЕЛІСЕЕВА

Сфатаграфаваць, напэўна, можна ўсё, што бачыць вока. Ці не таму кожны раз, калі мы адпраўляемся «за здымкам», так цяжка вырашыць, што ж імення і як трэба сфатаграфаваць, каб гэта было мастацтвам, а не проста дакументам.

Дакументальныя здымкі, вядома, маюць сваю каштоўнасць. З цягам часу іншы, здавалася б, самы просты дакументальны здымак набывае такое значэнне, якое немагчыма было прадугледзець. Аднак гутарка зараз не пра гэта.

Інжынер Мінскага аўтазавода Вадзім Елісееў захапляецца мастацкай фатаграфіяй. У навагоднім інтэрв'ю, апублікаваным у мінулым выпуску ФОТАКЛУБА, ён даў кароткую характарыстыку сваім пошукам. З яе мы даведаліся, што, прайшоўшы этап звычайнага «сямейнага фатаграфавання», ён адчуў у сабе мастака. Ён адчуў неабходнасць пастаянных зносін з прыгожым, стаў шукальнікам такіх аб'ектаў, якія дазволілі б стварыць здымкі-вобразы.

І вось перад намі некалькі яго работ. Давайце разбяромся ў іх разам.

Шлях да поспеху пачынаецца з аваладання мастацтвам бачання. Ці валодае Вадзім Елісееў здольнасцю чулага зроку? Ці ёсць у яго здольнасці фатографа-мастака?

Безумоўна, так.

Больш таго: у яго творчасці відаць ужо і пэўныя індывідуальныя рысы. Сярод мноства выяўленчых сродкаў ён аказвае яўную перавагу графічнай манеры. Ён любіць сакавіты, чорны сілуэт, хоць не далёкі і ад лёгкіх танальных пераходаў.

З прадстаўленых работ найбольш паказальная «Жыта». У ёй цікава перададзены рытм цёмных сілуэтаў жытнёвых калоссяў, поўная гармонія цёмных і светлых плям, сапраўдны «рух жыцця». Разам з тым, у здымку многага не хапае.



Ён робіць уражанне фрагмента вялікай фатаграфіі. У ім яшчэ многа ад фармальнага пошуку.

На здымку — «Адзінота» — пошукі аўтара закончыліся больш плённым вынікам. На вялікім светлым небе сумнае адзінокае дрэва. Не прэтэндуючы, напэўна, на вялікія філасофскія абагульненні, здымак гэты ўсё ж абуджае роздум. Адсутнасць у сюжэце фармальных прыкмет часу не дае, аднак, падстаў залічыць яго ў разрад несучасных, як гэта (няма чаго грахі таіць!) напрошваецца з першага позірку.

Двума другімі работамі Вадзім Елісееў заяўляе аб тым, што прыхільнасць да эфектнай перадачы прыроды ён хоча спалучаць з паказам чалавека, гарманічна з ёй звязанага.



На фатаграфіі, названай «Іней», людзі маленькія, а дрэвы здаюцца казачна вялікімі. Гэтыя суадносіны і дапамагаюць аўтару перадаць настрой людзей, якія цешацца паэзіяй прыроды. Падкрэсліваем — людзі не проста «прысутнічаюць» на здымку, а арганічна зліты з акаляючым асяроддзем.

Той жа мэце падпарадкаваны і здымак «Лета». Наша ўяўленне пераносіцца ў абстаноўку цёплага летняга дня. Мы знаходзімся разам з дзецьмі на беразе рэчкі. Чымсьці бесклапотным заняты двое малых злева. Трэці заваражаны чароўнымі блікамі на вадзе, музыкай струменьчыкаў і ласкавымі павевамі ветрыку... У гэтай непасрэднай сцэнцы знайшлі адлюстраванне ўсе галоўныя бакі, якія намячаюцца ў аўтарскай індывідуальнасці: эфектнасць кампазіцыйных элементаў, пераважнае выкарыстанне шчыльных тонаў і імкненне выразіць свае, елісееўскія адносіны да ўбачанага.

Аўтар задумёны ў пошуку, але становіцца рашучым нават рэзкім, аблюбаваўшы сюжэт. Трэніруючы сябе ў пэўных выяўленчых рашэннях, ён пакуль абыходзіць вялікую тэму, відаць, вельмі шануючы яе. У вялікую размову ён хоча ўступіць толькі дастаткова ўзброеным.

Інжынер Елісееў можа ганарыцца сваім захапленнем!

**Сямён ГЕРУС,**
**мастак.**

# А ЯК РОБІЦЕ ВЫ?

Розныя фатографы ставяцца да сваіх здымкаў па-рознаму. Гэта могуць лёгка даказаць супрацоўнікі кожнай рэдакцыі, у тым ліку і нашага часопіса, на шматлікіх прыкладах. Большая частка аўтараў прысылае ў рэдакцыю здымкі са стараннымі апісаннямі, укладзеныя ў шчыльную паперу, якая ахоўвае іх ад пашкоджанняў. Некаторыя нават укладваюць у канверт кавалак кардона, выразаны па размеру здымкаў. Гэтыя акуратныя людзі не забываюць паведаміць свой адрас, прозвішча, імя і імя па-бацьку. Іншыя ж змяшчаюць свае фатаграфіі ў звычайны паштовы канверт і адсылаюць іх, зусім не клапоцячыся пра тое, што рэдакцыя атрымае іх сапсаваныя і зусім непрыгодныя для клішыравання. Сакратарыят нашага часопіса далучаецца да думкі свайго чэхаславацкага калегі з «Праце», які так перафразіраваў старую народную прымаўку: «Скажы мне, як ты абыходзішся з фатаграфіямі, і я скажу, хто ты».

# ЗІМА АМАТАРАЎ ХВАЛЮЕ

Яна доўга не прыходзіла — зіма гэтага года...

Фотаздымкі заснежаных палёў і лясоў, лыжнікаў і канькабежцаў рэдакцыя пачала атрымліваць толькі напярэдадні Новага года. Аматары тонкіх светлавых суадносін, якімі такі багаты снежны покрыў, разам з аматарамі падлёдавага лову і скрыпу палазоў па снезе — ажылі і заспяшаліся навярстаць страчанае.

Першы здымак на зімовую тэму мы атрымалі з Рэчыцы ад аматара фатаграфіі і рыбалкі Анатоля Голубава. Ён назваў яго не без усмешкі — «Захапленне нумар адзін». Сюжэт — прыемны для вока. Шкада толькі, што аўтару не пашанцавала крыху — фігура другога рыбака надта цёмная і статычная: момант, пра які можна ўсклікнуць: «Спаймаў!», звычайна выглядае больш эмацыянальна. Для таго каб пазбегнуць цёмнай плямы, прапануем зрабіць іншую кадрыроўку здымка, і недахоп будзе значна меншы.



Студэнт політэхнічнага інстытута Міхаіл Гераймовіч выбраў вельмі зручны фармат для свайго здымка «Замяло». Панарама ўзлеску альховага гаю вобразна перадае пачатак зімы. Разумна выкарыстана сустрэчнае святло. Але аўтар, здаецца, яшчэ не навучыўся лабараторным прыёмам, якія дазваляюць штучна змяняць танальнасць таго ці іншага плана. У гэтым выпадку трэба было асвятліць задні план, цярпліва папрацаваўшы слабым растворам чырвонай крывяной солі або ёдам. Карысна і бясшкодна было б таксама ўдрукаваць зручную дэталь у пярэдні план.

Наогул, трэба многім нашым аматарам больш прадумана ставіцца да лабараторнай апрацоўкі, выпраўляючы выпадковасці на здымках гэтым шляхам і даводзячы гэтым работу да канца.

Мусіць, большасць чытачоў згодна будзе з тым, што здымак Мікалая Байцова «На Камсамольскім возеры ў Мінску» патрабуе абавязковага выпраўлення. Адчуваецца, што аўтар валодае добрай назіральнасцю, мае добры густ. Ён знайшоў аб'ект у цудоўнай танальнай перспектыве, да таго ж — з добрым, выразным зместам. Але фармат паперы прымусіў яго няўдала размясціць лінію гарызонту, падзяліўшы ёю здымак напалам. Нам здаецца, што гэты, наогул удалы, здымак трэба не шкадуючы зменшыць па памерах, зверху і па баках зрэзаўшы яго. Пасля такой аперацыі пейзаж зробіцца цэласным, увага яшчэ больш сканцэнтруецца на маладой парачцы, і тады работа зможа быць прапанавана нават для ўдзелу ў выстаўках фатаграфіі.

Вельмі пажадана бачыць у больш скупой кадрыроўцы і здымак работніка Мінскага аэрапорта Вечаслава Карагіна «Дзень цудоўны!». Зроблены ён на высокім тэхнічным узроўні. Нельга не пагадзіцца з Карагіным, што дзень, у які ён выбраўся ў лес, быў сапраўды цудоўны. Але — чаму мы павінны адразу бачыць так многа? Жаданнем зрабіць здымак багатым прыгожымі дэталямі аўтар, наадварот, збядніў яго. Няўдалая ў даным выпадку і амаль сіметрычная кампазіцыя.

Зіма яшчэ ў самым разгары, а гамяльчанін Рыгор Емяльянчыкаў прыслаў ужо здымак ледаходу на Сожы. Гэта — праца мінулага года. Мы ўключылі здымак у падборку зімовых пейзажаў з-за яго добрых мастацкіх якасцей і тэхнікі выканання. (Канечне, у паліграфічным выкананні ў часопісе гэты здымак выглядае зусім не так пераканаўча, як у арыгінале.) Здымак выклікае вясенні настрой, расказвае пра дыяментавы бляск кромкі лёду на рацэ, пра глыбокі блакіт вод, пра ўсё светлае і радаснае, што нясе вясна. Гэты здымак, безумоўна, нешта большае, чым простая рэгістрацыя факта.



«Задача мастацтва не ў тым, каб капіраваць прыроду, а ў тым, каб выяўляць яе», — гаварыў Анарэ Бальзак. Гэта кароткая фармулёўка павінна быць заўсёды ў памяці кожнага з нас, фатографаў. Для аматараў жа пейзажу — гэта аксіёма, без якой нельга працаваць.

Будзем жа больш думаць пра тое, каб выяўленчасць нашых здымкаў была дастойна цікавых сюжэтаў, пра якія мы жадаем расказаць людзям!

**Уладзімір ДАГАЕЎ,**
**фотакарэспандэнт газеты «Звязда».**





# НАШЫ КАНСУЛЬТАЦЫІ

**Чытачы А. Хаміцэвіч (Маладзечна), В. Шаўцоў (Гомель) і іншыя пытаюцца ў нас пра тое, што ўяўляе сабой лантанавая оптыка, якая ўпамінаецца цяпер у апісаннях раду аб'ектываў, і які эфект дасягаецца пры карыстанні ёю.**

**На гэтае пытанне адказвае член рэдакцыйнага савета фотаклуба «Маладосць» інжынер Ігар Прыезжаў:**

— Лантанавая оптыка—гэта новыя віды аптычных шкельцаў з вялікім паказальнікам пераламлення. Пры вырабе гэтых шкельцаў ужываюцца рэдказямельныя металы. Прымяненне лантанавай оптыкі ў фотакінааб'ектывах дае магчымасць значна палепшыць якасць адлюстравання, павялічыць адносную адтуліну або павысіць вырашальную сілу ў цэнтры кадра і па полі пры спрошчанай канструкцыі аб'ектыва. Так, напрыклад, прымяненне лантанавай оптыкі ў аб'ектывах тыпу «Індустар» дае магчымасць павялічыць адносную адтуліну пры куце поля зроку каля 54°—56° да 1 : 2,8 замест 1 : 4 — 1 : 3,5 і павысіць вырашальную сілу аб'ектыва па ўсім полі. У аб'ектываў тыпу «Трыплет» пры куце поля зроку каля 50° адносная адтуліна таксама атрымліваецца роўнай 1 : 2,8 (замест 1 : 4,5 — 1 : 4) з дадатковым выроўніваннем вырашальнай сілы па полі.

Гэтыя аб'ектывы, як правіла, маюць добрую каляровую карэкцыю, якая забяспечвае высокую якасць пры здымanні на каляровых матэрыялах і пры зменшаным віньецыраванні па краях кадра.

У сучасны момант з лантанавай оптыкай ужо выпускаецца аб'ектыў «Індустар-61» (фокусная адлегласць 5,2 см, адносная адтуліна 1 : 2,8, кут поля зроку 45°). Рыхтуецца вытворчасць аб'ектываў «Індустар-65» (фокусная адлегласць 26 мм, адносная адтуліна 1 : 2,8), Т—48 (фокусная адлегласць 45 мм, адносная адтуліна 1 : 2,8) і іншых.

## ПААСОБНАЕ ПРАЯЎЛЕННЕ НЕГАТЫВА

У венгерскім часопісе **«Фота»** апублікаваны рэцэпт дробна-зярністага праявіцелю для апрацоўкі плёнкі ў двух растворах. Мяркуючы па апісанні яго, гэты праявіцель валодае шэрагам значных пераваг у параўнанні са звычайным. Мы прапануем чытачам фотаклуба выпрабаваць новы рэцэпт праявіцелю. Паведамляючы нам пра вынікі выпрабаванняў, абавязкова ўкажыце від плёнкі, велічыню экспазіцый, тэмпературу раствораў і г. д. Вельмі добра было б атрымаць ад вас і негатывы, для таго каб можна было пераканацца ў іхняй дробназярністасці.

**Раствор «А»** (на 1000 куб. см вады).
Метол—6,8 г.
Сульфіт крышталічны—68 г.
Бромісты калій—3 г.
**Раствор «Б»** (на 1000 куб. см вады).
Сода бязводная—89 г.

Пры праяўленні растворы змешваць нельга. Трэба сачыць, каб у раствор «А» не трапіла ніводнай кроплі раствору «Б».

Плёнку (незалежна ад віду і адчувальнасці) у цемнаце наматаць на спіраль, на адну мінуту апусціць у раствор «А», потым, не прамываючы, хутка перанесці, таксама на адну мінуту, у раствор «Б». Трымаць плёнку ў растворы спакойна, не рухаючы. Потым крыху спаласнуць у вадзе, звычайна адфіксаваць, прамыць і высушыць.

Тэмпература праявіцелю можа быць ад 14 да 24 градусаў.

Перавагі гэтага праявіцелю такія: ім можна карыстацца ў вельмі шырокім дыяпазоне тэмператур з любым відам плёнкі, незалежна ад яе адчувальнасці і спосабаў вырабу; праявіцель валодае значнай выраўняльнай здольнасцю.






пад рэдакцыяй гросмайстра
Аляксея СУЭЦІНА

# «ПАСТКІ»

Гэты спакуслівы тэрмін вельмі часта дзейнічае на маладасведчаных шахматыстаў. Пад словам «пастка» звычайна разумеюць раптоўны тактычны манеўр, хітрую, хоць і не дальнабачную камбінацыю. Часцей за ўсё «пасткай» карыстаюцца ў хвіліну горкай патрэбы знайсці нейкі выхад. У добрым становішчы ў шахматыста няма неабходнасці рабіць рызыкоўныя хады. Ён павінен зыходзіць з ацэнкі пазіцыі, кіравацца цвёрдым планам дзеяння. Іншая справа — цяжкія сітуацыі на дошцы. «Пастка» ад нармальнай камбінацыі адрозніваецца перш за ўсё тым, што яна нічога не фарсіруе, а служыць толькі прынадай, спакусай. І ў гэтым яе цяжкасць. Трэба так завуаліраваць яе, так падаць, каб, накшталт гіпнозу, прымусіць нядбайнага партнёра на нейкі момант «заснуць» і трапіць у расстаўленыя сеці.

«Пастка» — не часты прыём у практычнай гульні. Партнёры не так часта трацяць пільнасць, бо пільнасць — самая неабходная якасць кожнага шахматнага байца.

Нярэдка гавораць пра «маленькія пасткі». Яны належаць да ліку так званых пабочных пагроз. Напрыклад, размова можа быць пра недатыкальныя пешкі, хоць бы ў варыянце:

1. e4 e6, 2. d4 d5, 3. Kc3 de, 4. К : e4 Kf6, 5. Cd3, і нельга, вядома, рабіць 5. ...Ф : d4?? з-за 6. Cb5+! і чорныя трацяць адразу ж ферзя за лёгкую фігуру. Такія псеўдапасткі фармальна могуць апраўдаць сваё прызначэнне. Тут адсутнічае галоўнае — мэтанакіраванае «каварства».

Зусім іншая справа наступны прыклад з практыкі двух майстроў мінулага.



Белыя: Крg1, Лb4; пп. b6 (3).
Чорныя: Крg4, Лd2; пп. f4, g3 (4).

Чорным вельмі цяжка рэалізаваць сваю матэрыяльную перавагу.

Гэта і прымусіла іх стаць на шлях «пасткавай гульні». Было зроблена: 1... Крg5!, 2. b7? (Белыя не турбуюцца. Правільна было толькі 2. Лb5+, заганяючы чорнага караля зноў на поле g4.)

Цяпер ідзе фарсіраваны фінал: 2. ...f3, 3. Лb1 Лg2+!, 4. Крf1 Лh2

Пагражаючы матам у адзін ход, чорныя выйграюць рашаючы тэмп.

5. Лb5+ Крg4, 6. Крe1.

У выпадку 6. Лb4+ чорныя выйгралі б шляхам 6. ...Крh3, а на 6. Крg1 вырашала 6. ...f2+, 7. Крf1 Лh1+. 8. Крe2 f1Ф+! і г. д.

6. ...Ле2+! Белыя здаліся.

На 7. Крd1 чорныя элементарна выйграюць шляхам 7. ...g2.

Напрошваецца вывад, што ў «пасткі» часцей за ўсё трапляюць пад уздзеяннем недаацэнкі пазіцыі праціўніка. Асабліва трэба быць уважлівым да тых хадоў партнёра, якія здаюцца нам промахам. Не трэба спяшацца ў такім выпадку рабіць звычайныя хады, трэба старанна ўзважыць усе схаваныя рэсурсы партнёра. Трэба памятаць, што: каб выйграць шахматную партыю, мала 40 выдатных ходаў, а вось каб яе прайграць, дастаткова аднаго кепскага хода! Асабліва ўважлівым трэба быць у добрых пазіцыях. У такім жа выпадку ў партнёра асабліва абвастраецца каварства і вынаходлівасць. У момантах, калі перамога блізкая, міжволі паяўляецца жаданне як мага хутчэй закончыць барацьбу. І тут трэба быць вельмі асцярожным. Колькі б урокаў не атрымаў шахматыст за час сваёй практыкі, заўсёды ёсць нейкія асаблівасці іменна ў данай пазіцыі, а часам і ў даным турнірным становішчы, таму вельмі цяжка даць адпаведныя рэцэпты на ўсе выпадкі гульні. Ужо што-што, а «пастка» — заўсёды арыгінальная і непаўторная.

Аўтар гэтых радкоў згуляў не адну сотню турнірных партый, і, вядома, не адзін раз бываў і ў ролі «злоўленага» і ў ролі «лоўчага».

Вось адзін з прыкладаў, які сустрэўся ў партыі з А. Гіплісам (чорныя) на XXV чэмпіянаце СССР.



Белыя: Крg1. Ла1 і d8, Сg5 : пп. е5, f2, g3, h4 (8).

Чорныя: Крf7, Фb4, Лс4; пп. а4, b5, е6, е7, g6, h7 (9).

Няцяжка пераканацца, што пазіцыя чорных, улічваючы іх чарговасць ходу, выйгрышныя. Але барацьба яшчэ не закончана. І гэтага чорныя не зразумелі. Імкнучыся канчаткова спрасціць пазіцыю, яны аўтаматычна згулялі: 1. ...Ле4?? У адказ было: 2. Сh6!, і раптам стала зразумелым, што чорныя павінны амаль што здавацца. Сапраўды, кароль чорных, «замураваны» сваімі ж пешкамі, знаходзіцца ў моцнай матавай сетцы. На 2. ...g5 белыя, вядома, не бяруць нешчаслівую пешку праціўніка, а прапягваюць проста 3. h5!, хутка «зацыроўваючы» на адно імгненне прарваную матавую сетку. У выпадку 2. ...Ле1+ белыя маюць магчымасць проста адказаць 3. Крh2, пакідаючы пад боем зусім не патрэбную ўжо ладдзю на а1. Для ажыццяўлення ж іхняй мэты дастаткова дуэта — ладдзі d8 і слана h6.

Калі думаць пра псіхалагічны бок «пасткавых камбінацый», дык нішто так не псуе настрой, як пападанне ў «пастку». Гэта пацверджана сотнямі прыкладаў з практыкі гульні. Нярэдка ў такіх выпадках даводзіцца чуць: «Не крыўдуеш, калі партнёр перайграў цябе па ўсіх правілах, але трапіць у пастку — гэта апошняя справа...» Ды шчыра кажучы, якое можа быць адчуванне ў чалавека, абдуранага на дробязі...

«Пасткавая гульня» не можа выклікаць павагі. Але з «пасткамі» заўсёды прыходзіцца лічыцца да самага заканчэння партыі.

Вось цікавы прыклад.

Трапіўшы ў цяжкае становішча, шахматыст — паставіў пад бой пешку і, разыграўшы раззлаванасць на сябе, з роспачу ўсклікнуў: «Што я нарабіў!?» Партнёр імгненна «схапіў» пешку, якая аказалася «атручанай», і яму засталося скардзіцца толькі на самога сябе ды на хітрага свайго праціўніка.

## Усмешкі маладосці

**Базыль ПАРАХОНЧЫК.**




**Гумарэска**

Мал. Г. Скамарохава.

У новенькіх пагонах старшыны і з бліскучым чамаданам у руцэ я ступіў, нарэшце, на драўляны тратуар роднай вуліцы. Некалі я пісаў ужо, што наш гарадок невялікі, ціхі і знаходзіцца ў тым месцы рэспублікі, якое завецца перыферыяй. І ўсё ж за час, пакуль я адбываў тэрміновую вайсковую службу, гарадок паспеў двойчы, як кажуць, перайсці з рук у рукі. Не думайце, што тут сапраўды адбываліся нейкія баталіі. Не. Першы раз гарадок «здаўся», калі пасля расфарміравання раёнаў адсюль перавялі райцэнтр. Ну, а другі раз «перамог» — гэта калі цэнтр раёна перавялі назад. Мае землякі адсвяткавалі сваё «аднаўленне» па ўсіх правілах, таму ўчастковы міліцыянер у першую ж ноч пасля звароту на ранейшае месца меў шмат клопатаў з вясёлымі гараджанамі.

Значыць, я вярнуўся ў матчын дом, два дні прымаў гасцей, сяброў і ўсіх, хто хацеў на мяне зірнуць, а на трэці дзень засумаваў без справы. Мой былы аднакашнік і сябар, сакратар райкома камсамола Мікола Зубрык сустрэў мяне, як свайго выратавальніка, з абдымкамі і нават ключ павярнуў у дзвярах, каб я не ўцёк.

— Ты наконт працы? Дык гэта ж цудоўна! Цябе сам бог паслаў! Прабач, я агаварыўся. Сама ідэя прывяла... Садзіся і будзем гутарыць...

Не даючы сказаць ні слова, ён пасадзіў мяне ў крэсла насупраць свайго стала, адсунуў убок тэлефонны апарат і запытаўся:

— Ты ў арміі быў старшыною?

— Так. Быў.

— Цудоўна! Проста мне шанцуе сёння...

Не разумеючы, куды Мікола хіліць, я не мог падзяліць яго захапленне, таму круціў у руках шапку, маўчаў і слухаў.

— Ты перад арміяй вучыўся ў вобласці на кароткатэрміновых курсах гандлёвых работнікаў?

— Так. Вучыўся. Месяц... Не скончыў...

— Нічога, нічога! — замахаў рукамі Мікола. Пасля выскачыў з-за стала, абняў мяне за плечы і ўмольна зірнуў у вочы:

— Выручы, Базыль, век цябе не забуду!

— А-а што ў цябе такое? У чым цябе выручаць трэба? — затрывожыўся я.

— Ведаеш, баюся казаць, але рубану прама, па-камсамольску.— Ён выцер спацелы лоб, сеў на сваё месца, закурыў і працягваў:— Ты памятаеш, як гады тры назад у нас пачалі будаваць магазін?

— Ну, памятаю...

— Дык вось... Нядаўна, як райцэнтр пераехаў сюды, яго закончылі, і ён пачаў працаваць. Але як! Няма ніводнага талковага прадаўца. Я маю на ўвазе адукаванага спецыяліста. Кожны тыдзень скаргі...

Я нарэшце скумекаў, куды гне Мікола, але не ведаў, што ён скажа далей. А ён працягваў:

— Я хачу цябе па камсамольскай пуцёўцы паслаць на працу ў новы магазін. Старшым прадаўцом. Ты быў старшыною, ты вучыўся на курсах...

— Прабач, але ж я вучыўся на бухгалтара...

— Нічога, нічога, не бойся... Пабудзеш з год прадаўцом, навядзеш парадак за прылаўкам... А тады... тады мы цябе ад імя райкома пашлем вучыцца ў гандлёвы інстытут. Перспектыва! Згаджайся, адразу даю пуцёўку!..

Перспектыва была заманлівая. Але як толькі я ўявіў сябе, апранутага не ў парадгнаны афіцэрскі шынель, які я насіў, карыстаючыся паблажлівасцю начальства, а



сіні памяты халат з кішэнькамі, мне стала няўтульна і холадна. Я нават прыўзняўся. Але Мікола пасадзіў мяне на месца.

— Ты камсамолец? Ты свядомы?

— Так, свядомы...

— А ты ведаеш, што ў нашым раёне дзевяць камсамольцаў даярамі працуюць і два свінарамі?..

— Н-не, не ведаю...

— Дык ведай... Яны свядомыя, яны самі пайшлі... А ты... Эх ты!..— Мікола, як здалося мне, нават слязу выцер. Мне стала шкада сябра.

Першы тыдзень я прымаў тавары для продажу ў сваім аддзеле. Ну, а папаўся мне аддзел самы турботны — верхняе мужчынскае і жаночае адзенне... Памагалі мне суседка злева — Зіначка з галантарэі і суседка справа — Верачка з гаспадарчага аддзела. Загадчык магазіна Сямён Сямёнавіч час ад часу выходзіў з невялікага пакойчыка, пазіраў на нашу мітусню і ківаў галавою:

— Кіньце вы так пільна ўсё пералічваць, тавары нідзе не дзенуцца. Галоўнае, каб іх куплялі, тады ўсё будзе ў парадку.— Затым загадчык звяртаўся да мяне асабіста:— Вы малады прадавец, а я, можна сказаць, вырас за прылаўкам. Вось вам мая парада: не давайце пакупніку апамятацца. Талент прадаўца ў тым і заключаецца, каб умела і хутка збыць самы не ходкі тавар і выканаць план.

Сямён Сямёнавіч хітра падміргнуў, а я сумна ківаў галавою і моўчкі перавешваў з месца на месца даўгаполыя паліто дапатопнага ўзору, шырачэзныя штаны, пінжакі з высокімі ватнімі плечукамі і круглыя зялёныя паўвайсковыя шапкі. Усё гэта былі вырабы мясцовай арцелі, і мой заўтрашні дзень паўставаў перада мною ў змрочных фарбах. Але адступаць было позна.

Сваіх пакупнікоў я абслугоўваў ветліва і культурна. Асабліва мужчын. Я па некалькі разоў вадзіў іх у прымерачную, круціў перад люстэркам, каб хоць як-небудзь падагнаць мешкаватыя і доўгі пінжак або шырачэзнае паліто. Я хацеў, каб вопратка сядзела на кожным з іх, як на маіх салдатах, якім я не так яшчэ даўно падбіраў абмундзіраванне. Жанчын і дзяўчат мне дапамагала апранаць у мясцовыя вырабы суседка злева — Зіначка. Нам было цяжка збываць залежалы тавар. Пакупнікі часта вярталі вопратку назад і патрабавалі свае грошы. Сямён Сямёнавіч у такіх выпадках злаваўся, коса пазіраў на мяне і на маю дабравольную памочніцу. І ўсё ж грошы вяртаў, а пакупку вешаў на ранейшае месца:

— Прыйдзе зіма, тады ўсё забяруць. Мароз прымусіць. Не паедуць жа яны за дзвесце вёрст у горад...

Так прайшоў месяц, настала зіма. Каб хоць чым-небудзь памагчы кліентам, я ўгаварыў сваіх суседак, і, седзячы кожны вечар да поўначы, мы перашывалі калечаныя пры нараджэнні паліто, касцюмы і сукенкі. Пакупнікі бралі іх, часам дзякавалі нам. Але часцей за ўсё патрабавалі кнігу скаргаў. «Дайце ім кнігу, няхай пішуць!» — гаварыў загадчык. І мы давалі кнігу. За квартал яна была спісана амаль да палавіны. Калі мы чыталі ўсе гэтыя запісы, нам, прадаўцам, не хацелася жыць на свеце і сорамна было выходзіць на вуліцу. Затое загадчык магазіна, гартаючы запісы, толькі з'едліва ўсміхаўся:

— Ну, ну, няхай пішуць... Цяпер граматных шмат...

Я назваў Сямёна Сямёнавіча бюракратам, і ў выніку нашы адносіны пагоршыліся. Аднойчы загадчык нават зрабіў мне вусную вымову. Гэта калі я кінуў прылавак і пабег на вуліцу даганяць вясковага дзядзьку, каб аддаць яму рэшту, якую той у спешцы забыў. Дзядзька думаў, што я даганяю яго, каб забраць назад паліто і пусціўся наўцёкі. Умяшаліся прахожыя. Пакуль усё высветлілася, адбыўся невялікі скандал.

«Вы кампраметуеце наш магазін!» — сказаў мне загадчык. І ўсё ж я працягваў сваю гандлёвую дзейнасць. Працягваў, каб дабіцца культурнага абслугоўвання пакупнікоў і, галоўнае, каб атрымаць для ўсіх іх добрыя рэчы на складзе ў вобласці. Я нават свайго сябра, сакратара райкома Міколу Зубрыка, хацеў уцягнуць у гэтую справу. Але той толькі замахаў рукамі:

— Братка, няма часу... Канферэнцыя на носе... Правяду, а тады возьмемся...

Скаргі ў магазіне раслі, тавары віселі, загадчык па-ранейшаму пасміхаўся, а я пачаў худзець і перастаў брыцца. Так было яшчэ з месяц. А тады... Тады адбыўся выпадак, які нечакана дапамог.

Неяк пад вечар мяне выклікалі да раённага начальства па гандлю і спыталі:

— Вы ведаеце, што сёння ў Сямёна Сямёнавіча юбілей?

— Не ведаю,— адказаў я.





— Мы так і ведалі, што вы не ведаеце. Дык вось слухайце: — Сёння ў раённым Доме культуры ўсе работнікі гандлю збяруцца на сход, каб павіншаваць вашага загадчыка з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння і трыццацігоддзем гандлёвай дзейнасці. Падрыхтуйце вось такі віншавальны адрас... Усё, можаце ісці.

Я схапіў паперку, што мне падсунулі, і пабег у магазін.

Гадзін да сямі вечара мы сядзелі ўтраіх і перапісвалі ў таўстую цыратавую папку віншаванне свайму начальніку.

«...Адзначаючы Вашу шматгадовую...» «...Вы моцна стаялі за прылаўкам...» «Вы адзін з тых, хто ні разу не сеў за інтарэсы працоўных...» Адрас быў даўжэзны. Мы скончылі яго перапісваць якраз тады, як пазванілі з райгандлю, што вечар пачынаецца. «Бяжым!» — загадаў я сваім суседкам і кінуўся зачыняць магазін. Зіна і Вера хуценька сабраліся.

Вечар быў што трэба. Прэзідыум, аркестр, публіка. Седзячы на сцэне побач з гандлёвым начальствам, я не зводзіў вачэй з юбіляра. Ён быў сапраўды, як імяніннік: памаладзеў, апрануўся ў святочнае. Чыталі даклад, чыталі прывітанні. Грымела музыка і апладысменты. Краем вока я бачыў, як у фае накрывалі сталы.

— А зараз са словамі прывітання выступае супрацоўніца магазіна, якім загадвае наш паважаны юбіляр, Зінаіда Іванаўна Драздова.

Зіначка хутка падбегла да трыбуны, папраўіла прычоску, усміхнулася і пачала даставаць загорнутае ў паперу віншаванне. Я зірнуў на яе, і ў мяне пахаладзела ў грудзях, зашумела ў галаве, а вочы палезлі на лоб: у Зіначкі ў руках быў не той віншавальны адрас, які мы нядаўна скончылі перапісваць, а кніга скаргаў з нашага магазіна. Тая самая злашчасная кніга, што спісана нараканнямі і скаргамі амаль да канца.

«Паважаныя таварышы гандлёвыя работнікі! Сёння, калі для савецкіх людзей нашы фабрыкі і заводы выпускаюць усё найлепшае...»

Начальства ўсміхалася і задаволена перашэптвалася, я правальваўся пад сцэну, а Зіначка пераводзіла дух і працягвала: «...Ваш магазін па-ранейшаму прапануе пакупнікам дрэннае і нізкаякаснае верхняе адзенне. Мы страшэнна абураны тым, што за добрым паліто або касцюмам трэба ехаць аж у абласны цэнтр...» У зале раптам стала ціха, барабаншчык з аркестра ад разгубленасці выпусціў з рук булавешку: яна грукнула ў барабан: «Бу-ум!» Юбіляр сагнуўся за сталом, нібы яму было не паўсотні, а ўсе сто гадоў. Старшыня прэзідыума заёрзаў на сваім месцы. Але Зіна нічога гэтага не бачыла і не чула. Яна працягвала чытаць напісанае: ...«Нашы заяўкі і скаргі ніхто ў магазіне не разглядае і не прымае ніякіх мер. Загадчык магазіна не клапоціцца, каб завозілі сучаснае адзенне...» Я механічна расшпіліў каўнер гімнасцёркі і выцер спацелы твар. У зале зашушукаліся: «Так, вось гэта правільна!..»

Не ведаю, што б яшчэ прачытала Зіна, але старшыня прэзідыума раптам зазваніў ключом па графіне з вадой і паказаў рукой, каб прамоўца пакінула трыбуну.

Юбіляру выступаць не прыйшлося. Пасля Зінінай прамовы былі адразу ж аб'яўлены танцы. Калі пасля да Зіны падышоў сакратар райкома і папрасіў паказаць «віншавальны адрас», яна толькі тады ўбачыла, што ў руках у яе кніга скаргаў, і пахіснулася.

Назаўтра раніцай, калі я прыйшоў у магазін, Зіна сядзела і плакала.

Неўзабаве прыйшоў Сямён Сямёнавіч, прывітаўся як ні ў чым не бывала і знік у кабінеце. А праз гадзіну за прылаўкам сабралася ўсё раённае начальства па гандлю. Пераглядзелі ўсе тавары. Палавіну з іх уцанілі, частку адаслалі перашываць у мясцовую арцель.

Калі ўсё скончылася, Сямён Сямёнавіч зняў акуляры і абвёў нас бацькоўскім позіркам:

— Старога чалавека зняславілі...

Мы маўчалі. Ды і што гаварыць?..






**ФЕДЗЮКОВІЧ Мікола** нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Гутава Драгічынскага раёна.

Працаваў у рэдакцыях раённых газет. Цяпер служыць у Савецкай Арміі.

**АСІПЕНКА Алесь** нарадзіўся ў 1919 годзе на Віцебшчыне. Герой яго твораў пераважна — малады сучаснік. Выйшлі з друку кнігі аповесцей і апавяданняў: «Лёд растае», «Подых кветак і працы», «Дарога ў даль», «Абжыты кут».

**МАЛЯЎКА Мікола** нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў на лесараспрацоўках у Карэліі. Цяпер вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

**НАВУМЕНКА Іван** (нарадзіўся ў 1925 годзе на Гомельшчыне) да нядаўняга часу быў вядомы чытачу як апавядальнік (зборнікі «Семнаццатай вясной», «Хлопцы-равеснікі», «Верасы на выжарынах»). Шырока вядомы стаў яго раман «Сасна пры дарозе». Нядаўна выйшла з друку аповесць «Бульба».

**ЦВІРКА Кастусь** нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Случчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Настаўнічаў і працаваў у беларускім радыё. Выйшлі з друку зборнікі вершаў «Такія сэрцы ў нас» і «Бягуць раўчукі».

**КУЛАКОЎСКІ Аляксей** нарадзіўся ў 1913 годзе на Старобіншчыне. Друкавацца пачаў пасля вайны. Аўтар шматлікіх зборнікаў апавяданняў, аповесцей «Гартаванне», «Нявестка», «Да ўсходу сонца» і іншых, раманаў «Расстаемся ненадоўга», «Сустрэчы на ростанях».

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**Вершы беларускіх паэтэс.**

**Апавяданні Клары ПІШЧЫКАВАЙ і Васіля ХОМЧАНКІ.**

**Артыкул Андрэя ДУЛАВА «ТАЯМНІЦЫ КРАМЛЁЎСКАГА СКАРБУ».**

Мастацкі рэдактар Я. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Тэлефоны: 93-854 — сакратарыят, 93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення; 93-775 — фотаклуб «Маладосць».

Фармат паперы 70×108[1]/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 6995. Цана 40 кап.
АТ 0418. Здадзена ў набор 4/I-65 г. Падпісана да друку 1/II-65 г. Зак. 654.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.











Б. Цырко. На будаўніцтва нафтаправода.



В. Савіцкі. Фрунзе ў штабе Заходняга фронту.